

**Гродзенская эвангелічна-лютаранская кірха сьв.Яна.**
Здымак 1993 г.

# Зьмест



• Нацыянальныя •
• этнічныя •
• культурныя •
• моўныя •
• рэлігійныя •
меншасьці
ў Беларусі




**Інфармацыйна-культурны бюлетэнь**

**Вясна 1996 No.3**


*Выданьне фінансуецца Беларускім Фондам Сораса.*

*Наклад 499 асобнікаў.*

***Выдавец:*** *„Эўрофорум“ — Цэнтар Эўрапейскіх Досьледаў і Культурных ініцыятываў Група па абароне й дасьледаваньню нацыянальных меншасьцяў*




# Ад рэдакцыі

Трэці нумар інфармацыйна-культурнага бюлетэню „Форум“ працягвае традыцыю тэматычных нумароў. На гэты раз у поле ўвагі нашых аўтараў патрапілі „рэлігійныя меншасьці“ і, больш канкрэтна, нэапратэстанцкія грамады Беларусі.

Фэномэн рэлігійных меншасьцяў у Беларусі патрабуе сур'ёзнае ўвагі й грунтоўнага вывучэньня. Па-першае, як заўжды, бракуе фактычнага матар'ялу, шмат у чым дзякуючы таму, што самі меншасьці не асабліва давяраюць дзяржаве й не імкнуцца даваць пра сябе ня толькі „праўдзівыя“, а ўвогуле якія-кольвек зьвесткі. А грамадства, захопленае эпахальнымі пераўтварэньнямі й відавочнымі супрацьстаяньнямі, імі папросту не цікавіцца.

Па-другое, сама „намэнклятура“ рэлігійных меншасьцяў у Беларусі выклікае пэўныя пытаньні. Звычайна да рэлігійных меншасьцяў далучаюць усе канфэсіі за выняткам праваслаўя й каталіцызму. Каталікі, хаця фармальна зьяўляюцца меншасьцю, сваёй значнасьцю й сваім уплывам відавочна перасягаюць межы гэтага фэномэну. Але ні для каго ня ёсьць сакрэтам, што ані праваслаўе, ані каталіцызм ня маюць у Беларусі выключна канфэсійнага характару: праваслаўе традыцыйна зарыентаванае на Маскву і выступае як рэлігійна-культурная канфэсія, каталіцызм грае істотную ролю ў захаваньні саматоеснасьці польскай нацыянальнай меншасьці Беларусі. Ці падпадае тады пад вызначэньне рэлігійнае меншасьці, прыкладам, Беларуская Каталіцкая Грамада альбо Беларускае праваслаўнае брацтва?

І як быць з уніятамі — самай пакрыўджанай меншасьцю ў Беларусі? Уніяты не ўтвараюць асобнай канфэсіі, яны ёсьць каталікамі ўсходняга абраду і фармальна нібыта „ня маюць правоў“ на абарону. Да таго ж ім закідаюць тое, што яны ў большай ступені культурна-рэлігійная, а ня чыста рэлігійная супольнасьць. Але ўсе гэтыя тонкасьці й нюансы зусім не адмяняюць таго базавага факту, што ўсе дзесяць гадоў свайго постсавецкага рэальнага існаваньня ўніяты знаходзяцца пад няспынным і ганебным уціскам як уладаў, так і дзьвюх галоўных канфэсіяў нашае краіны: праваслаўя і каталіцызму рымскага абраду. Неверагодны факт: пры больш чым чатырохсотгадовай традыцыі гэтай супольнасьці менскія ўніяты ня маюць (дзякуючы адпаведнаму стаўленьню ўладаў) свайго Храму.

І гэта толькі праблемы „галоўных канфэсіяў“. Што ўжо казаць пра поўную абыякавасьць беларускага грамадзтва да праблемаў іншых канфэсіяў (і ня толькі хрысьціянскіх). Пяцісотгадовая прысутнасьць мусульманства ў Беларусі проста вымагае ўключэньня пэўных базавых зьвестак аб ім у беларускія школьныя падручнікі, ня кажучы ўжо пра цалкам непрыстойную адсутнасьць асобных курсаў на гуманітарных факультэтах. Пратэстанцкія й нэапратэстанцкія суполкі трывала зьвязаныя ў грамадзкай сьвядомасьці з вобразам „замкнёных сэктантаў“. У той жа час нашыя аўтары спрабуюць давесьці, што нэапратэстанцкія суполкі — адна з самых дынамічных і „агрэсіўных“ рэлігійных меншасьцяў у Беларусі, якая ў постсавецкія часы зазнала сапраўдны рэнэсанс і ўжо пачынае выцясьняць традыцыйныя хрысьціянскія канфэсіі зь іхных „гістарычных“ тэрыторыяў. Ці то сапраўды меў рацыю Макс Вэбэр, і „дух капіталізму“ найбольш спрыяе разгортваньню менавіта „пратэстанцкай этыкі“?

* * *

Зрэшты, бліжэйшыя пэрспэктывы „полiканфэсійнасьці“ й „мультыкультурнасьці“ ў Беларусі дастаткова сумныя. Ужо пачалася дзяржаўная гістэрыя па „праваславізацыі“ беларускай дзяржавы й „адзяржаўліваньню“ праваслаўя. Ужо пачаўся ўціск на каталіцкіх місіянэраў і нэапратэстанцкіх прапаведнікаў. Дзяржаўная палітыка „ціхага ўдушэньня“ ўніятаў дасягнула свайго апагею. Мусульманства й юдаізм, як „экзатычныя“ рэлігіі, знаходзяцца на глыбокай пэрыфэрыі грамадзкае сьвядомасьці. Беларуская дзяржава сёньня ёсьць неправавым і нелегітымным апаратам прымусу, для якога нацыянальныя, этнічныя, культурныя і рэлігійныя меншасьці выступаюць ня ў якасьці партнэраў, а ў якасьці разьменнай манэты на перамовах з суседзямі альбо зь міжнароднымі арганізацыямі.

Зноў вяртаецца час дысыдэнцтва. Праблема абароны меншасьцяў (у тым ліку й абароны беларускай моўна-культурнай меншасьці) зноў выходзіць на першы плян.

*Ігар БАБКОЎ*

# Стала роднай ім беларуская зямля...

## *Да 600-годзьдзя татарскага асадніцтва на землях Беларусі, Летувы й Польшчы, распачатага пры Вітаўце Вялікім*

*Ібрагім КАНАПАЦКІ*



**Ібрагім Канапацкі, канд. гіст. навук, дацэнт катэдры гісторыі Беларусі Беларускага пэдагагічнага ўнівэрсытэту, віцэпрэзыдэнт Беларускага згуртаваньня татараў-мусульманаў „Аль-Кітаб“.**

**У 1970 годзе скончыў гісторыка-геаграфічны факультэт Менскага пэдінстытуту, у 1975 годзе — асьпірантуру. У 1978 г. пасьпяхова абараніў кандыдацкую дысэртацыю. Вывучае міжнацыянальныя дачыненьні ў Беларусі, гісторыю, рэлігію і культуру беларускіх татараў. Аўтар 2 манаграфіяў, 3 брашураў, больш за 150 артыкулаў наконт гэтых праблемаў. У 1993 годзе выйшла навукова-папулярнае выданьне „Беларускія татары: мінулае і сучаснасць“, напісанае І.Канапацкім у сааўтарстве з маскоўскім гісторыкам С.Думіным.**

بسم الله الرحمن الرحيم ❁
الحمد لله رب العلمين ❁ الرحمن الرحيم ❁
ملك يوم الدين ❁ اياك نعبد واياك
نستعين ❁ اهدنا الصراط المستقيم ❁
صراط الذين انعمت عليهم ۝ غير المغضوب
عليهم ولا الضالين ❁

Словы, што вынесены на пачатак артыкулу, сьвятыя: „У імя Аллага Міласьцівага, Міласэрнага. Уся хвала належыць Аллагу, Гаспадару Сусьвету, Міласьціваму, Міласэрнаму, Валадару Суднага Дня. Табе аднаму мы пакланяемся і Цябе аднога мы молім аб дапамозе. Скіруй нас на шлях праўдзівы, шлях тых, каго ты адарыў Сваім дабром, тых, хто не наклікаў на сябе Тваёй няміласьці, і тых, хто не заблукаў“.

З гэтых словаў мусульмане звычайна пачынаюць усякую гаворку, зь імі бяруцца за больш-менш сур'ёзную справу. Не адступім ад гэтага правіла й мы, распачынаючы аповед на старонках гэтага артыкулу...

Пройдзе яшчэ два гады, і ў Беларусі, у Летуве і ў Польшчы будзе адзначацца знамянальная падзея, дзень нараджэньня цэлага народу — 600-годзьдзе пасяленьня татараў на землях Вялікага княства Літоўскага.

Шэсьць стагодзьдзяў жывуць тут, на гэтай зямлі, нашчадкі выхадцаў з даўно забытых ордаў, жывуць поплеч зь беларусамі, палякамі, летувісамі, гэбраямі... Тут іх Радзіма, гэтай зямлі шэсьць ста-

годзьдзяў служылі іхныя продкі. Нашчадкі ардынцаў носяць імя татараў, але яшчэ чатырыста гадоў таму перайшлі на старабеларускую мову.

Сёньня татараў адрозьнівае ад астатніх мясцовых жыхароў перш за ўсё рэлігія. Іслам, зьберажоны імі ў хрысьціянскім атачэньні, садзейнічаў захаваньню супольнасьці, вылучаў і вылучае гэтую групу, і менавіта з рэлігійнай сфэрай зьвязаны шматлікія традыцыі, звычаі тутэйшых татараў. Але ёсьць і іншае — шасьцісотгадовая гісторыя, упісаная ў гісторыю Вялікага княства Літоўскага, Беларуска-Летувіскай дзяржавы, якой іхныя продкі заўсёды служылі вераю і праўдаю.

У гэтым артыкуле аўтар распавядае пра паселішчы татараў у Беларусі, пра іхную мінуўшчыну й дзень сёньняшні, пра звычаі, традыцыі, помнікі матар'яльнай і духоўнай культуры, створаныя татарамі на беларускай зямлі.

У францысканскім штогодніку за 1324 год паведамлялася, што браты, якія выправіліся ў краіну Літоўскую з мэтай агалошваньня навукі Хрыстуса, нечакана сустрэлі там людзей, што прыбылі з краю нейкага хана і адпраўлялі малітвы сваёю моваю азіяцкай. Амбасадар ангельскага караля Джыльбэрт дэ Ляноў, які ў лютым 1414 году ехаў зь Вільні ў Прусію праз Трокі, у дзёньніку адзначыў, што ў многіх вёсках вялікая колькасьць татараў, якія маюць асаблівую мову, званую татарскай.

Пытаньне пра паходжаньне беларускіх татараў (або літоўскіх — ад назвы тае дзяржавы, у якой яны жылі), пра тыя стасункі паміж Залатой Ардой і суседзямі, што прывялі да пасяленьня татараў у Ліцьве, не магло не прыцягнуць увагі вучоных — гісторыкаў, філёлягаў, этнографаў. Таму літаратура наконт гэтага пытаньня даволі вялікая.

Зьяўленьне татараў на тэрыторыі сучаснай Беларусі вучоныя тлумачаць па-рознаму. Але, на нашую думку, найбольш пераканаўчым можна лічыць меркаваньне прафэсара Пецярбургскага ўнівэрсытэту, нашага земляка з Навагародчыны Антона Мухлінскага. У сваёй кнізе „Исследование о происхождении и состоянии литовских татар“ (1857) ён піша: „Татарскае насельніцтва ўзьнікла [...] з трох элемэнтаў: 1) з аселых наёмных і хаўрусных воінаў татарскіх ордаў; 2) з улусаў, прыгнаных Вітаўтам [...]; 3) з выхадцаў, што стаміліся ад нязгоды ў сваёй Айчыне і самі дабраахвотна перасяліліся ў Літву“. Што ж датычыць часу перасяленьня татараў у Беларусь, дык амаль усе вучоныя лічаць, што татары зьявіліся тут напачатку XIV стагодзьдзя. Так, акадэмік Я.Карскі ў працы „Культурныя заваёвы расійскай мовы ў даўныя часы на заходняй ускраіне ёйнага краю“ і ў „Працах зь беларускай і іншых славянскіх моваў“ пісаў, што „татары-магамэтане жывуць цяпер асобнымі астраўкамі ў розных месцах Беларусі, напрыклад, у Вільні, Менску ды іншых гарадох і мястэчках. Зьявіліся яны тут ужо з пачатку XIV стагодзьдзя, некаторыя дабрахвотна для барацьбы з крыжакамі; часткова яны склаліся з розных палонных ды іншых татараў“.

Спрэчным дагэтуль застаецца пытаньне пра колькасьць татараў, што жылі ў Беларуска-Летувіскай дзяржаве ў XIV-XVI стст. Так, напрыклад, у ананімнай працы беларускага татарына, якая атрымала назву ў гістарычнай літаратуры „Рысале-і-татары-і-Лех“ (1557-1558 гг. — 965 год паводле мусульманскага летазьлічэньня) гаворыцца, што колькасьць татараў у Вялікім княстве Літоўскім дасягае 200 тыс. чалавек (трэба мець на ўвазе, што тады Вялікае княства ўключала ня толькі этнічную Беларусь і Летуву, але і велізарныя прасьцягі на поўдзень ад Беларусі, дзе татараў тады было шмат на памежжы з Крымскім ханствам). Чыжэўскі — аўтар „Альфуркана“, пасквілю на татараў — называе лічбу 100 тысяч. Усе сучасныя дасьледнікі лічаць прыведзеныя лічбы моцна перабольшанымі. А.Мухлінскі, напрыклад, выказвае меркаваньне, што ў XVI-XVII стст. татараў у межах Рэчы Паспалітай было 20—25 тыс. чалавек. З гэтай лічбай згаджаецца Дж.Александровіч. Станіслаў Дзядулевіч выводзіць колькасьць татараў у Вялікім княстве Літоўскім у розныя часы наступным чынам: у XV ст. — 10 тысяч, у XVI ст. — 30 тыс., у пачатку XVII ст. — 40 тыс., у другой палове XVII ст. — 10 тыс. і ў 1897 г. — 13877 чалавек. О.Гурка паддае крытыцы ўсе довады сваіх папярэднікаў і лічыць, што татараў у Вялікім княстве Літоўскім жыло ў XVI ст. 7 тысяч чалавек, а ў XVII ст. — 9 тыс. чалавек. Ю.Талька-Грынцэвіч прыводзіць наступныя статыстычныя дадзеныя для другой паловы XIX ст. і пачатку XX ст.: 1849 г. — 5049 чал.; 1851 г. — 5788 чал.; 1897 г. — 13013 чал.; 1912—1915 г. — 12680 чалавек. Да гэтага хацелася б дадаць адно

важнае ўдакладненьне. Ужо ў XIX ст., пасьля захопу земляў Вялікага княства Літоўскага Расійскай імпэрыяй, на гэтай тэрыторыі сталі дзе-нідзе пасяляцца прадстаўнікі цюркскіх народаў Крыму, Паволжа, Каўказу. Бальшыня зь іх таксама называлася татарамі. Зразумела, працэс той працягваўся і ў XX стагодзьдзі. Сёньня з 12,5 тысяч татараў, якія насяляюць Беларусь, 3,2 тысячы назвалі сваёй роднай мовай татарскую. Гэтая акалічнасьць бясспрэчна сьведчыць пра тое, што ўсе яны не належаць да нашчадкаў старадаўніх асаднікаў-татараў часоў Вялікага Вітаўта.

Беларускія татары складаюць асаблівую, спэцыфічную нацыянальную групу. Адна з характэрных прыкметаў прыналежнасьці да памянёнай групы — славянамоўнасьць. Урэшце, беларускія татары, цюркі з паходжаньня (яны захавалі даволі выразны ўсходні воблік) у мове, побыце вельмі блізкія да славянаў, але разумеюць сваю нацыянальную адметнасьць. Нават тыя татары, чые продкі прынялі хрысьціянскую веру, перажаніліся з хрысьціянкамі ўжо ў некалькіх пакаленьнях, памятаюць аб сваім татарскім паходжаньні, прыязна ставяцца да татараў, бяруць удзел у іх культурна-асьветных справах. Культурныя, генэалягічныя традыцыі, нягледзячы на агульную рэлігію — іслам, адрозьніваюць беларускіх татараў ад іншых сучасных татарскіх перасяленцаў.

Зьяўленьне ў Вялікім княстве Літоўскім цюркска-татарскага насельніцтва стала вынікам безупынных і разнастайных дачыненьняў з Залатой Ардою. Сёньня, калі цюркалёгія дасягнула вялікіх посьпехаў, ніхто ня будзе адмаўляць высокай культуры Залатой Арды, культуры, якая склалася на грунце сярэднеазіяцкіх элемэнтаў пад перакрыжаваным уплывам далёкаўсходняй (кітайскай) і пярэднеазіяцкай араба-пэрсыдзкай культуры.

Між іншым, у эпоху А.Мухлінскага (сярэдзіна XIX ст.) панавала пэўнае перакананьне ў дзікунстве татараў і прымітыўнасьці іхнае культуры, у выніку чаго А.Мухлінскі знаходзіць магчымым, разглядаючы прычыны пасяленьня татараў у Вялікім княстве Літоўскім, многае прыпісаць асабістым заслугам князёў літоўскіх і іхнай гуманнасьці. „Калі ўся Эўропа ўзбройвалася мячом і нянавісьцю супраць мусульманаў, — піша аўтар, — тады разважлівая палітыка князёў літоўскіх зь любоўю і гасьціннасьцю запрашала ў свае ўладаньні татараў, якія вымушаны былі з розных прычынаў пакідаць сваю радзіму і дабрахвотна перасяляліся ў Літву [...] нават з палоннымі татарамі літоўскія князі абыходзіліся вышэй таго веку і чужых прыкладаў. Рахманасьцю і бяспрыкладнай цярплівасьцю да іхнае веры Вітаўт як бы прывязаў да сябе ўсіх татараў [...] татары лічыліся тады выдатнымі стралкамі і вершнікамі [...]. Ужо князь Гедымін, заснавальнік магутнай Літоўскай дзяржавы, здолеў заваяваць дружбу манголаў [...]“.



**Беларуская татарка ў нацыянальным строі**

Такім чынам, ужо з гэтых кароткіх урыўкаў відаць і тыя ўзаемадачыненьні, што ўсталяваліся паміж Залатой Ардою й Вялікім княствам Літоўскім напачатку ягонага існаваньня, і сапраўдная дружба паміж літоўскімі князямі і мангола-татарскімі ханамі. Аточаная рускімі княствамі з усходу і ваяўнічымі ордэнамі — Лівонскім ды Тэўтонскім, Беларуска-Летувіская дзяржава вымушаная была шукаць падтрымкі і апірышча ў магутнай Залатой Ардзе.

У Арабскім халіфаце ўжо ў першым дзесяцігодзьдзі Хіджры (пасьля 622 году) цюркі адыгрываюць вялікую ролю спа-

чатку як найміты-жаўнеры, а пазьней і як военачальнікі... Арабы ім вылучаюць землі для пасяленьняў у асабліва небясьпечных з стратэгічнага гледзішча мясьцінах. У Бізантыі было таксама прынята разьмяшчаць ваенныя паселішчы на Дунаі, насяліўшы іх цюркамі-вандроўнікамі.

Шырока практыкавалі сыстэму выкарыстаньня цюркскіх народаў як ваеннапамежнага элемэнту бізантыйскія імпэратары. Своеасаблівы дух авантурызму штурхаў вандроўнікаў-цюркаў да няспынных войнаў з суседзямі або паміж сабою, і было лёгка намовіць іх да вайны з кім-небудзь ужо праз адно толькі імкненьне да паходнага жыцьця й надзеі на здабычу. І ў тым куце Ўсходняе Эўропы, дзе сыходзіліся межы славянскіх паселішчаў і вандроўі заходніх цюркскіх ордаў — спрадвеку было прынята зьвяртацца да іх (цюркаў) па садзеяньне пры вырашэньні розных спрэчак паміж аселымі народамі.

Ужо ў войску Сьвятаслава ў часе ягонае вайны зь Бізантыяй (каля 970 году) былі на службе печанегі; яны ж або іхныя супляменьнікі разьбілі Сьвятаслава каля дняпроўскіх парогаў, калі той вяртаўся ў Кіеў. Загінуў і сам Сьвятаслаў (972 г.).

Крыху пазьней (985 г.) торкі, або вузы, складалі коньніцу войска Ўладзімера Сьвятаславіча ў ягоным паходзе на камска-волскіх булгараў. Гэтыя ж торкі пад назваю чорных каптуроў складалі пазьней, аж да мангольскага нашэсьця, памежныя паселішчы ў Кіеўскай, Пераяслаўскай, Чарнігаўскай, Галіцкай землях і дапамагалі рускім князям абараняцца ад полаўцаў і іншых вандроўнікаў, што насядалі з усходу.

У сваім нястрымным імкненьні дасягнуць новых, нязьведаных краінаў печанегі, полаўцы, мадзьяры і вузы, безумоўна, імкнуліся прабрацца і ў бок Беларусі. Так, у 1107 годзе рускія князі на чале з Уладзімерам Манамахам стрымалі напад полаўцаў пад Лубнамі.

Але ніколі яшчэ цюркскія вершнікі не прабівалі сабе шлях так далёка на поўнач і захад, як у часе паходаў Батыя, заснавальніка Ўлуса Джучы — Залатой Арды. Паклаўшы канец (1238 г.) палавецкай дзяржаве, разграміўшы рускіх князёў, хаўрусьнікаў полаўцаў, Батый у бітве пры Лігніцы (1241 г.) атрымлівае перамогу над кааліцыяй эўрапейскіх дзяржаваў. У гэтай кааліцыі ўдзельнічаў, дарэчы, і Тэўтонскі ордэн крыжакаў, заснаваны ў Палестыне (1128 г.) і пераведзены праз сто гадоў у Прусію, у нізоўі Віслы (1228 г.).

На гэты час прыпадае, відаць, і першае знаёмства залатаардынскіх войскаў зь Літвою: сярод разбураных мангола-татарамі гарадоў называюцца Слонім і Навагрудак. На працягу другой паловы XIII стагодзьдзя войскі залатаардынскіх ханаў неаднаразова нападалі на Вялікае княства Літоўскае. Зімою 1258 году шматлікія войскі палкаводца Бурундая спусташалі землі Вялікага княства Літоўскага. „Таго жа лета, — чытаем у летапісе, — узяша татарове ўсю зямлю Літоўскую, і са многім палонам і багацтвам ідоша ў сваясі“. Летапісы ды іншыя пісьмовыя крыніцы ўтрымліваюць зьвесткі пра паходы татараў у Літву і заходнярускія землі ў 1275, 1277 і 1287 гадох. Паміж 1280 і 1288 гадамі аддзелы цемніка Нагая пабывалі ў Берасьці, Наваградку і Горадні. Неўзабаве і родзічам Нагая, які загінуў у барацьбе з ханам Такта (1300 г.), прыйшлося шукаць прытулак у Польшчы. Пра гэта нам паведамляюць арабскія гісторыкі. Рукнайдын Бэйбарс у сваім летапісе паведамляе: „...У тым самым годзе (701 Хіджры або 1301 г.) уцёк Каракісэк, сын Джэкі, сына Нагая. Разам зь ім уцяклі два родзічы ягоныя — Джэрактэмір і Юлукутлу. Гэта адбылося тады, калі хан Такта забіў брата свайго Сарайбугу і сына Нагая — Турая (за мяцеж супраць хана — *Аўт.*), то [...] паслаў, каб прывялі да яго Каракісэка. Тады апошні і дзьве згаданыя асобы ўцяклі. Уцёкі закінулі іх у краіну Шэшымэн, у мясцовасьць, якая называлася Будуль, недалёка ад Кракава. Разам зь ім выправілася каля 3 тысяч вершнікаў. Шэшымэн і гаспадары ягоныя прынялі іх у сябе, і яны засталіся ў іх, вандруючы па розных мясьцінах і пракормліваючы сябе мячамі (сваімі) да нашага часу...“ Такім чынам, як бачым, месцазнаходжаньне татарскіх воінаў, якія „пракормлівалі сябе мячамі“ ў Польшчы на мяжы XIV ст. не падлягае сумневу, і верагодна, што ў ліку тых розных месцаў, па якіх яны вандравалі, была і Літва, і суседнія зь ёю землі. У такім выпадку зьбіральніку літоўскіх земляў князю Гедыміну сам лёс спрыяў у ягоным імкненьні арганізаваць самастойнае войска, здольнае супрацьстаяць наступу крыжакаў і зьберагчы Літву ад долі Прусіі, народ якой гінуў у няроўнай барацьбе з крыжакамі.



**Татарскі ротмістар у войску Вялікага княства Літоўскага**

Ужо на самым пачатку княжэньня Гедыміна (1319 г.) татары ў вайне ліцьвінаў з Тэўтонскім ордэнам складаюць перадавое войска. Да таго ж неабходна дадаць, што насельніцтва Беларуска-Летувіскай дзяржавы было ў той час нешматлікім, і жаданьне засяліць свой край было другім немалаважным аргумэнтам, якім кіраваўся Гедымін, пасяляючы ў сябе татараў. Адгэтуль і надзяленьне татараў землямі і наданьне ім усялякіх ільготаў ды прывілеяў — аж да ўраўнаньня татарскіх вышэйшых фэадалаў зь літоўскімі магнатамі. Верагодна, Гедымін да канца сваіх дзён захоўваў сяброўскія стасункі з Залатою Ардою. Ён не плаціў даніны ханам, як гэта рабілі рускія князі, але і не ваяваў з татарамі: яму, занятаму клопатам, як бы ўмацаваць магутнасьць Літвы і абараніць яе ад разбуральных нашэсьцяў Тэўтонскага ордэну, было не да вайны з такой магутнаю дзяржаваю, якой была Залатая Арда часоў хана Ўзбэка (1312-1340). Таму паход Гедыміна на Валынь, Кіеў і Крым каля 1320 г. — ня больш чым легенда.

У 1341 годзе Гедымін загінуў у бітве пры аблозе рыцарскага замку. Ягоны сын Монвід працягваў палітыку бацькі, і паход крыжакаў у Літву (1345 г.) скончыўся для іх поўнаю паразай.

Хан Джанібэк (1342-1357 гг.), сын Узбэка, ваяваў супраць палякаў на Падоліі, калі каралём Польшчы быў Казімер Вялікі (1343-1370 гг.). Польшча ў гэты час афармілася ў моцную дзяржаву, але была безнадзейна адрэзана ад Балтыйскага мора Ордэнам. Таму з большай энэргіяй скіраваў сваю ўвагу Казімер Вялікі на Чырвоную Русь і Валынь, захапіў Холмшчыну і Ўладзімер-Валынскі, які дагэтуль належаў Ліцьве і імкнуўся ўклініцца ва ўладаньні Літвы і Залатой Арды.

Джанібэк, войскі якога былі разьбітыя палякамі пад Люблінам, не сьпяшаўся ўзяць рэванш, бо быў заняты ў наступныя гады (1344-1347) заваяваньнем генуэскіх калёніяў — Таны (Азова) і Кафы.

Літоўскія князі былі, відаць, занепакоеныя ваяўнічымі памкненьнямі польскага караля Казімера Вялікага і націскам на Літву Тэўтонскага ордэну, які дзейнічаў у хаўрусе з Польшчай, і ў 1348 г . літоўскі князь Альгерд (1345-1377) пасылае свайго брата Карыята да хана Джанібэка з просьбай аб дапамозе.

Праз 2 гады (1350 г.) князь Кейстут, брат Альгерда, ідзе паходам на Польшчу. У ягоным войску была шматлікая дружына, якая складалася з татараў. Безумоўна, татарскія войскі былі і ў Альгерда, які захапіў Чарнігаўскую зямлю (1356 г.) і Кіеў; яму прыпісваецца і захоп Падоліі, якой валодалі тры браты — татарскія князі Хачыбэй, Кутлуга і Дзімітрый, якія былі, як адзначае летапіс, „вотчычамі і дзедзічамі“ Падольскае зямлі. Гэтая падзея адбылася каля 1363 году, калі доўжылася Мамаева бунтаніна ў Ардзе, распачатая каля 1360 году.

У другой палове XIV стагодзьдзя на арэну палітычнае барацьбы за ідэю стварэньня магутнай цюркскай дзяржавы выступае Цімур. Яму наканавана было адыграць значную ролю ў справе далейшага прытоку ў Беларуска-Летувіскую дзяржаву цюрка-татараў.

*(Працяг будзе)*

# *История и современные проблемы немцев Беларуси*

*Александр МАЙСНЕР*



**Аляксандар Майснэр нарадзіўся ў 1937 г. у сям'і паволскіх немцаў. Разам з бацькамі быў дэпартаваны ў Сібір. Выпускнік Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі імя Ціміразева. Пасьля заканчэньня асьпірантуры ў АН Беларусі працаваў у Інстытуце экспэрымэнтальнай батанікі АНБ. З 1990 г. — старшыня Беларускага таварыства немцаў „Адраджэньне", сябра міждзяржаўнай Рады немцаў былога СССР.**

История появления немцев в Беларуси тривиальна. Как и во многие страны бывшего СССР, в Беларусь немцы приезжали по собственной инициативе в поисках „лучшей доли" и по приглашению местных властей, видевших в немцах деловых и надёжных партнёров. Имеются, например, сведения о том, что Великий князь Гедимин (1316—1341) для работы в Княжестве Литовском (куда входила и территория современной Беларуси) приглашал ремесленников из ганзейских городов Любека и Бремена. К XVI веку относится переселение немцев в Полоцк и Витебск. В первом из этих городов существовал так называемый немецкий торговый двор.

Восемнадцатый век явился новым этапом в истории белорусских немцев. В 1790 году на территории бывшего Брест-Литовского уезда Гродненской губернии (земли Радзивиллов) выходцами из Вюртемберга основываются колонии Нейбров и Нейдорф. Несколько позже достаточно активно немцами заселяется район Белостока (территория современной Польши). К этому времени (согласно переписи 1897 года) около десяти тысяч немцев жило в тогдашней Гродненской губернии, более семи тысяч — в Витебской, четыре тысячи — в Минской и две — в Могилёвской губернии.

Историки свидетельствуют, что большинство немецких переселенцев занималось земледелием, однако немцы Гродненщины специализировались также на обработке хлопчатобумажных изделий. Много среди них было аптекарей, служащих при железных дорогах, управляющих имениями и арендаторов.

В нескольких городах и сёлах Беларуси, где жили немцы, имелись лютеранские святыни-кирхи (Минск, Могилёв, Витебск, Полоцк). При кирхах функционировали приходские школы. Религиозность способствовала развитию таких тра-

диционных форм общественной деятельности, как благотворительность, о чём свидетельствует, например, существование в начале 1910 годов в Витебске Немецкого Благотворительного Общества.

Следует отметить, что исторически немцы Беларуси являлись разновременными переселенцами. Об этом свидетельствует, в частности, волна миграции их из Волыни в Белорусское Полесье, которая пришлась на начало двадцатого века (1909—1910 гг.). С началом первой мировой войны многие из них попадают в глубь России в результате принудительного переселения. Однако после окончания войны многим удалось вернуться в места своего старого проживания. В середине двадцатых годов в БССР проживало 7075 немцев, большинство из них — в тогдашнем Мозырском округе. В немецких поселениях имелись национальные школы. В середине 30-х годов учителей для них готовили в педагогических вузах Автономной Республики Немцев Поволжья и частично в Ленинграде. В районных газетах Наровлянского и Ельского районов в 1930-х годах ряд материалов публиковался на немецком языке.

С усилением режима тоталитаризма постепенно сворачивается национальное строительство среди немцев Беларуси, закрываются школы, ликвидируются национальные сельские Советы (такие тоже были). В начале 40-х годов немцы подпадают под принудительное выселение. После второй мировой войны немецкая этническая группа Беларуси восстанавливается за счёт переселения из различных регионов СССР, и при достаточно быстром её приросте (в 1976 году — 2451 чел., в 1989 году — 3527 человек) приходится вести речь о восстановлении только половины довоенной численности немецкого населения. В настоящее время официальная статистика насчитывает в Республике Беларусь 3,5 тысячи этнических немцев. Ещё около 7 тысяч лиц от смешанных браков также причисляют себя к нашему этносу. Большинство из названных мною граждан хотят остаться немцами и для этого избирают нередко радикальный путь решения проблемы — выезд в Германию. Однако, в любом случае часть людей останется в местах их нынешнего проживания. Кроме того, поток уезжающих мог бы быть существенно сокращён, если бы для удовлетворения этнических запросов нашего населения хоть что-то всерьёз делалось на местах.

В 1990 году нами организовано общество немцев Беларуси „Видергебурт“ и зарегистрирован центр немецкой культуры. В рамках этих организаций мы изучаем язык, историю, культуру немцев Германии и СНГ, проводим официальные и дружеские встречи. Однако таких мер явно недостаточно для нашего этнического возрождения. И дело здесь не только в сложностях, с которыми приходится сталкиваться руководству центра, совмещая основную и общественную работу, но и в том, что трудности современного быта не оставляют людям времени для любительского занятия языком и другими атрибутами национальной культуры, которые потом не находят спроса в реальной жизни.

Поэтому решить наши этнические задачи всерьёз можно лишь адекватными, серьёзными мерами, в числе которых мы видим, например, строительство в Беларуси комплекса с условным названием „Центр немецкой культуры“. В состав Центра, по нашему представлению, помимо административного здания, должны входить сооружения образовательного, культового, оздоровительного, социально-бытового, производственного назначения. Очевидно, что в совокупности комплекс этих сооружений мог бы функционировать по принципу самообеспечения и самоокупаемости, а реализация самой идеи позволила бы процесс общения между нашими соплеменниками перевести со стихийного пути в русло повседневной и естественной жизни. А если учесть, что в строительстве и эксплуатации Центра с самого начала предполагается участие и германской стороны, усиливающее возможность наших контактов с соплеменниками, то реализация данного проекта практически полностью соответствовала бы нашим целям — процессу естественного закрепления белорусской диаспоры немцев в родственной ей этнической нише.

Должен отметить, что для реализации данного проекта имеются реальные предпосылки. Во-первых, Республика Беларусь стоит на пути из Германии в „большую“ Россию и может служить для Германии удобным „опорным пунктом“. Кроме того, связь Германия-Беларусь также будет крепнуть, и наше место (место немцев Беларуси) — посередине этой связи. Представляется, что полезность данной миссии очевидна со всех позиций.

Реальность предпосылок строительства Центра вытекает также из анализа проделанной нами работы. В данный момент мы располагаем, к примеру, 50 га земли, отведённой под застройку Центра. Объект застройки расположен в 30-километровой зоне города Минска и в 200 метрах от магистрали Брест-Москва, являющейся интенсивным транспортным узлом направления Восток-Запад. Разработан бизнес-план, предусматривающий размещение в посёлке (Центре) 1000 человек. Определена инфраструктура посёлка, позволяющая вовлечь в хозяйственную и этнокультурную деятельность практически всё немецкое население Беларуси, а также лиц немецкого происхождения, прибывающих из горячих точек СНГ.

Наличие сельскохозяйственных угодий определило профиль хозяйственой деятельности. В частности, предусмотрено строительство цехов по переработке сельхозпродукции и древесины. Созданием подобных объектов будут решены проблемы круглогодичной занятости рабочей части населения деревни и выпуск продукции, необходимой для потребления на местах и для реализации с целью получения прибыли, позволяющей, с одной стороны, рассчитаться с кредиторами, а с другой — организовать и расширить сеть культурно-хозяйственных объектов как в центре, так и в других регионах Республики Беларусь.

Строительство деревни (Центра) планируется осуществить в рамках закрытого акционерного общества, учреждённого Белорусским обществом немцев „Возрождение", колхозом „Коминтерн" Дзержинского района Минской области, Обществом „Содружество", специализирующимся в области охраны и реконструкции немецких захоронений I—II мировых войн.

Являясь общественным объединением республиканского уровня, Белорусское общество немцев „Возрождение" имеет свои структурные подразделения в городах: Бобруйск, Витебск, Гомель, Гродно. Основная цель объединений — возрождение языка, культуры, традиций немцев, а также создание материальной базы, направленной на реализацию данной проблемы. Производственная деятельность в структурных подразделениях Общества ориентирована на создание совместных предприятий с различными субъектами хозяйствования Республики Беларусь. Она предполагает также широкое участие в них партнёров из Германии.

Нужно отметить, что строительство немецкого Центра под Минском (как, впрочем, и культурно-хозяйственных очагов, ориентированных на немецкую диаспору в различных регионах Беларуси) положительно оценено на всех уровнях власти, включая Верховный Совет и Кабинет Министров Республики. Имеющееся двухстороннее соглашение о защите инвестиций между Германией и Беларусью создаёт юридическую предпосылку для совместной деятельности. Соблюдены и политические нормы межнационального общения, так как проектируемый нами Центр лишь в языковом и культурологическом смысле должен быть немецким. Работа и проживание в нём (как, впрочем, и в других очагах компактного проживания нашего этноса) гарантированы для лиц любой национальности.

Остаётся сказать, что, распространяя данную информацию, мы преследуем очевидную цель — найти конкретных партнёров (прежде всего с германской стороны), которые с выгодой для себя могли бы принять участие в реализации наших проектов, позволяющих, как уже отмечалось, ускорить и углубить связь между Германией и Беларусью, радикально решить этнические проблемы значительной части немцев Беларуси. А также сократить поток эмигрантов в Германию, негативно отражающийся как на стране, из которой (или в которую) люди эмигрируют, так и, нередко, на самих переселенцах. ■

*Юрась ВАШКЕВІЧ*

# *Польская прэса ў Беларусі*

Неабходнасьць стварэньня пэрыядычнага польскамоўнага выданьня ўзьнікла адразу пасьля зьяўленьня першых польскіх культурна-асьветных арганізацыяў у Беларусі. Пасьля шэрагу самастойных захадаў у кірунку адраджэньня польскасьці такая патрэба сталася відавочнаю, бо менавіта газэта найлепшым чынам магла адыграць ня толькі аб'яднаўчую ролю, але й стварыць магчымасьць для масавага абмену думкамі наконт праблемаў нацыянальнага жыцьця. Пэўны ўзор у тыя часы ўжо існаваў, бо ў Вільні пасьля Другой сусьветнай вайны выдавалася штодзённая газэта „Czerwony Sztandar" — на польскай мове, адзіная ў былым СССР. З пачаткам „перестройки" ды ўзмацненьнем першых у СССР пасьля 1945 г. польскіх грамадзка-культурных таварыстваў на тэрыторыі Летувы, яна сталася своеасаблівай трыбунаю ўсіх савецкіх палякаў. Ейная рэдакцыя атрымоўвала шмат допісаў і матар'ялаў таксама зь Беларусі. Гэтак грамадзкая патрэба паступова пераўтваралася ў рэальнае дзеяньне, вынікам якога было заснаваньне Польскім культурна-асьветным таварыствам імя А.Міцкевіча ў Горадні ўласнае газэты „Głos znad Niemna". Першы яе нумар пабачыў сьвет 2 сьнежня 1989 г. у Вільні й меў невялікі наклад. Пэрыёдык пачаткова ня быў афіцыйна зарэгістраваны й выходзіў нерэгулярна. Ягоны набор рабіўся ў суседнім Беластоку, а друкаваньне й распаўсюджваньне вялося ў Горадні і Гарадзенскай вобласьці, а таксама праз нешматлікія на той час польскія арганізацыі рэспублікі. У 1990 г. „Głos znad Niemna" быў афіцыйна зарэгістраваны, пачаў выходзіць больш рэгулярна як штомесячнік. Паступова была абсталяваная рэдакцыя ў Горадні, і ўся праца над пераўтвораным у штотыднёвік выданьнем перанеслася туды. З моманту, калі „Głos znad Niemna" быў уключаны ў агульнарэспубліканскі каталёг пэрыядычных выданьняў, ён стаў даступны на ўсёй тэрыторыі краіны як афіцыйны орган Зьвязу палякаў Беларусі.

Спэцыфіка штотыднёвіка як адзінага агульнарэспубліканскага польскамоўнага друкаванага выданьня адбіваецца, натуральна, і на ягоным зьмесьце. На старонках „Głosu" прысутнічаюць літаральна ўсе жанры журналістыкі: навіны й паведамленьні, рэпартажы, публіцыстыка й допісы чытачоў, успаміны і літаратурна-гістарычныя артыкулы, інфармацыя аб рэлігійным жыцьці, перадрукі і агляды польскай, беларускай і сусьветнай прэсы. Шмат увагі прысьвячаецца польскаму школьніцтву ў Беларусі, краязнаўчай тэматыцы, сувязям з Польшчай ды іншымі краінамі, дзе жывуць палякі. Апошняя паласа газэты — гумарыстычна-забаўляльная. Магчыма, такая мадэль можа падацца залішне стракатай, але трэба памятаць, што „Głos znad Niemna" — гэта сёньня газэта для ўсіх і пра ўсё. Такі яе характар дыктуецца ўмовамі існаваньня польскага друкаванага слова ў нашай краіне. У палякаў Беларусі няма ў гэтым сэнсе выбару, як, напрыклад, у расійцаў, якія маюць амаль што неабмежаваны доступ для разнастайнай прэсы на сваёй роднай мове.

За шэсьць гадоў свайго існаваньня „Głos znad Niemna" стаў сапраўднай народнай газэтай. Шмат хто з нашых суродзічаў прызнаецца, што пачынае чытаць прэсу менавіта зь яе. Безумоўна, недахопы газэты відавочныя. Тычацца яны перш за ўсё моўнага ўзроўню. Дзесяцігодзьдзі дэнацыяналізацыі і адсутнасьць шырокага інтэлігенцкага асяродзьдзя, прафэсійна падрыхтаваных польскамоўных журналістаў — усё гэта вельмі адчувальна адбіваецца на мове газэты. Але досьвед назапашваецца паступова. Менавіта дзеля атрыманьня аўтэнтычнага досьведу „Głos" выдаецца выключна на польскай мове, а сябры рэдакцыйнай калегіі вывучаюць практыку дзейнасьці

польскіх выданьняў, падтрымоўваюць сувязі з калегамі-журналістамі польскамоўнай прэсы Эўропы і Амэрыкі.

З 1992 па 1994 гг. таксама ў Горадні выходзіў агульнарэспубліканскі штоквартальнік Зьвязу палякаў „Magazyn Polski“. Пасьпела выйсьці толькі пяць нумароў гэтага цікавага і зьмястоўнага часопісу, рэдакцыйны стандарт якога быў на даволі высокім узроўні. Выданьне было прыпынена галоўным чынам праз недахват фінансавых сродкаў і адсутнасьць адпаведнае матар'яльна-тэхнічнае базы (значны аб'ём, трохколерны друк, вялікая колькасьць фотаздымкаў ды ілюстрацыяў). Падобны лёс напаткаў і іншае пэрыядычнае выданьне „Cudowna Podróż“, разьлічанае на дзяцей і моладзь. Газэта нерэгулярна выходзіла працягам 1993—1994 гг. і нават нейкі час распаўсюджвалася па падпісцы, але хутка спыніла сваё існаваньне.




З узмацненьнем польскага культурнага жыцьця і ўзьнікненьнем усё большае колькасьці арганізацыйных структураў паўстала натуральная патрэба ў заснаваньні лякальных выданьняў, што, дарэчы, адпавядае сучаснай практыцы пэрыядычнага друку. Першай ластаўкай тут была лідзкая гістарычна-краязнаўчая газэта „Ziemia Lidzka“, якая вось ужо пяць гадоў выпускаецца тамтэйшым Таварыствам польскай культуры Лідчыны пры дапамозе Фонду імя Т.Ганевіча зь Любліну. Зьявіліся польскія бюлетэні ў Баранавічах і Нясьвіжы.

Перашкоды ў пашырэньні польскага друкаванага слова ў Беларусі выкліканы зусім не адсутнасьцю праблемаў і тэмаў, вартых асьвятленьня ў прэсе. Галоўнымі перашкодамі застаюцца дзьве асноўныя, безь пераадоленьня якіх немагчыма з упэўненасьцю глядзець у будучыню. Першая зь іх — адсутнасьць дастатковай колькасьці журналісцкіх кадраў і крытычны стан польскае мовы сярод палякаў Беларусі. Другая — матар'яльна-фінансавыя цяжкасьці, выкліканыя пэрманэнтным крызысным становішчам краіны. Пэўнаму выпраўленьню сытуацыі магло б спрыяць пашырэньне інфармацыйнае прасторы за кошт стварэньня спрыяльных умоваў шырокага доступу да прэсы, што выдаецца ў Польшчы, якая ані ў геаграфічным, ані ў моўным сэнсе зусім ня ёсьць для Беларусі „далёкім замежжам“. Сёньняшняя ж палітыка беларускіх уладаў у гэтай галіне сьведчыць пра імкненьне захаваць агульную інфармацыйна-культурную прастору выключна з Расіяй. ■

*Марцэлі КОСМАН*

# *Кальвіністы ў культуры Вялікага княства Літоўскага*

## *Адметныя элемэнты й чужыя ўплывы*

У выдадзеным у 1967 годзе сынтэтычным творы Е. Ахманьскага „Гісторыя Літвы" чытаем: „Запачаткаваная Марцінам Лютэрам у 1517 г. царкоўная рэфармацыя не магла абмінуць Літвы. Сутнасьць рэфармацыі палягала ня столькі ў крытыцы рэлігійных догматаў каталіцкага касьцёла, сколькі ў спробе падрыву ягонай усемагутнасьці ў грамадзтве, вызваленьня ад эканамічнага і грамадзкага ўціску касьцёла. Асобныя клясы грамадзтва, што падпадалі пад рэфармацыю, часам мелі на відавоку розныя мэты. Багатыя мяшчане не маглі цярпець таго, што царква асуджала ліхвярства. Гэта перашкаджала ім у іх фінансавых апэрацыях і зьмяншала прыбыткі. Інтэлігенцыя бачыла ў рэфармацыі прадвесьце свабоды думкі і веравызнаньня. Тым ня менш рэфармацыя хутчэй не закранала народныя масы ў Ліцьве. Занадта моцны ўплыў усё яшчэ на яе аказвала паганства, каб захапляцца рэлігійнымі навеўвядзеньнямі. Сяляне не давалі дзесяціны царкве, а ўціск быў ня толькі ў царкоўных гаспадарках"[1].

**Марцэлі Косман — вядомы польскі гісторык, дасьледнік і знаўца гісторыі Вялікага княства Літоўскага, аўтар шматлікіх артыкулаў і манаграфіяў на гэтую тэму. Яго ж пяру належыць „Historia Białorusi" (Wrocław, 1979) — адзіная ў сьвеце, што была выдадзеная па-за межамі нашае краіны.**

**Жыве й працуе ў Познані.**

У Вялікае княства Літоўскае былі перанесены ўнівэрсальныя рысы рэфармацыйных рухаў. Паганства было афіцыйна заменена на каталіцызм, які зрабіўся пануючым толькі напрыканцы XIV стагодзьдзя, хаця ўлады — як і ў схрысьціянізаваных краінах — на сваім двары карысталіся паслугамі манахаў, асабліва ў дыпляматыі[2], а бальшыня падданых адвеку вызнавала праваслаўе. Царква арганізацыйна была слабой у параўнаньні з магнатамі, якія хутка павялічвалі сваю магутнасьць, і абшарнікамі, якія чакалі прывілеяў на польскі ўзор; зямлі ўрабляліся няшмат (каля 5% ральлі, калі ў Кароне 12%), ліхвярства ня мела значэньня, багатае мяшчанства павінна было сфармавацца пазьней. Насельніцтва — праўда — было яшчэ дужа зьвязанае з старымі вераньнямі, і рэлігійныя дыскусіі ў Польшчы яго не цікавілі[3].

Меркаваньні дасьледнікаў веравызнаўчых адносінаў у Ліцьве ў XVI ст. былі ўлічаны ў новым выданьні згаданай працы, якое пабачыла сьвет праз пятнаццаць гадоў, а таксама ў наступным выданьні 1990 г.[4] Але тым ня менш паранейшаму трэба ўлічваць цесную сувязь рознаканфэсійных рухаў у Вялікім княстве з спэцыфікай тагачаснай[5] дзяржавы, што ахоплівала беларускія і летувіскія землі, і пры разглядзе сувязяў паміж хрысьціянскімі веравызнаньнямі ў XVI-стагодняй Эўропе, а таксама каталіцызмам і пратэстантызмам у яго розных варыянтах паміж Трыдэнтам і першым ватыканскім саборам. Калі мы гаворым аб занадта сфармалізаваных ацэнках у гісто-

рыяграфіі, варта зьвярнуць увагу на атаясамленьне ў працах савецкіх дасьледнікаў сёньняшніх адносінаў з тымі, якім налічваецца некалькі стагодзьдзяў: я маю на ўвазе схематычнае стасаваньне перадусім пайма „Літва“ ў ейных сёньняшніх межах да сытуацыі, што склалася ў часы Ягайлы. Мяжа паміж гэтай рэспублікай і Беларусяй, што стаўляе Салечнікі на адным баку, а Беняконі на другім, ніколі не існавала і ёсьць адно вынікам распаду Савецкага Саюзу. Віленшчына і Наваградчына заўсёды станавілі сабой цэласьць з узаемна пранікаючым славянска-балтыйскім насельніцтвам, прычым першае адыгрывала дамінуючую ролю як у сталіцы Вялікага княства, так і ў яе ваколіцах таксама і пасьля ўпадку шляхецкай дзяржаўнасьці. Пісаньні аб замежнай палітыцы Летувы ці навуцы ў Летуве ў XVI ст., а таксама аб езуітах у Беларусі за часоў Вазаў толькі заблытваюць сапраўдны стан рэчаў[6].

Таму пераходзячы да адметных элемэнтаў і чужых уплываў у рэфармацыйным руху — асаблівую ўвагу зьвяртаючы на рэфармісцкі эвангелізм, які захоўваўся найдаўжэй і быў адаптаваны грамадзтвам, пачаўшы выконваць спэцыяльную ролю нават пасьля аднаўленьня незалежнасьці ў пэрыядзе паміж дзьвюма сусьветнымі войнамі (згадаем славутыя віленскія разводы[7]) — трэба мець на ўвазе рэаліі часоў Мікалая Радзівіла Чорнага, бачыць своеасаблівасьць тагачаснай Эўропы, а таксама характар дзяржаваў, якія знаходзіліся пад уладай Ягайлавічаў.

У працах, прысьвечаных канфэсійным забурэньням у XVI стагодзьдзі, рэдка сустракаецца дэфініцыя Рэфармацыі, і, ясная рэч, яшчэ менш увагі адводзіцца працэсам яе разьвіцьця ў каталіцкай Эўропе ўнаступак таго, што яна суправаджалася вострымі выступамі ў паасобных краінах супраць Апостальскай сталіцы. У асноўнай на сёньня крыніцы чытаем: гэта быў „рэлігійны рух, які ўзьнік на аснове грамадзка-палітычных канфліктаў XV-XVI стст. і прывёў у XVI ст. да паўстаньня незалежных ад папства пратэстанцкіх цэркваў. Ідэйна яму папярэднічалі сярэднявечныя гарэзіі зь віклефізмам і гусытызмам на чале...“[8] Розьніцу ў меркаваньнях нельга не заўважыць і вакол пайма Контррэфармацыі, паколькі некаторыя аўтары мяркуюць, што больш адпаведны гэтай зьяве іншы тэрмін: каталіцкая Рэфармацыя, таму што ён валодае шырэйшым значэньнем і датычыць ня толькі нэгатыўнага боку або перамогі над праціўнікам, але мае шырэйшае, пазытыўнае значэньне дзякуючы сфармуляваньню праграмы налады каталіцызму[9]. Аналізу паддаюцца таксама і іншыя вызначэньні, а менавіта канфэсійная талеранцыя.

Пакідаючы ў баку гэтыя тэрміналягічныя пытаньні, мы зьвернемся толькі да першага з вызначэньняў, бо яно зьвязана з рэфармацыйнай спэцыфікай Вялікага княства Літоўскага. На захадзе мы маем дачыненьні адно з каталіцызмам, тое ж самае ў этнічнай Польшчы — за выняткам Чырвонай Русі, якая была ўлучана ў Карону за часоў Казімера Вялікага, а таксама пазьнейшае пашырэньне ўладных паўнамоцтваў — ужо ня Пястаў — на праваслаўныя землі. Тым ня менш улады Вільні знаходзіліся ў зусім іншай сытуацыі, якую можна акрэсьліць каротка: мора прадстаўнікоў усходняй рэлігіі і каля 10% (як у сэнсе насельніцтва, так і ў сэнсе тэрыторыі) фармальных паганцаў на самавітай Ліцьве, якія ад другой палавіны XIV стагодзьдзя ўсё хутчэй і хутчэй асвойваліся з выявай крыжа, цэрквамі, а ў Наваградку і Вільні сутыкаліся і з каталіцкімі законьнікамі. Там таксама — у Аўкштоце пасьля 1387 г., на Жмудзі трыццацьцю гадамі пазьней — распачаўся працэс афіцыйнай хрысьціянізацыі зь ініцыятывы валадара, які дагэтуль лічыўся найвышэйшым культавым функцыянэрам, і, такім чынам, быў кампэтэнтны пакласьці канец старым вераньням. Так належала разумець ягоную волю, хоць гэта і не азначала, што з дня на дзень павінна было наступіць адмаўленьне ад політэізму. Так ніколі і нідзе не было, і хаця аб сынкрэтызьме веравызнаньняў было напісана ўжо шмат, прыгадаем, што праз тры стагодзьдзі пасьля апісаных падзеяў сяляне-кальвіністы ва ўладаньнях Радзівілаў збунтаваліся супраць свайго духоўніка, калі ён прымушаў спаліць перахоўваныя імі фігуркі бажкоў; яны чуліся апекунамі гэтых пазбаўленых важкай пратэкцыі звышнатуральных стварэньняў, якія былі магутныя ў прамінулыя стагодзьдзі[11].

Усход Эўропы для ягонага захаду ўяўляў экзатычную тэрыторыю, якая паступова станавілася бліжэйшай дзякуючы ўсё больш і больш падрабязным — але ня вольным ад фантазіі — мапам і аповядам падарожнікаў. Часам Варшаве даводзілася даваць адказы на ілжывыя, тэндэн-

цыйныя паведамленьні, якія мелі месца ў Вене на тэму манархіі Ягайлавічаў, як гэта зрабіў падчас панаваньня Жыгімонта Старога аўтар Сармацыі эўрапейскай і азіяцкай[12]. XVI стагодзьдзе павінна было прынесьці падарожжы магнацкай моладзі зь Вялікага княства на Захад і гэта, хоць і не ў такіх памерах, як у Кароне, сыстэматычна зьмяняла меркаваньне французаў або італійцаў аб далёкай Ліцьве; зрэшты, ейныя жыхары, што выпраўляліся за Лабу і за Альпы ў часы Вазаў, уважаліся ўжо за падданых Рэчы Паспалітай[13]. Таму на парозе Рэфармацыі на берагох Вяльлі і Нёмна, калі яна здолела канчаткова перамагчы ў Вітэнбэрзе і Жэнэве, не безь зьдзіўленьня адзін з швайцарскіх пратэстантаў даведваўся ад свайго адзінаверніка ў далёкай краіне: „Некаторым трэба зьнішчыць забабоны папства, у іншых на мэце выкараніць адвечнае народнае пакланеньне стодзівам, паколькі сёньня (напісана ў 1563 г. — *М.К.*) ліцьвіны яшчэ вераць у шматлікіх багоў і ахвяруюць ім. Іншыя кажуць, што нам трэба ізноў змагацца з вучэньнем грэкаў, у руках якіх знаходзяцца цэрквы на Русі“. Укладальнік гэнага ліста, а ім быў Сымон Будны, лічыў патрэбным у вострых выразах выказацца на тэму праваслаўя ў Вялікім княстве: яно ёсьць „заступнікам і руплівым пасьлядоўнікам усіх грэцкіх забабонаў ці, хутчэй, поўнай забабонаў малпай“[14].

Навідавоку тут выразныя праграмныя лёзунгі іншавернікаў, якім блізкія былі лёзунгі зрэфармаваньня ня толькі каталіцызму, але і ўсходняга хрысьціянства. Згодна з духам нэафітаў эпохі гуманізму бескампрамісна адкідалася ўсё тое, што падавалася людзям гэнай эпохі праявай канфармізму, уступкай розуму на карысьць забабонам. Дзеля гэтага неміласэрна ганілі ў сваіх выступах спосабы хрысьціянізацыі, якія, дарэчы, стагодзьдзямі выкарыстоўваліся на ўсім кантынэнце. Гэта адбывалася ў розных сытуацыях — так, Ваўжынец з Пшаснышa, званы Нязгодам, заатакаваўшы чысьцец, пахваліў Радзівілаў за — як яму падавалася — зварот да інтэлекту наверненых у „праўдзівую веру“, супрацьставіўшы ім Уладзіслава Ягайлу, які паўтара стагодзьдзя раней ужываў да нэафітаў мэтад „хабарніцтва“ (уручэньне падчас хросту ільняных строяў). Праз пэўны час Ян Ласіцкі з сарказмам параўнаў паганскіх бажкоў з пантэонам хрысьціянскіх сьвятых[15].

Такіх прыкладаў можна прывесьці шмат. З аднаго боку, пратэстанты атакавалі як каталікоў, так і праваслаўных, а з другога — яны не рабілі важкіх закідаў апошнім, разьлічваючы на тое, што іх можна будзе навярнуць да сябе безь вялікага высілку дзякуючы аналёгіі ў дагматычным і літургічным абсягу. Усё ж іх не падзяляла выкарыстаньне народнай мовы падчас набажэнстваў, цэлібат сьвятароў (праўда, на ўсходзе існавалі шматлікія манастыры!), камунія пад двума абразамі. Замена папа міністрам (калі апошні не зьмяняў веравызнаньня і з каталіка не рабіўся пратэстантам) часта не заўважалася вернікамі, паколькі нярэдка шмат захоўвалася з ранейшай абраднасьці. Праваслаўная шляхта на Наваградчыне масава адыходзіла ад каталіцызму, аднак гэта часта было вынікам хуткаплыннага захапленьня, хаця яшчэ напрыканцы XVI ст. і выклікала непакой з боку Пятра Скаргі. Рэакцыя езуіта прагучэла ў часе бурлівай палемікі паміж каталікамі, праваслаўнымі і пратэстантамі (бо і яны тады не былі бязьдзейнымі) у сувязі з правядзеньнем Берасьцейскай вуніі.

Перш чым перайсьці да фармаваньня „тоеснасьці“ паасобных рэфармісцкіх канфэсіяў, трэба зьвярнуцца да часоў апошніх Ягайлавічаў, калі па Рэчы Паспалітай пранеслася незвычайна імклівая, хоць і кароткатрывалая антыкаталіцкая бура. Інакш сытуацыя выглядала ў Кароне, дзе была парушана, хоць і часова, парафіяльная структура (дыяцэзіі заставаліся нават у найбольш крытычных мамэнтах, іхная сэкулярызацыя была ажыцьцёўлена адно ў гаспадарстве крыжакаў, пераўтвораным у васальную Княскую Прусію) у выніку масавай перабудовы касьцёлаў на зборы. Падужэлы пасьля Трыдэнту каталіцызм здолеў, аднак, хутка адваяваць тое, што ён нядаўна страціў з парафіяльнай сеткі, канчаткова ўфармаванай напрыканцы сярэдніх вякоў. У канцы XVI ст. засталася каля пяцьдзесяці збораў, сярод іх былі ўтвораныя арыянамі, лютаранамі і чэскімі братамі, якіх усяго было каля палавіны. Не заглыбляючыся ў пытаньне колькасьці грамадаў у параўнаньні з парафіямі, заўважым, што апошніх было тады каля 3600. У часох Контррэфармацыі ў шырокім маштабе ўтвараліся новыя касьцельныя тэрыторыі, але гэта не былі парафіі або кляштары: цягам стагодзьдзя (1550—1650) на польскіх землях іхны лік

узрос з 157 да 283, інакш чымся ў Кароннай Русі (30—102), а таксама ў Вялікім княстве (14—95). Такім чынам, у двух апошніх выпадках адносны прырост быў меншы, паколькі ўвага была сканцэнтравана на выразным пашырэньні слабой дагэтуль парафіяльнай сеткі. На тэрыторыі Кароны да аднаўленьня талеранцыі падчас Станіслава Аўгуста была практычна зьліквідавана царкоўная арганізацыя кальвіністаў, яшчэ раней зьнiклі ўстаноўленыя імі акругі (rozbudowane dystrykty); у сярэдзіне XVII ст. юрыдычна — рашэньне сойму 1658 г. — быў зьліквідаваны арыянізм. Найменшыя страты панесьлі лютэране.

У Вялікім княстве сытуацыя ўяўлялася інакш. У магнацкіх колах напачатку атрымалі прызнаньне антытрынітарысты, асабліва дзякуючы прыбылым з Польшчы ідэолягам, у прыватнасці, італійцу з паходжаньня, лекару Ежы Бляндрата. Яны пераканалі ў сваіх тэалягічных канцэпцыях наймагутнейшага ў сярэдзіне XVI стагодзьдзя вяльможу, вялікага канцлера і віленскага ваяводу Мікалая Радзівіла Чорнага (памёр у 1565 годзе), які стварыў асяродак пратэстантызму ў Вільні, а таксама ў радавым Нясьвіжы. Пасьля ягонай сьмерці, аднак, сыны пад уплывам езуітаў вярнуліся да каталіцызму і з стараннасьцяй нэафітаў нішчылі справу свайго бацькі, у тым ліку хораша выдадзеную па-польску Біблію, па месцы публікацыі званую Берасьцейскаю (Берасьце на Бугу). Радыкальныя трыніталягічныя канцэпцыі знаходзілі прыхільнікаў, паколькі іх апекуны з асяродзьдзя магнатаў (апошнім зь іх быў памерлы ў 1592 г. Януш Кішка) не зьбіраліся накіроўваць прыбліжаных да польскіх грамадзкіх канцэпцыяў. Супраць іх выступіў таленавіты папулярызатар рэлігіі і перакладчык Бібліі на рускую мову (język ruski) Сымон Будны ў творы „Аб ужываючым меч урадзе“ (1583); гэты мазаўшанін усё жыцьцё правёў на беларускіх землях, галоўна ў Радзівілавым Нясьвіжы і Лоску, а ў дактрынальным пляне перажыў эвалюцыю ад кальвінізму да крайнага антытрынітарызму. Аднак прыхільнікі гэтага кірунку хутка трацілі значэньне і былі выцесьнены з апошніх бастыёнаў (Наваградак) перад 1620 г., а пазьней ім было забаронена весьці веравызнаўчую прапаганду[17]. Тым ня менш, таленавітыя супрацоўнікі біржанскіх Радзівілаў яшчэ ў другой палавіне XVII ст. у значнай ступені прымыкалі да польскіх арыянаў[18].

З эвангелічна-аўгсбурскіх збораў, што зьявіліся яшчэ за часоў Ягайлавічаў, захаваліся толькі тыя, якія разьмяшчаліся ў найвялікшых гарадох зь Вільняй на чале і мелі нямецкі, мяшчанскі характар, хоць з часам у іх утварыліся і польскія грамады. Гэта было вынікам узмоцненага працэсу натуралізацыі чужаземцаў. Характэрна, што контррэфармацыйны каталіцызм, актыўна атакуючы ў сталіцы Вялікага княства шляхецкі кальвінісцкі збор (славутыя тумульты), у прапагандзе выступаў супраць пратэстантаў-немцаў, асьмейваючы іх у сатырычных творах[19]. Лютэранства перажыло ўпадак Рэчы Паспалітай, ейныя разьдзелы і сканала — як і кальвінізм — толькі пасьля 1939 г., калі ў часе Другой сусьветнай вайны на летувіска-беларускіх землях даўнага гаспадарства пад знакам Арла і Пагоні пратэстантызму канчаткова наступіў канец. Сымбалічным ударам па ягоных сьлядох сталася зьнішчэньне ўжо пасьля 1950 г. гістарычных могілак двух веравызнаньняў паблізу Вялікай Пагулянкі[20].

У Вялікім княстве нацыянальным веравызнаньнем надоўга стаўся кальвінізм, хаця па вялікім рахунку ён ня надта шмат — за выключэньнем прынцыповых супадзеньняў, у першую чаргу дагматычных — меў супольнага зь веравызнаньнем, створаным рэфарматарам з Жэнэвы. Яшчэ больш ён адрозьніваўся ад мясцовых антытрынітарыстаў, з прапагандай якіх эвангелічны клер змагаўся датуль, дакуль існаваў „меншы збор“. Пазьней, страціўшы ранейшую грознасьць, магнаты-кальвіністы — як мы былі згадалі — абкружалі сябе арыянамі пры ўмове, што тыя ня будуць праводзіць рэлігійную прапаганду сярод народу. Што да самога кальвінізму — перастала акцэнтоўвацца ягонае фундамэнтальнае палажэньне аб прызначэньні або ўканаваньні, таксама як не ўзьнімалася супольная з каталікамі праблема культу сьвятых, і не адбылося адмаўленьня ад пакланеньня Марыі. Папросту аб пэўных справах перасталі гаварыць, калі адыйшлі ў нябыт першыя пакаленьні баёвых рэфармацыйных ідэолягаў.

У сярэдзіне XVI стагодзьдзя ў Ліцьве ўзьнікалі як чарговыя каталіцкія парафіі, так і на практычна не схрысьціянізаваных землях ствараліся эвангелічныя грамады, што мелі ня толькі шляхецкі характар. Дзякуючы гэтаму зборы ў Кельмах, Радзівілішках або Попелі перажылі найгоршыя часы перасьледаў, тым-

часам як абшарніцкія, галоўна ў Наваградчыне, зборы, калі ім і ўдавалася выжыць, налічвалі некалькі або дзясятак сем'яў. Паступова ўзмацнялася дэмакратычнае кіраўніцтва Эвангелічна-Рэфарматарскага Сыноду, які штогод зьбіраўся на сваіх правінцыйных сэсіях. Калі напрыканцы XVII ст. вымерлі біржанскія Радзівілы, мэцэнат зь індывідуальнага, магнацкага, набываў шляхецкі, зборны характар. З часам зь мясцовым серадовішчам зьвязваліся прыхадні з Шатляндыі, якія былі паселены ў Кейданах і ўвайшлі ў склад тамашняй эвангелічнай грамады. У дадатак да шасьці акругаў (кіруючыся перадсудамі, эвангелікі імкнуліся трактаваць іх як адпаведнікі дыяцэзіяў) у эру талеранцыі (1768) зьявілася яшчэ пяць з 38 парафіямі, аднак зьнік наваградзкі збор. Пасьля другога падзелу адпаў ад Рэчы Паспалітай Слуцак, аднак неўзабаве гэты магутны асяродак кальвінізму, які валодаў гімназіяй (другая існавала ў Кейданах) апынуўся ў супольным гаспадарстве пад расійскай акупацыяй. Аб часох росквіту ў XIX стагодзьдзі нагадвалі руіны будынку збору ў Койданаве. Эвангелічныя традыцыі культывавалі рады Волянаў, Сьвідаў, Курнатоўскіх, Гружэўскіх, Путкамэраў, Мацкевічаў. Іхныя прозьвішчы ня толькі зьяўляліся ў сынадальных пратаколах, але і доўга фігуравалі на грамадзкай, прафэсійнай ніве і ў патрыятычных выступах[22]. У гэтым пляне школа ў Слуцку выгадна вылучалася ў параўнаньні з пазыцыяй каталіцкага духавенства[23]. Інфармацыю з тамтэйшай бібліятэкі рупліва пераказвалі творцу польскай нацыянальнай бібліяграфіі, Каралю Эстрайхеру старшаму.

Дагэтулешнюю царкоўную арганізацыю ў пэўнай ступені закранулі і зьмены ў межах, адбытыя пасьля Першай сусьветнай вайны: магутныя летувіскія зборы адпалі пасьля стварэньня гаспадарства з сталіцай у Коўні, маючыя багатую гісторыю Слуцак і Койданава апынуліся ў Беларусі і разам зь ёй у СССР. Структура ацалела практычна як збор у Вільні (разам з штучнымі дэ факта некалькімі іншымі парафіямі), і ў дадатак скаланалася скандальнымі разводнымі працэсамі, розгалас пра якія ішоў па ўсёй Польшчы. Зрэшты, не надоўга, бо пасьля 1945 г. гаварыць пра яе ўжо не выпадала[24].

## *Заўвагі*

[1] J. Ochmański, Historia Litwy. Wrocław 1967, s. 99.

[2] Аб паганскім гаспадарстве ў Ліцьве і ягонай спэцыфіцы за стагодзьдзе да прыняцьця хросту на Вавэлі вялікім князем Ягайлам гл. M.Kosman, Zmierzch Perkuna czyli ostatni poganie nad Bałtykiem. Warszawa 1981, s.100—154, асабліва 133, разьдзелы 5 і 6.

[3] M. Kosman. Reformacja i Kontrreformacja w Wielkiem Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław 1973, s. 39. На тэму сьвядомасьці канфліктаў веравызнаньняў ці, хутчэйм, яе нястачы гл. J. Tazbir, Reformacja a problem chłopski w Polsce XVI wieku. Wrocław 1953.

[4] J. Ochmański, Historia Litwy. Wydanie drugie poprawione i uzupełnione. Wrocław 1982, s. 125, а таксама трэцяе выданьне: Wrocław 1990.

[5] На тэму сьціраньня розьніцаў паміж даўным і сёньняшнім літоўскім гаспадарствам, што адбываецца ня толькі ў публіцыстыцы, і заангажаваньня прэпараванай гістарычнай веды на карысьць сучаснасьці гл. заўвагі аўтара гэтага артыкулу: M. Kosman, Stosunki polsko-litewskie (у:) Polska i jej nowi sąsiedzi (1989—1993). Praca zbiorowa, Poznań-Toruń 1994, s.43 nn.; яго ж, The problem of Vilnius: close relations or isolation? (у:) Fremde-Nachbarn-Partner wider Willen? Praca zbiorowa. Wien-Toruń 1995, s. 169 nn.; яго ж, Litwa etniczna i historyczna (у:) Świat i Polska u progu XXI wieku. Praca zbiorowa. Toruń 1994, s. 263 nn.

[6] Напр. B.Dundulis, Lietuvos užsienio politika XVI a. /=Замежная палітыка Летувы ў XVI ст./. Vilnius 1971; Т.Б. Блинова, Езуиты в Белоруссии. Минск 1990; R. Plečkaitis, Feodalizmo laikotarpio filosofija Lietovoje. Vilnius 1975/ аб гэтай каштоўнай працы гл. маю рэцэнзію на старонках „Odrodzenia i Reformacji w Polsce“ XXIII, 1978, s.242.

[7] Шырэй аб гэтым M. Kosman, Litewska Jednota Ewangelicko-Reformowana od połowy XVII w. do 1939 r. Opole 1986, s. 80 nn.

[8] Wielka Encyklopedia Powszechna PWN. T.9. Warszawa 1967, s. 740 ( артыкул бяз подпісу). Гл. таксама ў т.6 пазыцыю : Kontrreformacja, аўтарства Е. Тазьбіра.

[9] У навукова-папулярным „Zarysie dziejów Kosciola katolickiego w Polsce“ (Kraków 1986) Я. Клачоўскі (суаўтары: Л.Мюлерава і Е.Скарбэк) надае разьдзелу IV у першай частцы назву: Пэрыяд вялікіх рэформаў, стагодзьдзе XVI — першая палавіна XVII, даючы двум з шасьці падзагалоўкі: Рэформы як крызыс узросту; Каталіцкая рэформа. Як лёгка заўважыць, аўтары пазьбягаюць як „Рэфармацыі“, так і „Контррэфармацыі“.

[10] J. Lecler, Historia tolerancji w wieku Reformacji. T.I.Przekład z francuskiego L. i H. Kühn. Warszawa 1964, s.9 n.

[11] Ліст кальвінісцкага міністра Самуэля Бітнэра Людвіцы Караліне Радзівіл 1682 г.: I. Lukšaitė, Lietuvių kalba reformacianime judėjime XVII a. Vilnius 1970 („Acta Historica Lithuanica" V), s.54 n. Аб культавых функцыях валадара М. Kosman, Litwa pierwotna — mity, legendy, fakty. Warszawa 1989, s.110 nn.

[12] Першае выданьне твора Мацея зь Мехава мела назву: Tractatus de duabus Sarmatiis (1517), наступнае: Deckriptio Sarmatiarum (1521). Гл. таксама S.Alexandrowicz, Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII w. Wydanie II poprawione i uzupełnione. Poznań 1989, t.I, passim.

[13] Сьпісаньне падарожнікаў складу S.Kot, La Réeforme dans le Grand Duché de Lithuanie. Facteur d'occidentalisation culturelle. „Brussels Université Libre. Institut de Philologie et d'Histoire Orientales et Slaves" 12, 1953, s.45-48.

[14] Пераклад фрагмэнту ліста падаў O.Halecki, Zgoda sandomierska 1570 r. Warszawa 1915, s.22.

[15] Выказваньне Дыскордыі належыць трактаваць у тыповых катэгорыях літаратурнага "рамесьніка" часоў гуманізму і ягонага мэцэната (Навука аб праўдзівай і аб фальшывай пакуце ... Ваўжынца з Пшасныша ...Берасьце на Бугу 1559, без прысьвячэньня). Новае выданьне твора Ласіцкага: J.Lasickis, Apie žemaičių, kitų sarmatų bei nekitru krikščionių dievus (Вільня 1969, на с.35-51 фатаграфічны тэкст лацінскага выданьня: Bazylea 1615). Аб Я.Л. манаграфія пяра Х.Барыча, а таксама ягоны жыцьцяпіс у Polskim Słowniku Biograficznym XVIII, 1973, s.218-222.

[16] J.Tazbir, Społeczny i terytorialny zasięg polskiej reformacji, „Kwartalnik Historyczny" LXXXII, 1975, s.723-735. Дагэтуль ня страціла сваёй вартасьці праца Х.Мэрчынга, Zbory i senatorowie Protestancy w dawnej Polsce. Warszawa 1908 (дадатак да твора В. Красіньскага, Zarys dziejów powstania i upadku Reformacji w Polsce. Таксама рэпрынт 1986).

[17] M.Kosman, Reformacja i Kontrreformacja...; яго ж, Litewska Jednota...; яго ж, Protestanci i Kontrreformacja. Wrocław 1978, passim; K. Górski, Studia nad dziejami polskiej literatury antytrynitarskiej XVI wieku. Kraków 1949; L. Szczucki, Jan Licyniusz Namysłowski. Studium z dziejów antytrynitaryzmu litewskiego na przełomie XVI i XVII wieku /у:/Studia nad arianizmem. Praca zbiorowa. Warszawa 1959, s.131-157; І. Саверчанка, Сымон Будны — гуманіст і рэфарматар. Менск 1993, а таксама артыкул у Polskim Słowniku Biograficznym III s.96 nn. пяра С. Кота.

[18] Гл. J.Tazbir, Bracia polscy na wygnaniu. Warszawa 1977, s.58 nn.

[19] Kosman, Protestanci, s.70 nn. і паказьнік крыніцаў; Z.Nowak, Kontrreformacyjna satyra obyczajowa w Polsce XVII wieku. Gdańsk 1968 (гаворка вядзецца пра Вільню, гл. частку II: Antologia, s.197 nn.)

[20] Палітычнага аспэкту змаганьня зь сьведчаньнямі мінуўшчыны датычыць: M.Kosman, Cmentarze dawnego Wilna. Toruń 1994, асабліва с. 155 нн. (разьдзел аб часох пасьля Другой сусьветнай вайны).

[21] Аб укараненьні хрысьціянскіх культаў, у тым ліку кальвінісцкага пратэстантызму ў Вялікім княстве Літоўскім M.Kosman, Drogi zaniku pogaństwa u Bałtów. Wrocław 1976, s.180 nn. На тэалягічную слабасьць польскай Рэфармацыі зьвяртае ўвагу Е. Тазьбір, Reformacja w Polsce. Szkice o ludziach i doktrynie. Warszawa 1993, s.27.

[22] Сьпісаньне сынодаў і правінцыйных сэсіяў Літоўскай Кангрэгацыі 1611-1913, „Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae" Seria IV zeszyt 1.Wilno 1913. Хаця каты Шымана Канарскага гэтага ня ведалі, змоўнік быў кальвінісцкага веравызнаньня і перад карай сьмерцяй у Вільні яго спавядаў эвангелічны духоўнік. Гл. таксама „Аб некаторых успамінах Флярыяна Сьвіды ў сувязі з фамільным маёнткам Глевін" Цэнтральная бібліятэка Летувіскай Акадэміі Навук у Вільні, сьпісаньне ERS F40-1025.

[23] Kosman, Litewska Jednota, s.65.

[24] Рэфармацыя стварыла перадумовы для ўзмацненьня кантактаў паміж Вялікім княствам і Захадам Эўропы, у тым ліку дзякуючы выездам на студыі моладзі і кандыдатаў у духоўны стан, і, перадусім, для больш інтэнсыўнай інтэграцыі Рэчы Паспалітай. Тымчасам у летувіскай навуцы, не вылучаючы найнавейшых працаў, можна спаткаць тэндэнцыю ўвыпукленьня выняткавасьці, спэцыфікі, а таксама залічэньня ў летувісы людзей, зьвязаных паходжаньнем і культурным асяродзьдзем з Каронай і рускімі землямі Вялікага княства. Як прыклад пакажам тут на кнігу: Lietuvos publicistai valstiečių klausimu XVI a. pabaigoje — XVII a. pirmojoje pusėje, укладзенай I.Lukšaitė (Vilnius 1976), дзе — пакідаючы ў баку інтэрпрэтацыйныя падыходы — аналізуюцца такія „літоўцы", як Пётр Скарга, Аран Алізароўскі, Марцін Сьміглецкі або Анджэй Волян. На гэта зьвярнуў увагу Х. Віснэр у рэцэнзіі на старонках „Odrodzenia i Reformacji w Polsce" XXIII, 1978, s.243. Гэты гісторыяграфічны аспэкт вывучэньня Рэфармацыі заслугоўвае асобнага дасьледаваньня.

**З польскай мовы пераклаў Валерка Булгакаў**

*Аляксандра ВЕРАШЧАГІНА*

# *Этнаканфэсійныя групы Беларусі ў кантэксьце сучаснага рэлігійнага жыцьця*

Мэта дадзенага артыкулу — акрэсьліць пэўную этнаканфэсійную структуру беларускага грамадзтва, даць кароткую характарыстыку паводле ніжэйадзначанай схемы этнаканфэсійным групам і вылучыць тое кола пытаньняў і праблемаў, якія патрабуюць далейшага вывучэньня. У артыкуле выкарыстаныя наступныя крыніцы: афіцыйныя даведкі наконт канфэсійнай сытуацыі ў Беларусі, рэлігійныя выданьні, матар'ялы прэсы, навуковыя дасьледаваньні, матар'ялы дасьледаваньняў Інстытуту сацыялёгіі АН Беларусі.

У пэрыяд канца 80-х — пачатку 90-х гг. у Беларусі адбываўся працэс актывізацыі дзейнасьці рэлігійных арганізацыяў, бо рэлігія ўключана ў кантэкст гісторыі і адчувае ўсе тыя зьмены, якія зьвязаны з трансфармацыяй грамадзтва. У сучаснасьці адбываецца працэс рэзкага падвышэньня статусу рэлігіі ў грамадзтве, аб чым сьведчаць дасьледаваньні, праведзеныя супрацоўнікамі Інстытуту сацыялёгіі АНБ. Так, доля вернікаў у краіне ўзрасла з 10-15% (1988 г.) прыблізна да 45-50% (1995 г.)[1]. За апошнія пяць год, паводле дадзеных Рады па рэлігійных справах пры Кабінэце Міністраў Рэспублікі Беларусь, колькасьць рэлігійных арганізацыяў узрасла больш чым у 2,5 разы (з 768 у 1991 г. да 2016 у 1995 г.). У цяперашні час у Беларусі прадстаўлены 26 рэлігійных кірункаў (сэкты, цэрквы, дэнамінацыі); прадстаўлены і сусьветныя, і нацыянальныя рэлігіі.

Працэсы актывізацыі рэлігійнага жыцьця знаходзяцца пад узьдзеяньнем пэўных аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў — такіх, як глыбокі эканамічны і сацыяльны крызыс, пераацэнка каштоўнасьцяў, пошукі духоўных ідэалаў, сацыяльныя праблемы. Рэлігія служыць і пэўнай гарантыяй стабільнасьці, парадку, непахіснасьці духоўных апірышчаў грамадзтва, адраджэньня нацыянальных традыцыяў.

Канфэсійная структура грамадзтва залежыць ад шматлікіх фактараў: ад тыпу грамадзтва, ад ступені ягонай палітызаванасьці, ад статусу рэлігіі ў дадзеным грамадзтве, ад спэцыфікі пэўнай канфэсіі, ад сацыяльнае дактрыны царквы і рэлігійных аб'яднаньняў, ад міжканфэсійных адносінаў і гістарычнай традыцыі.

У сучасным беларускім грамадзтве можна вылучыць некалькі тыпаў рэлігійнай сьвядомасьці:

— забабоны, якія выступаюць хутчэй ня як цэласная рэлігійная сыстэма, а як спосаб сьветаўспрыйманьня, і якія нясуць на сабе адбітак паганства (сьляды апошняга да гэтага часу захаваліся на Беларусі);

— рэлігійныя сыстэмы (традыцыйныя, нетрадыцыйныя, этнаканфэсійныя групы);

— асобная форма сьвядомасьці — „атэістычная рэлігія" ці „рэлігійны атэізм", у якім адмаўленьне рэлігіі набывае тую ж форму рэлігіі;

— зьмененыя станы сьвядомасьці, уласьцівыя некаторым нетрадыцыйным рэлігіям.

Засяродзім нашую ўвагу на паняцьці

---

**Аляксандра Верашчагіна нарадзілася ў Менску ў 1961 г. Скончыла гістарычны факультэт БДУ. Кандыдат гістарычных навук (1989 г.). Працуе навуковым супрацоўнікам ІМЭФ АНБ. Займаецца вывучэньнем канфэсійнай структуры й канфэсійнай гісторыі Беларусі.**

„этнаканфэсійныя групы", якое азначае этнічную групу з пэўнымі нацыянальнымі й веравызначальнымі адрозьненьнямі ад навакольнага насельніцтва. У сутнасьці, кожная этнічная група, якая кампактна пражывае сярод насельніцтва іншае нацыі і рэлігійнай прыналежнасьці, уяўляе сабой этнаканфэсійную групу[2]. Галоўнай заканамернасьцю складваньня такіх групаў бачыцца доўгае ўзаемаўзьдзеяньне культурнага комплексу пэўнага веравызнаньня з спэцыфічнымі элемэнтамі культуры і культурна-побытавымі асаблівасьцямі тае этнічнае групы, зь якой гэтае веравызнаньне было гістарычна зьвязанае. У такім выпадку асобныя кампанэнты культавага комплексу (рытуалы, рэлігійная абраднасьць, звычаі й традыцыі) набываюць этнічны характар і этнічную афарбоўку. Рэлігійныя адрозьненьні становяцца этнічнымі адрозьненьнямі, веравызначальная адзнака выступае ў якасьці этнічнага вызначальніка, а асэнсаваньне этнічнай прыналежнасьці падмяняецца рэлігійнай[3].

Пры вывучэньні этнаканфэсійных групаў, на наш погляд, пажадана стасаваць наступную схему:

1. Характарыстыка самой канфэсіі: гістарычная традыцыя, ейная спэцыфіка, сацыяльная дактрына і статус у грамадзтве.

2. Аналіз іерархічнай структуры царквы і рэлігійных арганізацыяў (сьвятары, прэсьвітэры і іншыя царкоўныя іерархі).

3. Аналіз вернікаў (больш падрабязная характарыстыка павінна ўключаць сацыяльна-дэмаграфічныя паказьнікі, культурна-побытавыя і рэлігійна-побытавыя традыцыі, абраднасьць, сацыяльна-маральныя погляды).

4. Міжканфэсійныя дачыненьні.

Асобна можна дадаць пытаньні пра ўзаемаадносіны рэлігійных арганізацыяў зь дзяржаваю, іхную праўную й фінансавую дзейнасьць.

Перад тым, як характарызаваць тыя этнаканфэсійныя групы, якія адпавядаюць вышэйадзначаным прыкметам, неабходна адзначыць, што пераважная бальшыня веруючага насельніцтва Беларусі належыць да праваслаўнага веравызнаньня (938 грамадаў, паводле дадзеных на 1.1.1996 г.).

Другое месца паводле колькасьці вернікаў і грамадаў займае рыма-каталіцкая царква, якая ёсьць традыцыйнай рэлігіяй, бо мае даўныя карані і гісторыю на беларускай зямлі, і якая традыцыйна зьвязваецца з польскім этнасам. Палякі-каталікі — этнаканфэсійная група, складаная паводле паходжаньня (ёсьць розныя меркаваньні на гэтую тэму), якая, у асноўным, жыве на тэрыторыі Заходняй Беларусі. З 373 каталіцкіх грамадаў (1995 г.) амаль палова (160) знаходзіцца на тэрыторыі Гарадзенскай вобласьці. У прыходах служыць 185 ксяндзоў, зь іх 120 — грамадзяне Польшчы. Каталіцкая царква ў Беларусі на цяперашні момант знаходзіцца пад уплывам трох структураў: Ватыкану (якому яна падпарадкаваная), польскага каталіцкага біскупства (зь якім яна шчыльна зьвязаная) і польскіх культурна-асьветніцкіх установаў. У 1990 г. была заснаваная Гарадзенская вышэйшая духоўная сэмінарыя, у 1991 г. створаныя тры каталіцкія дыяцэзіі — Менска-Магілёўская, Гарадзенская і Пінская. З 1994 г. дзейнасьць касьцёлу ў Беларусі ўзначальвае кардынал К.Сьвёнтак, былі ўсталяваныя дыпляматычныя дачыненьні з Ватыканам. На Беларусі дзейнічаюць манаскія суполкі (у Горадні і Навагрудку), а таксама манаскі ордэн „Сясьцёр найсьвяцейшай сям'і з Назарэту"; дзейнічае дабрачынная каталіцкая арганізацыя „Карытас". Безумоўна, каталіцкі клер у Беларусі і ў мінуўшчыне, і ў сучаснасьці мае яскрава выражаную прапольскую арыентацыю, што адыграла пэўную ролю ў фармаваньні распаўсюджанай канцэпцыі атаясамліваньня этнічнай і рэлігійнай прыналежнасьці: каталік — значыць паляк. У бальшыні выпадкаў набажэнства, справаводзтва вядзецца на польскай мове, літаратура паступае з Польшчы. Невыпадковымі таму ўяўляюцца вынікі апытаньняў Інстытуту сацыялёгіі АНБ, згодна зь якімі прыналежнасьць да каталіцтва атаясамлівае з прыналежнасьцю да польскай нацыі больш за 60% рэспандэнтаў[4].

У 1986-1987 гг. гэтую этнаканфэсійную групу дасьледавалі супрацоўнікі Інстытуту філязофіі і права АНБ, якія зрабілі наступныя высновы. Гэта катэгорыя вернікаў сьвядома разглядае каталіцкую веру як выяўленьне нацыянальнага духу і нацыянальнай (польскай) прыналежнасьці і як сродак для падтрымкі нацыянальных звычаяў у побыце (сьвяты, абрады, кухня, адзеньне й г.д.), для ўмацаваньня нацыянальных адрозьненьняў і адасобленасьці пад уладай касьцёлу[5]. Паводле матар'ялаў сацыялягічных дасьледаваньняў, у выкананьні галоўных кан-

фэсійных дзеяньняў (сьвяты, абрады, рэлігійныя патрабаваньні) прымаюць удзел 100% каталікоў, незалежна ад узросту і сацыяльнага становішча[6]. Гэтая этнаканфэсійная група патрабуе сучасных дасьледаваньняў паводле схемы, зьмешчанай вышэй.

Другая этнаканфэсійная група, якая зьяўляецца адным з адгалінаваньняў праваслаўя — група рускіх-старавераў. Як вядома, прадстаўнікі старaверства зьявіліся на тэрыторыі Беларусі яшчэ ў XVII ст. і да нашага часу захавалі своеасаблівасьць і адрозьненьні ў побыце, культуры, абраднасьці, вераваньнях. Паводле дадзеных на 01.01.1996 г., у Беларусі налічваецца 32 стараверскія грамады, бальшыня зь якіх (18) знаходзіцца ў Віцебскай вобласьці. Цікава тое, што з 1991 г. колькасьць грамадаў значна павялічылася (было 23). Грамады падзяляюцца на папоўцаў (якія адносяцца да белакрыніцкай царквы) і беспапоўцаў (фэдасееўскага, паморскага, філіпаўскага кірункаў). Паводле дадзеных сучасных дасьледаваньняў, старaверы, у бальшыні, — людзі старэйшага ўзросту. Аднак сучаснае старaверства зазнала мадэрнісцкія працэсы, нягледзячы на свой традыцыяналізм і кансэрватызм, што паўплывала на больш сьвецкі характар ладу жыцьця й сьвядомасьці вернікаў і адбілася на паслабленьні рэлігійнай ізаляцыі, фанатызму і нецярплівасьці да іншых вераваньняў[7]. Адсюль — як вынік — ажыўленьне дзейнасьці грамадаў і рост колькасьці вернікаў.

За апошнія гады значна павялічылася колькасьць пратэстанцкіх аб'яднаньняў — як традыцыйных, так і новых (13 напрамкаў у 1995 г.). Сярод іх можна вылучыць этнаканфэсійную групу немцаў-лютэранаў. Паводле дадзеных на 01.01.1996 г., у Беларусі зарэгістравана 5 лютэранскіх грамадаў (2 — у Гарадзенскай, 2 — у Менскай, 1 — у Віцебскай вобласьці), бальшыню сярод вернікаў складаюць немцы. Як вядома, гістарычныя карані лютэранскай царквы ў Беларусі ляжаць у першай палове XVI стагодзьдзя, калі лютэранства прыйшло з суседняй Прусіі і Лівоніі разам зь нямецкімі купцамі, рамесьнікамі і навукоўцамі. Яны сяліліся ў многіх гарадох Вялікага княства Літоўскага, першымі пераходзілі ў гэтае веравызнаньне і прывозілі з сабой рэфармацыйную літаратуру[8]. У часы Рэфармацыі вучэньне Лютэра не атрымала шырокага распаўсюджаньня сярод насельніцтва ВКЛ, у адрозьненьне ад кальвінізму, аднак захавалася менавіта сярод немцаў. Цікавы той факт, што ў канцы XIX — пачатку XX ст. першымі пасьлядоўнікамі адвэнтызму на Беларусі сталі менавіта немцы-лютэране, аб чым сьведчаць архіўныя крыніцы[9]. Да 1993 г. афіцыйна зарэгістраваных лютэранскіх грамадаў у Беларусі не існавала. Гэтая этнаканфэсійная група ў цяперашні час не дасьледавалася, таму патрабуе далейшага вывучэньня паводле вышэйпамянёнай схемы.

З XIV ст. на беларускіх землях існуе яшчэ адна этнаканфэсійная група — гэбраі-юдэі. Паводле дадзеных на 01.01.1996 г., існуе 10 юдэйскіх грамадаў, 3 зь якіх знаходзяцца ў Берасьцейскай вобласьці, 3 — у Менску. Самыя буйныя грамады — у Менску, Магілёве й Бабруйску. У студзені 1993 г. створана юдэйскае рэлігійнае аб'яднаньне, у якое ўвайшлі ўсе грамады. Дзейнічае вышэйшае духоўнае вучылішча (ешыбот) у Менску. З прычыны адсутнасьці мясцовых рабінаў запрашаюць сьвятароў з ЗША і Ізраіля. У сучасным юдаізьме існуе некалькі плыняў — рэфармісцкая, кансэрватыўная, артадаксальная, прагрэсыўная і інш., якія закранулі й беларускі юдаізм. Так, створана 5 грамадаў прагрэсыўнага юдаізму, ствараюцца мэсіянскія грамады, у якія ўваходзяць, у асноўным, маладыя юдэі. Мэсіянства — гэта ўжо пратэстанцкая плынь, якая захоўвае пэўныя рысы юдаізму (напрыклад, абраднасьць) і знаходзіцца ў цеснай сувязі зь пяцідзясятнікамі[10].

Такім чынам, сучасныя мадэрнісцкія тэндэнцыі закранулі й гэтую адну з найбольш кансэрватыўных рэлігіяў і парушылі былую рэлігійную і нацыянальную адасобленасьць юдэяў. Пра гэта сьведчаць сацыялягічныя дасьледаваньні, праведзеныя сярод пасьлядоўнікаў юдаізму ў 1994-95 гг. Выявілася, што такія спэцыфічныя для юдаізму абрады, якія абмяжоўваюць патрабаваньні суботы і „Кашрута“ (ня есьці сьвініны), выконваюць адпаведна толькі 11% і 12% апытаных у Беларусі гэбраяў (тых, хто так ці інакш дакляруе сваю прыхільнасьць да дадзенай рэлігіі). Таксама вызначана, што ў жыцьцядзейнасьці гэбраяў, якія жывуць у Беларусі, існуе значны разрыў паміж асноўнымі характарыстыкамі юдэйскай самасьвядомасьці й іхным увасабленьнем у паўсядзённым жыцьці, у побыце[11].

Этнаканфэсійная група беларускіх татараў-мусульманаў вядзе свой пачатак з XIV ст., з часоў князя Гедыміна. На тэрыторыі Беларусі ў цяперашні час жыве каля 12,5 тысяч татараў і налічваецца 20 мусульманскіх грамадаў, прычым 10 знаходзяцца ў Гарадзенскай вобласьці. Мусульманскія грамады ўтвараюць два незалежныя рэлігійныя аб'яднаньні: Мухтасібат Рэспублікі Беларусь (з 1993 г.) з падпарадкаваньнем Цэнтральнаму Духоўнаму ўпраўленьню мусульманаў Расіі і эўрапейскіх краінаў СНД і самастойны Муфціят Рэспублікі Беларусь (з 1994 г.). У 1994 г. адбыўся першы Ўсебеларускі зьезд мусульманаў у Менску, які абвясьціў аб утварэньні Мусульманскага рэлігійнага аб'яднаньня Рэспублікі Беларусь. Беларускія татары-мусульмане належаць да сунітаў-ханіфітаў. Сярод гэтай групы вернікаў праводзіліся сацыялягічныя дасьледаваньні, на падставе якіх можна меркаваць аб узнаўленьні і адраджэньні рэлігійнасьці і памылковасьці меркаваньняў аб рэлігійнай асыміляцыі татарскага насельніцтва. Так, сымболь веры — галоўнае мусульманскае патрабаваньне — спавядаюць 31,8% моладзі, 51% людзей сярэдняга ўзросту і 87% — старэйшага[12]. Дасьледнікі сьцьвярджаюць, што і ў сучаснасьці татары-мусульмане захавалі свае звычаі, абрады й традыцыі, якія, аднак, нясуць на сабе моцны ўплыў беларускіх традыцыяў (асабліва сямейная абраднасьць)[13].

У заключэньне, неабходна адзначыць некалькі момантаў у характарыстыцы этнаканфэсійнай структуры беларускага грамадзтва. Па-першае, гэта мадэрнісцкія працэсы, якія закранулі нават самыя кансэрватыўныя веравызнаньні, а таксама пэўныя зьмены, зьвязаныя з гістарычнымі працэсамі ў сучасным постсавецкім грамадзтве. Па-другое, гэта шчыльная сувязь рэлігійных арганізацыяў з культурна-асьветніцкімі аб'яднаньнямі, якія сваёй мэтай ставяць нацыянальнае, рэлігійнае й культурнае адраджэньне кожнай этнічнай групы. І трэці момант — гэта даволі шчыльныя міжканфэсійныя стасункі, пра што сьведчыць значная колькасьць агульнаканфэсійных арганізацыяў (69). Яны, безумоўна, садзейнічаюць міжканфэсіяналізму і міжэтнічнаму ўзаемапаразуменьню.

Стракатая канфэсійная структура беларускага грамадзтва зьяўляецца працягам гістарычнай традыцыі талерантнасьці — мірнага суіснаваньня прадстаўнікоў розных веравызнаньняў. Гэтая традыцыя талерантнасьці дазваляе спадзявацца і ў сучаснасьці пазьбегчы міжканфэсійных разладаў, што знаходзіць пацьверджаньне ў дадзеных сацыялягічных дасьледаваньняў. Сярод усіх вобласьцяў Беларусі найвышэйшым узроўнем верацярплівасьці адзначаецца насельніцтва Гарадзенскай, Берасьцейскай і Менскай вобласьцяў, якія маюць дастаткова складаную поліканфэсійную структуру.

Міжканфэсійныя дачыненьні й згода паміж прадстаўнікамі розных веравызнаньняў маюць вялікае значэньне пры дасягненьні грамадзкага адзінства й сапраўднага духоўнага аднаўленьня грамадзтва.

## *Заўвагі*

[1] Бабосаў Я.М. Сацыядынаміка рэлігійнасці і рэлігійнай сітуацыі ў постсацыялістычнай Беларусі // Весці АНБ. — №3. 1995. — С.8.

[2] Свод этнографических понятий и терминов. Религиозные верования. — М.1993. — С.48.

[3] Меннонитство как этноконфессиональная общность // Вопросы научного атеизма. — Вып.24. М.1979. — С.151.

[4] Земляков Л. На трудных путях согласия // Нёман. — №9. 1995. — С.172.

[5] Католицизм в Белоруссии. Традиционализм и приспособление. — Мн.1987. — С.188.

[6] Тамсама. — С.210.

[7] Короткая Т.П., Прокошина Е.С., Чудникова А.А. Старообрядчество в Белоруссии. — Мн. 1992. — С.37,42.

[8] Соколов И. Отношение протестантизма к России в XVI-XVII вв. — М.1880. — С.248.

[9] ЦДГА РБ, ф.295, воп.1, д.8462, л.15,20; ф.299, воп.2, д.13612, л.1-18.

[10] Інтэрвію пастара царквы АХВЭ В Радчанкі //Магілёўскія ведамасці. 28.01.95.

[11] Бабосаў Я.М. Тамсама. — С.12.

[12] Земляков Л. Тамсама. — С.169.

[13] Мамаразаков М.С. Мусульманский культ: прошлое и настоящее (по материалам Узбекистана и Беларуси). — Мн.1994. — С.94.

■

# *Фэномэн палескага нэапратэстантызму: некаторыя тэндэнцыі разьвіцьця*

***Юрась ШАЎЦОЎ***



**Юрась Шаўцоў нарадзіўся 29.07.1966 у в.Расна Камянецкага р-ну Берасьцейскае вобласьці. Скончыў гістарычны ф-т БДУ ў 1988 г. Працаваў у археалягічным музэі "Берасьце", Паўночна-Крымскай археалягічнай экспэдыцыі Крымскага аддзелу археалёгіі Інстытуту Археалёгіі АН УССР, Саяна-Тувінскай Археалягічнай экспэдыцыі Інстытуту Ўсходазнаўства АН СССР, у СШ №13 г.Берасьця, у Інстытуце Культуры і Мастацтва АН Летувы, у Інстытуце палітычных навук і міжнародных адносінаў Віленскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. На сёньняшні дзень — загадчык аддзелу міжнароднай палітыкі газэты "Белорусский рынок". З 1995 г. — каардынатар міжнародных праграмаў НЦСД "Усход-Захад".**

Ня кожная эўрапейская нацыя можа сёньня пахваліцца, што ейнай духоўнай энэргіі ставала на стварэньне новай канфэсіі. А тым больш — на працэс пераўтварэньня новай царквы ў дамінацыйную. Падабаецца гэта камусьці ці не, а сёньня ў Эўропе толькі ў Беларусі адбываецца сапраўдная канфэсійная рэвалюцыя: толькі ў Беларусі новая царква мае рэальныя пэрспэктывы ў самыя бліжэйшыя гады стацца найбольш распаўсюджанай сярод рэлігійна актыўнай часткі насельніцтва; толькі ў Беларусі сёньня пэрспэктывы пераўтварэньня ў культурную дамінанту цэлай нацыі мае канфэсія, якая апэлюе не да гістарычнай традыцыі, мовы, дзяржаўнасьці дадзенага грамадзтва, а да „чыстай" дагматыкі й свабодных ад палітызацыі рэлігійных каштоўнасьцяў. Размова ідзе пра беларускіх нэапратэстантаў (у першую чаргу, эвангелістаў і баптыстаў).

З табліцы 1 бачная афіцыйная дынаміка разьвіцьця ў Рэспубліцы Беларусь розных канфэсійных групаў.

### *Суадносіны між рознаканфэсійнымі грамадамі*

Перш за ўсё відавочна, што паводле колькасьці афіцыйна зарэгістраваных грамадаў пратэстанты стала выступаюць як другая канфэсійная група пасьля праваслаўных. Каталікі займаюць толькі трэцяе месца, прычым зь вялікім адрывам ад пратэстантаў.

Таксама відавочна, што тэмпы росту царкоўных грамадаў у Беларусі адрозьніваюцца. Колькасьць праваслаўных грамадаў з 1970 году ўзрасла ў 2,5 разы, колькасьць каталіцкіх — у 3 разы, колькасьць пратэстанцкіх — у 4 разы. У выпадку захаваньня існых тэндэнцыяў трэба

**Табліца 1.** *Афіцыйна зарэгістраваныя грамады трох асноўных канфэсійных групаў*

| Вобласьць | Год | Канфэсія | | |
|---|---|---|---|---|
| | | РПЦ | РКЦ | Пратэстанты |
| Берасьцейская | 1970 | 148 | 12 | 72 |
| | 1992 | 253 | 32 | 145 |
| | 1995 | 281 | 47 | 178 |
| Гарадзенская | 1970 | 76 | 71 | 24 |
| | 1992 | 119 | 136 | 28 |
| | 1995 | 148 | 155 | 47 |
| Віцебская | 1970 | 43 | 11 | 6 |
| | 1992 | 105 | 46 | 24 |
| | 1995 | 135 | 60 | 48 |
| Гомельская | 1970 | 44 | — | 10 |
| | 1992 | 85 | 9 | 36 |
| | 1995 | 108 | 15 | 59 |
| Магілёўская | 1970 | 22 | — | 16 |
| | 1992 | 45 | 4 | 34 |
| | 1995 | 49 | 7 | 44 |
| Менская (зь Менскам) | 1970 | 49 | 13 | 25 |
| | 1992 | 137 | 51 | 81 |
| | 1995 | 181 | 68 | 144 |
| Усяго | 1970 | 382 | 107 | 153 |
| | 1992 | 744 | 278 | 348 |
| | 1995 | 902 | 352 | 625 |

чакаць, што колькасьць афіцыйна зарэгістраваных пратэстанцкіх грамадаў зраўняецца з колькасьцю афіцыйна зарэгістраваных праваслаўных прыходаў і пераўзыйдзе іх недзе празь пяць-дзесяць гадоў.

Трэба адзначыць і шэраг дадатковых парамэтраў, зьвязаных з ростам грамадаў розных канфэсійных групаў, якія не знайшлі свайго месца ў пададзенай табліцы з прычыны пэўных хібаў мэтодыкі, калі фіксацыя грамадаў робіцца толькі на падставе факту іхнай афіцыйнай рэгістрацыі.

На 1.01.1995 году ў адміністрацыйныя ўстановы Рэспублікі Беларусь былі пададзеныя заявы на афіцыйную рэгістрацыю 107 пратэстанцкіх грамадаў. Гэткім чынам звычайна фіксуецца факт рэальнага існаваньня нейкай групы грамадзянаў пэўнай рэлігійнай скіраванасьці, якія ўжо рэальна ўяўляюць сабой адпаведную рэлігійную грамаду. Праўда, у каталікоў і праваслаўных на ўсходзе Беларусі, дзе ўзровень масавае рэлігійнасьці значна ніжэйшы, чымся ў заходніх раёнах, нярэдка за пададзенай заявай на рэгістрацыю рэальнай грамады не стаіць, а маецца толькі сьвятар, які павінен такую граmaду паступова стварыць пасьля рэгістрацыі. У пратэстантаў мэханізм узьнікненьня грамады прынцыпова іншы: да ўтварэньня рэальна існай рэлігійнай грамады падача заявы на ейную рэгістрацыю практычна немагчымая. Але нават калі не зьвярнуць на гэтую акалічнасьць увагі, усё роўна бачна, што колькасьць незарэгістраваных зь бюракратычных прычынаў грамадаў у пратэстантаў вышэйшая за праваслаўных ды каталікоў.

Больш за тое, трэба мець на ўвазе, што заўважальная частка пратэстанцкіх грамадаў з прычыны сваіх дагматычных меркаваньняў прынцыпова не рэгіструецца. Перш за ўсё размова ідзе пра Раду цэркваў эвангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў і некаторыя групы хрысьціянаў веры эвангельскай (эвангелістаў, пяцідзясятнікаў). Колькасьць такіх незарэгістраваных праз уласнае нежаданьне пратэстанцкіх грамадаў можа дасягаць 80—100.

Трэцяй групай пратэстанцкіх грамадаў, якія не патрапілі пад афіцыйную рэгістрацыю, выступаюць тыя, што існуюць рэальна, але зь нейкіх прычынаў яшчэ не падаюць дакумэнты на рэгістрацыю. Звычайна гэта тычыцца тых грамадаў, якія ўзьніклі ў гарадох адносна нядаўна й яшчэ не прайшлі стадыі першаснага станаўленьня. У іх яшчэ не адбыўся адсеў, зь ліку новых сяброў яшчэ не акрэсьлілася арганізацыйнае ядро або не акрэсьліўся стабільны лідар. Такія грамады афіцыйнае кіраўніцтва пратэстанцкіх дэнамінацыяў імкнецца нейкі час не рэгістраваць афіцыйна, хаця дэфакта яны могуць у стане станаўленьня існаваць даволі працяглы час.

Урэшце, асобную групу складаюць групы вернікаў на вёсцы, якія фармальна ўваходзяць у склад буйных грамадаў, але з прычыны раскіданасьці сяброў грамады невялікімі групамі па розных вёсках або зь нейкіх іншых прычынаў рэальна існуюць даволі аўтаномна, праводзячы неабходныя культавыя мерапрыемствы самастойна.

Агулам колькасьць незарэгістраваных пратэстанцкіх грамадаў павінна складаць каля 200—250, або каля 20—30 працэнтаў ад зарэгістраванай колькасьці. Гэткім чынам, колькасьць пратэстанцкіх грамадаў, якія рэальна існуюць у Беларусі,



**Малітоўны дом ЭХБ у Воршы**

можа быць ацэненая прыкладна ў 800—850 адзінак, а зраўняцца сваёй колькасьцю з праваслаўнымі прыходамі яны могуць ужо праз два-тры гады.

### *Напаўняльнасьць вернікамі*

Для ацэнкі рэальнага месца пратэстанцкіх грамадаў у сыстэме міжканфэсійных адносінаў у Беларусі трэба зьвярнуць увагу на напаўняльнасьць грамадаў розных канфэсіяў вернікамі і значэньне грамады як элемэнту царкоўнага жыцьця ў кожнай буйной беларускай канфэсіі.

Згодна зь беларускім заканаўствам, для падачы заявы на рэгістрацыю рэлігійнай грамады дастаткова дзесяці подпісаў грамадзянаў краіны. У буйных гарадох на ўсходзе Беларусі нярэдка за пададзенай заявай першапачаткова сапраўды можа стаяць дзесяць чалавек, калі ня менш. Але з табліцы бачна, што большая частка грамадаў усіх канфэсіяў знаходзіцца на захадзе Беларусі, прычым перш за ўсё — у заходнебеларускай вёсцы.

На захадзе Беларусі мэханізм функцыяваньня ўсіх канфэсійных грамадаў значна адрозьніваецца ад усходу. Асноўным адрозьненьнем у дадзеным выпадку можна, відавочна, лічыць знаходжаньне вернікаў у грамадстве, дзе захавалася вялікае значэньне буйной сям'і ды традыцыйнай вясковай культуры. У гэтай сытуацыі, якая б канфэсійная грамада ня ўзьнікла напачатку, яна хутка напаўняецца сямейнымі сувязямі й ператвараецца ў кангляімэрат зь невялікай колькасьці буйных сем'яў. Прынамсі, гэта тычыцца рэлігійна актыўнага ядра грамады, якое ў пратэстантаў звычайна супадае з хрышчанымі сябрамі. Таму на захадзе Беларусі існаваньне невялікай грамады працяглы час практычна немагчымае. Рэальна ў грамадзе, якая існуе на захадзе Беларусі адносна заўважальны час, на аднаго хрышчанага верніка прыходзіцца прыкладна па тры-чатыры чалавекі, якія знаходзяцца пад ягоным духоўным уплывам, але зь нейкіх прычынаў не прайшлі абрад хрышчэньня: малыя дзеці, блізкія сваякі, сябры і г.д.

Сярэдняя колькасьць хрышчаных вернікаў у заходнебеларускіх грамадах складае 50—150 чалавек на адзінку. Гэта значыць, з улікам дадатковага паказальніку ў тры-чатыры чалавекі на аднаго верніка, што ў той ці іншай ступені пад уплывам адной грамады знаходзіцца 500—600 чалавек. Напаўняльнасьць пратэстанцкіх грамадаў вагаецца: напрыклад, у горадзе Берасьці ў 1994 годзе было 7 зарэгістраваных нэапратэстанцкіх грамадаў. Адная падала дакумэнты на рэгістрацыю. Грамада РЦ ЭХБ не рэгістравалася праз дагматычныя меркаваньні. Пры гэтым у адной грамадзе (баптысцкай) — каля дзьвюх тысяч хрышчаных сяброў, у чатырох іншых (яшчэ адной баптысцкай, эвангелісцкай, унітарысцкай і РЦ ЭХБ) — прыкладна па 500 чалавек. У астатніх — да двухсот хрышчаных сяброў. У сярэднім на адну грамаду прыходзіцца прыкладна па 600—800 хрышчаных сяброў, якія маюць берасьцейскую гарадзкую прапіску. Адзначыць прапіску неабходна, каб аддзяліць ад асноўнай масы сяброў грамадаў мігрантаў з пратэстанцкіх вясковых сем'яў, якія яшчэ не натуралізаваліся ў горадзе.

Атрымліваецца, што ў Берасьці хрышчаныя пратэстанты складаюць восемдзесяць тысячаў чалавек. З улікам паказальніку — звыш за 30 тысячаў чалавек, што складае ад дзесяці да пятнаццаці працэнтаў насельніцтва гораду.

На ўсходзе Беларусі сацыяльная структура грамадзтва адрозьніваецца ад захаду. Значэньне сям'і й традыцыйнай сялянскай культуры тут меншае. Але затое на ўсходзе й меншы гарт канкурэнцыі з боку розных канфэсіяў у барацьбе за

ўплыў на насельніцтва.

Таму на ўсходзе Беларусі нутраная структура пратэстанцкіх грамадаў адрозьніваецца ад іхнай структуры на захадзе. На ўсходзе грамады растуць вельмі хутка, звычайна місіянэрскім шляхам, а не адгалінаваньнем ад старых грамадаў, як звычайна адбываецца на захадзе. Ужо таму ўсходнебеларускія грамады больш людныя за заходнебеларускія, але паказальнік уплыву аднаго верніка на няхрышчанае насельніцтва тут павінен быць меншы.

З прычыны рознай грамадзкай структуры на захадзе і ўсходзе Беларусі асноўная колькасьць вернікаў-пратэстантаў, як, зрэшты, і вернікаў іншых буйных канфэсіяў, знаходзіцца на захадзе дзяржавы.

Калі параўнаць напаўняльнасьць вернікамі пратэстанцкіх, праваслаўных і каталіцкіх грамадаў, дык першай праблемай будзе абраньне супольнага для ўсіх канфэсіяў крытэру. Бо праваслаўныя й каталікі фіксуюць сваіх вернікаў паводле менш жорсткіх правілаў, чымся пратэстанты. У прыватнасьці, пратэстанты праводзяць хрышчэньне толькі тых людзей, якія дасягнулі юрыдычнага паўналецьця (16 гадоў), хрышчэньне ёсьць ня толькі дабрахвотным, але й патрабуе ад чалавека папярэдняга складанага пэрыяду „паслушэнства“, калі ён павінен давесьці грамадзе, што сапраўды падрыхтаваны да гэтага абраду і стаецца сапраўдным вернікам.

Магчыма, супольным крытэрам для ўсіх канфэсійных групаў можна прызнаць паняцьце актыўнага верніка, выдзяляючы ў кожнай грамадзе каталікоў і праваслаўных такую групу вернікаў, якая ў межах сваёй грамады гартам рэлігійных пачуцьцяў прыкладна адпавядае хрышчаным пратэстантам.

Акрэсьленьне такога ядра ў межах каталіцкіх і праваслаўных грамадаў патрабуе сацыялягічных дасьледаваньняў. Але, зыходзячы з таго гледзішча, што сталыя грамады ўсіх трох канфэсіяў на вёсцы, якія існуюць побач на працягу 60—80 гадоў, знаходзяцца ў межах прыкладна аднога сацыяльнага слою ў прыкладна аднолькавых палітычных умовах (хаця ў розныя пэрыяды розныя канфэсійныя групы мелі розны палітычны клімат для свайго існаваньня), дык, магчыма, можна пагадзіцца з тым, што колькасьць рэлігійна актыўных вернікаў у грамадах трох канфэсійных групаў на захадзе Беларусі прыкладна аднолькавая. Прынамсі, з уласнага досьведу дый з ацэнак сьвятароў, зь якімі даводзілася размаўляць на гэтую тэму, складваецца ўражаньне, што сярод каталікоў і праваслаўных на захадзе Беларусі звычайна найбольш набліжаныя да царкоўных праблемаў тыя ж 50—150 чалавек, а астатнія парафіяне падзяляюцца на дзьве буйныя групы: тыя, хто больш-менш рэгулярна спраўляе рэлігійныя абрады (500—800 чалавек), і тыя, хто спраўляе абрады і бывае ў царкве вельмі рэдка. Магчыма, гэтае назіраньне адлюстроўвае прыкладна аднолькавую структуру рэлігійных грамадаў і іхнае месца ў заходнебеларускім грамадзтве.

Дадатковым аргумэнтам на карысьць думкі пра прыкладна аднолькавую ступень напаўняльнасьці актыўнымі вернікамі сталых грамадаў усіх трох канфэсіяў на захадзе Беларусі выступае прынцыповае падабенства структуры праваслаўнай і каталіцкай грамады, іхнае структурнае падабенства да пратэстанцкай грамады.

Рэч у тым, што з розных прычынаў на працягу апошніх пяцідзесяці гадоў у праваслаўных і каталікоў было практычна зьліквідаванае манаства, а клер быў прафэсійна аслаблены й недасканалы: у Беларусі да канца 80-х гадоў меўся толькі адзін невялікі Жыровіцкі манастыр, дзейнасьць каталіцкіх ордэнаў не разгорнутая дасюль, каталіцкая сэмінарыя



**Маліто ўны дом ЭХБ ў в.Дзівін (Берасьцейская вобл.)**

толькі ў мінулым годзе дала першы выпуск. У праваслаўных з падрыхтоўкай кадраў праблема яшчэ больш складаная, бо й звонку іх асабліва завезьці было немагчыма з прычыны зьнішчэньня РПЦ у Расіі. Апроч таго, савецкае заканадаўства ставіла сьвятара ў юрыдычную залежнасьць ад кіраўніцтва царкоўнай грамады. Такая практыка захоўваецца і дагэтуль. Тым больш, што на саміх вернікаў як грамадзянаў дзяржаўныя органы захоўваюць вялікія магчымасьці ўзьдзейнічаць у неабходным дзяржаве кірунку.

Таму на захадзе Беларусі ў пасьляваенныя гады сфармаваўся такі тып царкоўнага жыцьця, які прадугледжвае моцную грамаду й адносна слабы клер. Гэткім чынам, і праваслаўная і каталіцкая грамады дасюль маюць структуру, якая нагадвае нутраную структуру пратэстанцкай грамады. Асабліва гэтая блізіня характэрная для праваслаўных прыходаў, дзе сьвятарства ня так моцна здысцыплінаванае, як у каталікоў.

Падводзячы нейкі вынік, можна падкрэсьліць, што калі выкарыстаць пратэстанцкую мэтодыку для ацэнкі рэальнай вагі розных канфэсіяў на грамадзтва, дык прыходзіцца пагадзіцца, што ўплыў асноўных канфэсіяў на рэлігійна актыўную частку насельніцтва, прынамсі, на захадзе Рэспублікі Беларусь, дзе рэлігійная праблематыка актуальная, прыкладна адпавядае колькасьці й суадносінам грамадаў гэтых цэркваў. Проста ў каталікоў і праваслаўных жыцьцё вернікаў не зацыкліваецца на жыцьці грамадаў, вялікую вагу для іх маюць палітычныя й культурныя чыньнікі. Таму больш моцная пазыцыя пратэстантаў сярод рэлігійна актыўнай часткі вернікаў ніяк не замінае, напрыклад, каталіком захоўваць больш відочны (параўнальна з пратэстантамі) уплыў на культуру, СМІ, адукацыю і палітыку.

### *Дэнамінацыйная кансалідаванасьць*

Адной з спэцыфічных рысаў беларускага нэапратэстантызму выступае ягоная дэнамінацыйная кансалідаванасьць (гл. табліцу 2).

Звыш паловы зарэгістраваных грамадаў — эвангелісцкія, каля сарака працэнтаў — баптысцкія, і толькі каля пяці працэнтаў належаць да іншых дэнамінацыяў. Калі ўлічыць незарэгістраваныя грамады, дык тады працэнт эвангелісцкіх грамадаў зьнізіцца.

Трэба нагадаць, што баптысты й эвангелісты свабодна кампілююцца між сабой. Дагматычныя адрозьненьні між імі не прынцыповыя. У прыватнасьці, што асабліва важна для аналізу іхных адносінаў міжсобку, для пераходу з адной дэнамінацыі ў другую ня трэба праходзіць абраду перахрышчваньня.

**Табліца 2.** *Суадносіны паміж дамінацыйнымі нэапратэстанцкімі дэнамінацыямі адпаведна колькасьці афіцыйна зарэгістраваных на 1.01.1995 г. у Рэспубліцы Беларусь грамадаў*

| Асноўныя пратэстанцкія дэнамінацыі | Колькасьць афіцыйна зарэгістраваных |
|---|---|
| Эвангельскія хрысьціяне-баптысты | 183 |
| Хрысьціяне Веры Эвангельскай | 261 |

Апроч колькаснай перавагі эвангелістаў над іншымі пратэстанцкімі грамадамі мае значэньне факт насычэньня баптысцкіх грамадаў эвангелістамі. Эвангелісты часам складаюць да паловы складу баптысцкіх грамадаў. Больш за тое, шматлікія баптысцкія грамады вызнаюць неартадаксальныя варыянты баптызму, якія набліжаюць іх у дагматыцы да эвангелізму. Жорстка артадаксальнымі баптыстамі выступаюць толькі сябры РЦ ЭХБ.

Фэномэн блізіні эвангелістаў і баптыстаў у Беларусі тлумачыцца, верагодна, шэрагам акалічнасьцяў:

1. У міжваенным часе на тэрыторыі Палескага і ў меншай меры Наваградзкага ваяводзтваў эвангелісты распаўсюджваліся асабліва імкліва. Напрыканцы трыццатых гадоў тут знаходзілася каля трох чвэрцяў эвангелістаў усяе Польшчы і менш за палову баптыстаў. У абсалютных лічбах эвангелістаў ужо тады было значна больш за баптыстаў.

2. Пасьля далучэньня заходняй Беларусі да СССР і асабліва пасьля стварэньня ў 1944 годзе Ўсесаюзнай рады эвангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў (УРЭХБ) усе нэапратэстанцкія дэнамінацыі Савецкага Саюзу былі далучаныя да яго. Дагматычна гэты УРЭХБ быў баптысцкім, прынамсі баптысцкім было ягонае маскоўскае кіраўніцтва. Эвангелізм (пяцідзясятніцтва) было забароненае савецкім заканадаўствам. Частка эвангелісцкіх грамадаў была нелегальнай. Але бальшыня — фармальна ўваходзіла ў склад УРЭХБ, захоўваючы пры гэтым явачным парадкам сваю рэальную дэнамінацыйную прыналежнасьць і дагматыку. Бальшыня эван-

гелістаў СССР пасьля 1939 году знаходзілася ў былых польскіх Палескім і Наваградзкім ваяводзтвах. Праўда, паступова яны распаўсюдзілі сваю веру й на іншыя рэгіёны вялікай краіны. У 1991 годзе пасьля зьняцьця афіцыйнай забароны на вызнаваньне эвангелізму й рэгістрацыю эвангеліскіх грамадаў большая частка грамадаў, якія ўваходзілі ў склад УРЭХБ на тэрыторыі Беларусі, выйшлі зь яго, падзякавалі баптыстам за шмат дзесяцігодзьдзяў прыкрыцьця ад савецкіх уладаў і стварылі ўласны Зьвяз хрысьціянаў веры эвангельскай.

3. Уплыў баптызму на рэлігійнае жыцьцё ў Беларусі быў паслаблены фактам арганізацыйнага расколу ў 1961 годзе. Тады ад УРЭХБ адкалолася частка грамадаў і вернікаў, якія не пажадалі прызнаваць савецкага заканадаўства наконт культаў і ўмяшальніцтва дзяржаўных органаў у справы пратэстанцкіх грамадаў. Яны стварылі антысавецкае падпольле на чале з створанай імі ж арганізацыяй: Рада цэркваў эвангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў.

4. Магчыма, мае значэньне эфэктыўнасьць місіянэрскай дзейнасьці эвангелістаў, большая, чым у іншых дэнамінацыях. Ня выключана, што знойдзеныя эвангелістамі містычныя дагматычныя акцэнты аказаліся больш прыдатнымі для ўспрыйманьня беларускім насельніцтвам, чымся рацыяналістычны падыход баптыстаў.

Агулам эвангелістамі ёсьць каля 70 працэнтаў беларускіх нэапратэстантаў, і найбольш хуткімі тэмпамі адбываецца сёньня рост менавіта гэтай пратэстанцкай дэнамінацыі.

### *Рэгіён базаваньня*

Беларускія пратэстанты маюць выразны рэгіён свайго базаваньня. Каля трох чвэрцяў пратэстанцкіх грамадаў групуюцца ў межах чатырох мікрарэгіёнаў, што зьліваюцца ў адзін буйны паўднёвазаходні рэгіён Беларусі. Найбольш моцны пратэстанцкі асяродак знаходзіцца ў навакольлях Пінску-Століну (каля 80 грамадаў), другі паводле „моцы“ — вакол Берасьця-Кобрыну (каля 60 грамадаў), потым — Салігорск-Слуцак і Баранавічы. Пятым паводле колькасьці сканцэнтраваных у адным месцы грамадаў на нашых вачох імкліва становіцца рэгіён Калінкавічаў-Мазыра.

Найбольшы прырост пратэстанты маюць менавіта ў гэтым рэгіёне. Больш за тое, іхнае распаўсюджаньне навокал адбываецца ня толькі як просты рост іхных грамадаў у новых рэгіёнах, але збольшага — шляхам своеасаблівага распаўзаньня палескай плямы ў геаграфічным пляне на суседнія рэгіёны.

Зрэшты, вельмі важны для ацэнкі пэрспэктываў пратэстантаў факт пасьпяховага распаўсюджаньня гэтай канфэсіі ў розных беларускіх субкультурах. У межах адзінага кампактнага пратэстанцкага рэгіёну аказалася і праваслаўнае заходняе Палесьсе, і напаўкаталіцкае беларускамоўнае насельніцтва вакол Баранавічаў, і клясычнае насельніцтва ўсходняе Беларусі вакол Слуцку, і чарнобыльцы Калінкавічаў. Атрымліваецца, што пратэстанты маюць ключ да культурных кодаў практычна ўсіх групаў беларускага насельніцтва.

Адносна ўстойлівымі перад місіянэрскай дзейнасьцю пратэстантаў пакуль паказалі сябе толькі заходнебеларускія каталікі, але ня выключана, што гэты факт можа тлумачыцца геаграфічнай лякалізацыяй пратэстантаў на працягу дзесяцігодзьдзяў у пераважна праваслаўнай мясцовасьці. Прынамсі, на Віленшчыне ў Летуве місіянэрская дзейнасьць зьвязаных зь беларускім пратэстанцкім асяродкам цэркваў аказалася выключна пасьпяховай.

У межах рэгіёну свайго базаваньня пратэстанты ў апошнія пяць-шэсьць гадоў перайшлі да якасна новых формаў сваёй дзейнасьці й арганізацыі.

На працягу гэтага пэрыяду пратэстанты выбудавалі ў рэгіёне цэлы шэраг буйных малельных дамоў, у тым ліку разьлічаных больш чымся на 1000 пасадачных месцаў кожны. Адпаведна была трансфармаваная структура рэлігійнай і арганізацыйнай дзейнасьці пратэстантаў: буйныя малельныя дамы былі пераўтвораныя ў своеасаблівыя цэнтры, вакол якіх цяпер групуюцца па некалькі дзясяткаў навакольных больш дробных грамадаў. Такая фактычна біскупская сыстэма прыйшла замест былой пратэстанцкай структуры, калі дзейнасьць грамадаў была амаль выключна завязаная на невялікіх аўтаномных грамадах-сем'ях.

Найбольш буйныя новыя малельныя дамы пабудаваныя ў Берасьці, Баранавічах, Дарагічыне, в.Альшаны Столінскага раёну, Пінску. Самы вялікі малельны дом — у Кобрыне, разьлічаны на 1500—1800 пасадачных месцаў.



Малітоўны дом ЭХБ ў Кобрыне

годзьдзя), і ўвогуле нэапратэстантызм распаўсюджваецца ў праваслаўным сэрцы ня толькі Беларусі, але й праваслаўя на захадзе былога СССР. Падобна да таго, што ён ёсьць натуральнай формай эвалюцыі традыцыйнай праваслаўнай грамады ва ўмовах адсутнасьці дзяржаўнай падтрымкі праваслаўнага клеру. Апроч таго, праваслаўная царква — досыць палітызаваная, і ёй, як прамаскоўскаму палітычнаму арганізму, беспасярэдне пагражаюць не пратэстанты, якія ў палітычна-нацыянальныя сваркі не заангажаваныя, а каталікі. Рост уплыву каталіцкага лёбі й каталіцызму ўвогуле ў стане выклікаць хуткую эвалюцыю Беларусі ў заходнім немаскоўскім кірунку, што для праваслаўнай царквы выглядае катастрофай. Напрыклад, ужо стала традыцыяй, што касьцяк беларускай празаходняй апазыцыі й тых палітыкаў, што зарыентаваныя на Захад увогуле, складаюць каталікі.

Каталіцкаму касьцёлу ў Беларусі таксама не да пратэстантаў: каталіцызм сёньня мае шанцы вярнуцца ва ўсходнюю Беларусь, актыўна выкарыстоўваецца ў барацьбе рознымі палітычнымі групоўкамі, а галоўнае — мае шэраг нутраных праблемаў. Напэўна, ня будзе вялікім перабольшваньнем выснова, што па меры свайго росту ў каталіцызьме йдзе крышталізацыя трох-чатырох плыняў клеру й вернікаў замест польсказарыентаванай сёньняшняй дамінанты. Найбольш заўважальнай новай плыньню выступаюць беларусказарыентаваныя каталікі й клерыкі. Падобна да таго, што ня меншы за іхны патэнцыял да росту маюць расійскамоўныя прыхільнікі каталіцызму, зарыентаваныя на вядзеньне актыўнай місіянэрскай дзейнасьці, абапіраючыся на Беларусь у Расіі (падобна да біскупа Кандрусевіча). Таксама важна, што рэгіён, дзе кампактна пражываюць каталікі (уздоўж беларуска-летувіскай мяжы), знаходзіцца даволі далёка ад рэгіёнаў масавага росту пратэстантаў, і таму для асноўнай масы каталікоў пратэстанцкая місіянэрская пагроза неактуальная.

Беларускім палітычным уладам, якія абапіраюцца збольшага на прамысловыя рэгіёны ўсходняй Беларусі, канфэсійная

### *Геапалітычныя наступствы*

Самі пратэстанты ў масе сваёй належаць да тых пластоў грамадзтва, якія не займаюць высокага становішча. Людзей з вышэйшай адукацыяй сярод пратэстантаў няшмат, збольшага яны — калгасьнікі, будаўнікі, кваліфікаваныя рабочыя на вытворчасьці й г.д. З аднога боку, гэта добра — дадаткова стрымліваецца тэндэнцыя да ўцягваньня пратэстантаў у палітычныя й інтэлектуальныя спрэчкі. Пратэстантызм разьвіваецца пераважна як „жывая царква“, а не канфэсійная форма нейкага палітычнага руху. З другога боку, пратэстанты пераважна не разумеюць сваёй ужо досыць важнай геапалітычнай вагі, а таксама тых працэсаў, якія выклікаюцца ўжо сёньня адным фактам іхнага існаваньня.

У прыватнасьці, ужо цяпер бачна, што калі раптам не праявяцца нейкія новыя палітычныя фактары, пратэстанты пераўтворацца ў самую буйную канфэсійную групу ў Беларусі на працягу некалькіх гадоў. Супыніць іх місіянэрскім шляхам у Беларусі няма каму: праваслаўная царква ня здолела гэтага зрабіць нават у часы свайго дзяржаўнага панаваньня да рэвалюцыі (першыя нэапратэстанты ў Беларусі фіксуюцца напрыканцы XIX ста-

праблематыка ўвогуле далёкая й неактуальная, бо ў прамысловых цэнтрах уплыў усіх цэркваў пакуль яшчэ значна меншы, чымся на аграрным захадзе. Ужо таму рэспубліканскае кіраўніцтва рэагуе толькі на палітычныя праявы канфэсійнай дзейнасьці, а значыцца, можна разьлічваць, што ў бліжэйшым часе ў Менску можа быць у канфэсійным сэнсе актуальная праваслаўна-каталіцкая тэматыка, дый то нязначная, а пратэстантаў і далей беларуская эліта заўважаць ня будзе.

Важна і тое, што супыніць рост нэапратэстантаў складана ва ўмовах працэсу забалочваньня, якое разгортваецца на нашых вачох на Палесьсі. У Беларусі няма магчымасьці ўтрымліваць мэліярацыйныя сыстэмы ў тых маштабах, што былі ў часы існаваньня СССР. Але менавіта на мэліяраваных землях Берасьцейшчыны сёньня знаходзіцца вялікая колькасьць вясковага насельніцтва. У тым ліку — пратэстантаў. Разбурэньне паводкамі транспартнай і сацыяльнай інфраструктуры непазьбежна будзе штурхаць прынамсі моладзь у гарады з больш-менш лагодным інвэстыцыйным кліматам. А менавіта, у Берасьце, Баранавічы, Менск. Праваслаўныя мігранты ў гарадох звычайна інтэгруюцца ў неканфэсійныя сацыяльныя групы. А нэапратэстанты пераважна адаптуюцца праз дапамогу сваіх гарадзкіх грамадаў. Трэба чакаць па меры забалочваньня рэзкага напаўненьня гарадзкіх грамадаў „якасным“ пратэстанцкім элемэнтам зь вёсак і на падставе гэтага — якасна новага рыўку ў разьвіцьці нэапратэстантызму ў Беларусі.

Апрача таго, у пэрспэктыўным сэнсе рост нэапратэстантызму ў бліжэйшыя гады не пагражае інтарэсам рэспубліканскай эліты й інтарэсам беларускага нацыяналізму, бо дазваляе вырашыць шэраг геапалітычных праблемаў Беларусі:

1. Па меры росту нэапратэстантызму зьнікае пэрспэктыва да стварэньня ўстойлівай беларускай ідэалёгіі на падставе нейкай канфэсіі. Напрыклад, нельга, як было да рэвалюцыі, адрэзаць ад беларускага культурнага поля каталіцызм, стымулюючы ягоную польскасьць. Усё роўна праваслаўе ня будзе ў стане зрабіцца кансалідатарам нацыі па расійскім тыпе з прычыны пратэстанцкай канкурэнцыі. А значыць, беларуская ідэалёгія можа быць толькі пасьлядоўна сьвецкай. У чым, дарэчы, прынцыповае адрозьненьне беларускай пэрспэктывы ад усіх суседніх народаў (апрача, можа, латышоў), дзе нацыянальная тоеснасьць вельмі моцна зьвязаная з тоеснасьцю канфэсійнай, або як на Ўкраіне: рэгіянальная ўкраінская тоеснасьць — з тоеснасьцю рэгіянальна-канфэсійнай.

2. Сам па сабе рост нэапратэстантызму ставіць паміж Беларусьсю і Расіяй значна больш моцную і рэальную культурную мяжу, чымся, напрыклад, усе праграмы моўнай беларусізацыі. Да прыкладу, нейкая форма аб'яднаньня дзьвюх дзяржаваў ці надта вялікае іхнае збліжэньне проста адкрываюць магчымасьць для беларускага пратэстанцкага асяродку зноў вярнуцца да актыўнай місіянэрскай дзейнасьці на тэрыторыі Расіі. Сёньня яны трапляюць пад дыскрымінацыйнае заканадаўства аб замежных місіянэрах, і ў Расіі дзейнічаюць збольшага амэрыканскія місіянэры, якія часта ня ведаюць ня тое што расійскай мэнтальнасьці ці традыцыяў, а нават і мовы. Адсюль і эфэктыўнасьць іхнай місіянэрскай дзейнасьці звычайна саступае дзейнасьці беларускіх місіянэрскіх групаў. Так што ўжо сёньня фактар небясьпекі для самой Расіі падхапіць разам зь Беларусьсю і беларускія „хваробы“ ня можа ня ўлічвацца пры ўсіх палітычных развагах.

3. Пратэстанты самім фактам свайго існаваньня ўплываюць на вырашэньне й стан другой выбуховай беларускай праблемы: заходнепалескай. Выйсьце пратэстантызму па-за межы заходнепалескага культурнага арэалу моцна прывязвае гэты арэал да Беларусі, бо на Ўкраіне ці ў любой іншай эўрапейскай краіне ў іх няма такога рэальнага ўплыву, як у Беларусі, і няма пэрспэктываў дасягнуць такога стану ў бліжэйшы час. А канкрэтна — няма магчымасьці адбудаваць сэткі буйных малельных дамоў з даччынымі грамадамі й стала асесьці ў адным кампактным рэгіёне, займець фактычна „сваю краіну“.

На Ўкраіне пратэстантаў прыкладна ў чатыры разы ў абсалютных лічбах больш, чымся ў Беларусі, але іхны стан на Ўкраіне якасна іншы. Украінскім пратэстантам супрацьстаяць значна больш моцныя вялікія канфэсіі, якія маюць значна большую, чымся на Беларусі, палітычную падтрымку рэспубліканскіх ці рэгіянальных уладаў. Украінскі нацыяналізм больш моцна зьвязаны з традыцыйнымі цэрквамі, чымся на Беларусі. Больш за тое, заўважальнай часткай украінскіх нацыянальных ідэолягаў (УНА—УНСО перш за ўсё) ужо высунутая дактрына

супрацьстаяньня „амэрыканскаму касмапалітызму“, што, у прыватнасьці, ставіць украінскіх пратэстантаў у больш складаны палітычны стан, чымся ў Беларусі.

У дэнамінацыйным сэнсе пратэстанты на Ўкраіне далёка не адзіныя, як у Беларусі (гл. табліцу 3). Пры гэтым найбольш распаўсюджаныя на Ўкраіне баптысты, а не эвангелісты. Эвангелісты з баптыстамі дамінуюць па беларускім тыпе на ўкраінскім заходнім Палесьсі.

Украінскія нэапратэстанты ня маюць аднаго ўстойлівага рэгіёну свайго ўплыву. Рэгіёнаў канцэнтрацыі пратэстантаў у гэтай краіне тры: Заходняе Палесьсе-Валынь, Закарпацьце, Паўднёвая Ўкраіна. Пры гэтым у кожным рэгіёне дамінуе свой тып нэапратэстанцкай дзейнасьці й „свая дэнамінацыя“.

Атрымліваецца, што паралельна з рэальна існым прыцягненьнем часткі насельніцтва беларускага заходняга Палесься да Ўкраіны па моўнай прыкмеце, з ростам нэапратэстантызму ў Беларусі ўсё больш важкае значэньне мае патэнцыйнае прыцягненьне часткі заходнепалескага насельніцтва Ўкраіны да Беларусі. Агулам размова ідзе пра тое, што па абодва бакі беларуска-ўкраінскай мяжы на заходнім Палесьсі канцэнтруецца эвангельска-баптысцкае ядро з прыкладна 1000 грамадаў, і ўжо сёньня гэты фактар аб’ектыўна ня можа ня стрымліваць украінскі радыкалізм ад рэальных крокаў па інтэграцыі беларускай часткі заходняга Палесься ў склад Украіны нават на духоўным узроўні.

І наадварот, пэрспэктыва заняць устойлівы рэгіён і сацыяльныя групы ўплыву на Ўкраіне ня можа ня быць выгаднай беларускай палітычнай эліце пры ўсёй яе ідэалягічнай своеасаблівасьці.

4. Паводле прыкладна той самай схемы пратэстанцкі фактар можа быць разгле-

**Табліца 3.** *Колькасьць афіцыйна зарэгістраваных рэлігійных грамадаў на Ўкраіне на 1.01.1993.*

| Царква | Колькасьць грамадаў |
|---|---|
| УПЦ Кіеўскага Патрыярхату | 1989 |
| УПЦ Маскоўскага Патрыярхату | 5364 |
| УГКЦ | 2807 |
| РКЦ | 517 |
| Грамады мусульманаў | 42 |
| Царква ЭХБ | 1241 |
| РЦ ЭХБ | 104 |
| Цэрквы ХВЭ | 602 |
| Грамады эвангелістаў па-за Саюзамі | 197 |
| Царква ХВЭ | 20 |
| Сьведкі Еговы | 409 |
| Царква АСД | 326 |
| Царква АСД-рэфармістаў | 20 |

джаны на ўзроўні ўзаемаадносінаў паміж Беларусьсю й Польшчай. Напрыклад, у выпадку нейкіх радыкальных крокаў з польскага боку па стымуляцыі паланізацыйнай дзейнасьці на Беларусі праз касьцёл, пры пэўных палітычных умовах Менск у стане перанесьці на сваю тэрыторыю пункты апірышчаў Сьведкаў Еговы. Гэтая канфэсійная група ў Беларусі амаль не распаўсюджаная, а ў Польшчы расьце вельмі хутка. Заўважальны прыток у ейныя структуры ідзе за кошт польскіх беларусаў. Можа быць з боку Менску і напрасткі стымуляваная актыўнасьць польскіх эвангелістаў і баптыстаў. У кожным разе на ўзроўні канфэсійнай палітыкі ў беларуска-польскіх узаемадачыненьнях ня ўлічваць пратэстанцкі элемэнт ужо сёньня складана. ■

# *Рада Эўропы: Рамкавая Канвэнцыя ў абарону нацыянальных меншасьцяў і Вытлумачальная запіска*

## *УВОДЗІНЫ*

Рамкавая Канвэнцыя ў абарону нацыянальных меншасьцяў, распрацаваная ў межах Рады Эўропы Камітэтам *Ad Hoc* у абарону нацыянальных меншасьцяў (CAHMIN) пад кіраўніцтвам Камітэту міністраў, была прынятая Камітэтам міністраў Рады Эўропы 10 лістапада 1994 г. і адкрытая для падпісаньня краінамі-складнікамі Рады Эўропы 1 лютага 1995 г. Краіны-няскладнікі таксама могуць быць запрошаныя Камітэтам міністраў, каб далучыцца ў якасьці Боку да гэтага дакумэнту.

Дадзеная публікацыя зьмяшчае тэкст рамкавае Канвэнцыі ў абарону нацыянальных меншасьцяў, а таксама й Вытлумачальную запіску.

# *Рамкавая Канвэнцыя ў абарону нацыянальных меншасьцяў*

## *ПРЭАМБУЛА*

Краіны-складнікі Рады Эўропы й іншыя краіны-сыгнітарыі дадзенае рамкавае Канвэнцыі

Лічачы, што мэтай Рады Эўропы ёсьць дасягненьне большага адзінства паміж яе краінамі-складнікамі, а таксама дзеля абароны й рэалізацыі ідэалаў і прынцылаў, што складаюць іхную супольную спадчыну;

Лічачы, што адзін з сродкаў дасягненьня яе мэты — гэта ахова й далейшае пашырэньне правоў чалавека й асноўных свабодаў;

Жадаючы ісьці далей у рэчышчы Дэкларацыі кіраўнікоў дзяржаваў і ўрадаў дзяржаваў-складнікаў Рады Эўропы, прынятай у Вене 9 кастрычніка 1993 г.;

Поўныя рашучасьці абараняць існаваньне нацыянальных меншасьцяў на іхнай адпаведнай тэрыторыі;

Лічачы, што сутарэньні эўрапейскае гісторыі паказалі, што абарона нацыянальных меншасьцяў — гэта аснова стабільнасьці, дэмакратычнае бясьпекі і спакою на кантынэнце;

Лічачы, што плюралістычнае й насамрэч дэмакратычнае грамадзтва павінна ня толькі паважаць этнічную, культурную, лінгвістычную й рэлігійную саматоеснасьць кожнае асобы, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, але й таксама ствараць належныя ўмовы, якія б дазвалялі выказваць, захоўваць і разьвіваць гэтую саматоеснасьць;

Лічачы, што стварэньне клімату талерантнасьці ды дыялёгу ёсьць неабходным дзеля таго, каб у кожным грамадзтве культурная разнастайнасьць была крыніцаю й чыньнікам не падзелу, а ўзбагачэньня;

Лічачы, што стварэньне талерантнае й квітнеючае Эўропы залежыць ня толькі ад супрацоўніцтва паміж дзяржавамі, і што яно таксама вымагае трансмежавага супрацоўніцтва між мясцовымі й рэгіянальнымі ўладамі, пры якім паважалася б канстытуцыя й тэрытарыяльная цэласнасьць кожнае дзяржавы;

Беручы пад увагу Канвэнцыю ў абарону правоў чалавека й асноўных свабодаў у Пратаколе да яе;

Беручы пад увагу забавязаньні што да абароны нацыянальных меншасьцяў, зьмешчаныя ў канвэнцыях і дэкларацыях ААН і дакумэнтах Нарады па бясьпецы й супрацоўніцтве ў Эўропе, у прыватнасьці, Капэнгагенскага Дакумэнту ад 29 чэрвеня 1990 г.;

Поўныя рашучасьці вызначыць належныя павазе прынцыпы й абавязкі, што зь іх вынікаюць, з тым, каб забясьпечыць у краінах-удзельніцах гэтае Канвэнцыі ды ўсіх іншых краінах, якія далучаюцца да яе ў якасьці Боку, эфэктыўную абарону нацыянальных меншасьцяў, пры захаваньні законнасьці, тэрытарыяльнае цэласнасьці й нацыянальнага сувэрэнітэту;

Перакананыя ў неабходнасьці ажыцьцявіць на практыцы прынцыпы, сфармуляваныя ў дадзенай рамкавай Канвэнцыі, з дапамогаю нацыянальнага заканадаўства і належнаю дзяржаўнаю палітыкаю,

***Пагадзіліся пра наступнае:***

## *Частка I*

**Артыкул 1**

Абарона нацыянальных меншасьцяў і правоў ды свабодаў асобаў, якія належаць да іх, — гэта неад'емная частка міжнароднай абароны правоў чалавека і ў якасьці такой патрапляе ў сфэру міжнароднага супрацоўніцтва.

**Артыкул 2**

Палажэньні дадзенае рамкавае Канвэнцыі будуць ужывацца на падставе добрай волі, у духу ўзаемаразуменьня й талерантнасьці, а таксама згодна з прынцыпамі дабрасуседзтва, сяброўскіх стасункаў і супрацоўніцтва паміж дзяржавамі.

**Артыкул 3**

1. Кожная асоба, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, мае права свабоды выбару: быць ёй трактаванай ці не ў якасьці такой, і аніякае абмежаваньне не павінна быць вынікам такога выбару ці ажыцьцяўленьня правоў, зьвязаных з гэтым выбарам.

2. Асобы, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, могуць індывідуальна ці супольна зь іншымі скарыстоўваць правы й свабоды, што вынікаюць з прынцыпаў, сфармуляваных дадзенай рамкавай Канвэнцыяй.

## *Частка II*

**Артыкул 4**

1. Бакі забавязваюцца гарантаваць кожнай асобе, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, права на роўнасьць перад законам і на роўную ахову з боку закону. У гэтай сувязі забараняецца ўсялякая дыскрымінацыя, заснаваная на прыналежнасьці да нацыянальнае меншасьці.

2. Бакі забавязваюцца прыняць пры неабходнасьці адэкватныя захады дзеля забесьпячэньня ва ўсіх сфэрах эканамічнага, сацыяльнага, палітычнага й культурнага жыцьця поўнай і эфэктыўнай роўнасьці паміж асобамі, якія належаць да нацыянальнай меншасьці, і асобамі, якія належаць да нацыянальнай большасьці. У гэтай сувязі бакі будуць належным чынам усьведамляць спэцыфічныя ўмовы асобаў, якія належаць да нацыянальнае меншасьці.

3. Захады, прынятыя ў адпаведнасьці з параграфам 2, не павінны разглядацца як акт дыскрымінацыі.

**Артыкул 5**

1. Бакі забавязваюцца забясьпечваць належныя ўмовы, каб дазволіць асобам, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, захоўваць і разьвіваць іхную культуру, роўна як захоўваць іхную саматоеснасьць, а менавіта іхную рэлігію, мову, традыцыі й культурную спадчыну.

2. Бяз шкоды захадам, прынятым у межах іхнае супольнае палітыкі інтэграцыі, Бакі будуць устрымлівацца ад усялякае палітыкі або практыкі, накіраванай на асыміляцыю супраць іхнае волі асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, і будуць абараняць гэтых асобаў ад усялякага дзеяньня, накіраванага на такую асыміляцыю.

**Артыкул 6**

1. Бакі павінны заахвочваць дух талерантнасьці й міжкультурнага дыялёгу, а таксама ўжываць эфэктыўныя захады дзеля спрыяньня ўзаемапавазе і ўзаемаразуменьню паміж усімі асобамі, якія жывуць на іхнай тэрыторыі, не зважаючы на этнічную, культурную, лінгвістычную ці рэлігійную саматоеснасьць гэтых асобаў, у прыватнасьці, у галінах адукацыі, культуры й сродкаў масавай інфармацыі.

2. Бакі забавязваюцца ўжываць усе належныя захады дзеля абароны асобаў, якія могуць быць ахвярамі пагрозаў ці актаў дыскрымінацыі, варожасьці або гвалту з прычыны іхнае этнічнае, культурнае, лінгвістычнае ці рэлігійнае саматоеснасьці.

**Артыкул 7**

Бакі павінны забясьпечваць кожнай асобе, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, павагу правоў на свабоду мірных сходаў, свабоду задзіночаньняў, свабоду выказваньня й свабоду думак, сумленьня й рэлігіі.

**Артыкул 8**

Бакі забавязваюцца прызнаць за кожнаю асобаю, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, права на выказваньне сваёй рэлігіі ці сваіх поглядаў, а таксама й права на стварэньне арганізацыяў, асацыяцыяў і рэлігійных інстытутаў.

**Артыкул 9**

1. Бакі забавязваюцца прызнаць, што права на свабоду выказваньня кожнай асобы, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, складаецца з свабоды меркаваньня й свабоды атрымліваць і абменьвацца інфармацыяй ці ідэямі на мове меншасьці без умяшаньня з боку дзяржаўнае ўлады і без уліку дзяржаўных межаў. Бакі ў межах сваёй заканадаўчай сыстэмы будуць сачыць, каб асобы, якія належаць да нацыянальнае меншасьці, не дыскрымінаваліся ў доступе да сродкаў масавай інфармацыі.

2. Параграф 1 не перашкаджае Баком увесьці рэжым ліцэнзаваньня ўсёй дзейнасьці ў сфэры гукавога радыё, тэлебачаньня, кіно, які меў бы недыскрымінацыйны характар і засноўваўся на аб'ектыўных крытэрах.

3. Бакі ня будуць чыніць перашкодаў стварэньню й выкарыстаньню друкаваных сродкаў масавай інфармацыі асобамі, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў. У межах праўнай сыстэмы ў галіне гукавога радыё і тэлебачаньня Бакі будуць намагацца, наколькі гэта магчыма, і ўлічваючы палажэньні параграфу 1, забясьпечваць асобам, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, магчымасьць стварэньня й выкарыстаньня сваіх уласных сродкаў масавай інфармацыі.

4. У межах сваёй заканадаўчай сыстэмы Бакі будуць ужываць адэкватныя захады, каб палегчыць доступ асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, да сродкаў масавай інфармацыі з мэтаю ўмацаваньня талерантнасьці й забесьпячэньня культурнага плюралізму.

**Артыкул 10**

1. Бакі забавязваюцца прызнаць за кожнаю асобаю, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, права свабоднага й бесьперашкоднага выкарыстаньня мовы сваёй меншасьці як прыватна, так і публічна, вусна й пісьмова.

2. У зонах істотнага па колькасьці ці традыцыйнага пражываньня асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, калі гэтыя асобы таго патрабуюць і калі гэта адпавядае сапраўднай патрэбе, Бакі будуць намагацца забясьпечыць, наколькі гэта магчыма, умовы, якія дазволілі б выкарыстаньне мовы меншасьці ў зносінах паміж асобамі, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, і адміністрацыйнымі ўладамі.

3. Бакі забавязваюцца гарантаваць права кожнае асобы, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, быць інфармаванай у кароткія тэрміны і на мове, якую яна разумее, наконт падставаў яе арышту, прыроды й прычыны абвінавачваньня супраць яе, а таксама й абараняцца на гэтай мове і, калі неабходна, зь бясплатнаю дапамогаю перакладчыка.

**Артыкул 11**

1. Бакі забавязваюцца прызнаць за кожнай асобай, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, права выкарыстоўваць сваё прозьвішча (імя па бацьку) і імя на мове сваёй меншасьці, а таксама й права на іхнае афіцыйнае прызнаньне згодна з формамі, прадугледжанымі юрыдычнай сыстэмай бакоў.

2. Бакі забавязваюцца прызнаць за кожнай асобай, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, права пісаць на мове сваёй меншасьці шыльды, надпісы й іншую інфармацыю прыватнага характару, якая выстаўляецца на ўсеагульны паказ.

3. У рэгіёнах, традыцыйна населеных істотнай колькасьцю асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, Бакі

будуць намагацца ў межах іхнае заканадаўчае сыстэмы, улучаючы, пры неабходнасьці, пагадненьні зь іншымі дзяржавамі, улічваючы свае спэцыфічныя ўмовы, пісаць таксама й на мове меншасьці традыцыйныя мясцовыя найменьні, назвы вуліцаў і іншыя тапаграфічныя пазначэньні, прызначаныя для агульнага ведама, калі існуе дастатковы ровень патрэбы ў такіх пазначэньнях.

**Артыкул 12**

1. Бакі, калі гэта неабходна, будуць ужываць захады ў сфэры адукацыі й навуковага вывучэньня, накіраваныя на пашырэньне ведаў культуры, гісторыі, мовы й рэлігіі як нацыянальнае большасьці, так і нацыянальнае меншасьці.

2. У гэтым кантэксьце Бакі будуць апрыч усяго іншага ствараць належныя магчымасьці для падрыхтоўкі настаўнікаў і доступу да школьных падручнікаў, а таксама й спрыяць кантактам паміж навучэнцамі й настаўнікамі розных супольнасьцяў.

3. Бакі забавязваюцца забясьпечваць роўныя магчымасьці ў атрыманьні адукацыі на ўсіх роўнях для асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў.

**Артыкул 13**

1. У межах сваёй адукацыйнай сыстэмы Бакі прызнаюць за асобамі, якія належаць да нацыянальнае меншасьці, права на стварэньне й кіраваньне сваімі ўласнымі прыватнымі ўстановамі адукацыі й падрыхтоўкі кадраў.

2. Ажыцьцяўленьне гэтага права не вымагае аніякага фінансавага абавязку для Бакоў.

**Артыкул 14**

1. Бакі забавязваюцца прызнаваць за кожнай асобай, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, права вывучаць мову сваёй меншасьці.

2. У зонах істотнага па колькасьці і традыцыйнага пражываньня асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, пры існаваньні дастатковага попыту, Бакі будуць намагацца забясьпечыць, наколькі гэта магчыма і ў межах іхнае адукацыйнае сыстэмы, каб асобы, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, мелі адпаведныя магчымасьці вывучаць мову сваёй меншасьці ці атрымліваць адукацыю на ёй.

3. Параграф 2 дадзенага артыкулу будзе выконвацца бяз шкоды вывучэньню афіцыйнае мовы ці адукацыі на гэтай мове.

**Артыкул 15**

Бакі забавязваюцца стварыць умовы, неабходныя для эфэктыўнага ўдзелу асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, у культурным, сацыяльным, і эканамічным жыцьці, а таксама і ў справах дзяржаўнага кіраваньня, у прыватнасьці, у тых, якія тычацца гэтых асобаў.

**Артыкул 16**

Бакі будуць устрымлівацца ўжываць захады, якія, зьмяняючы прапорцыі насельніцтва ў геаграфічнай зоне, дзе стала жывуць асобы, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, будуць закранаць правы і свабоды, што вынікаюць з прынцыпаў, сфармуляваных у дадзенай рамкавай Канвэнцыі.

**Артыкул 17**

1. Бакі забавязваюцца не чыніць перашкодаў ажыцьцяўленьню права асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, свабодна ды мірна ўсталёўваць і падтрымліваць кантакты празь дзяржаўныя межы з асобамі, якія стала жывуць у іншых дзяржавах, у прыватнасьці, з тымі асобамі, зь якімі яны маюць супольную этнічную, культурную лінгвістычную ці рэлігійную саматоеснасьць або супольную культурную спадчыну.

2. Бакі забавязваюцца не чыніць перашкодаў ажыцьцяўленьню права асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, удзельнічаць у дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў як на нацыянальным, так і на міжнародным роўні.

**Артыкул 18**

1. Бакі будуць намагацца заключыць, калі гэта неабходна, двухбаковыя і шматбаковыя пагадненьні зь іншымі дзяржавамі, у прыватнасьці, з суседнімі дзяржавамі, з мэтаю забесьпячэньня абароны асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў.

2. Пры неабходнасьці Бакі будуць рабіць належныя захады дзеля заахвочваньня трансмежавага супрацоўніцтва.

**Артыкул 19**

Бакі забавязваюцца падаваць і ажыцьцяўляць на практыцы прынцыпы, зьмешчаныя ў дадзенай рамкавай Канвэнцыі, робячы пры яе выкананьні, калі гэта неабходна, толькі тыя абмежаваньні, засьцярогі й выняткі, якія прадугледжваюцца міжнароднымі праўнымі актамі, у прыватнасьці, Канвэнцыяй у абарону правоў чалавека й асноўных свабодаў і ейнымі пратаколамі ў тае ступені, наколькі яны адпавядаюць правам і свабодам, што вынікаюць з пазначаных прынцыпаў.

## *Частка III*

**Артыкул 20**

У ажыцьцяўленьні правоў і свабодаў, што вынікаюць з прынцыпаў, сфармуляваных у дадзенай рамкавай Канвэнцыі, асобы, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, будуць паважаць нацыянальнае заканадаўства й правы іншых асобаў, а менавіта правы тых, хто належыць да нацыянальнае большасьці ці іншых нацыянальных меншасьцяў.

**Артыкул 21**

Ніводнае з палажэньняў дадзенае рамкавае Канвэнцыі ня будзе вытлумачвацца як тое, што надае індывіду нейкае права брацца за дзейнасьць ці зьдзяйсьняць акты, якія супярэчаць фундамэнтальным прынцыпам міжнароднага права, а менавіта сувэрэннай роўнасьці, тэрытарыяльнай цэласьці й палітычнай незалежнасьці дзяржаваў.

**Артыкул 22**

Ніводнае з палажэньняў дадзенае рамкавае Канвэнцыі ня будзе вытлумачвацца як тое, што абмяжоўвае ці пасягае на правы чалавека й асноўныя свабоды, якія могуць быць прызнанымі адпаведна з законамі кожнага Боку ці ўсялякай іншай канвэнцыі, складнікам якой ёсьць дадзены Бок.

**Артыкул 23**

Правы й свабоды, што вынікаюць з прынцыпаў, сфармуляваных у дадзенай рамкавай Канвэнцыі, з тае нагоды, што яны ёсьць далейшым разьвіцьцём палажэньняў Канвэнцыі ў абарону правоў чалавека й асноўных свабодаў і пратаколаў да яе, будуць разглядацца як адпаведныя гэтым палажэньням.

## *Частка IV*

**Артыкул 24**

1. Камітэту міністраў Рады Эўропы даручаецца сачыць ажыцьцяўленьне на практыцы дадзенае рамкавае Канвэнцыі Дамоўнымі бакамі.

2. Формы ўдзелу Бакоў, якія ня ёсьць складнікамі Рады Эўропы, у мэханізьме ажыцьцяўленьня на практыцы дадзенае рамкавае Канвэнцыі будуць вызначаны ў далейшым.

**Артыкул 25**

1. На працягу пэрыяду ў адзін год пасьля ўваходжаньня ў моц дадзенае рамкавае Канвэнцыі для кожнага Дамоўнага боку, апошні павінен перадаць Генэральнаму сакратару Рады Эўропы поўную інфармацыю наконт заканадаўчых і іншых захадаў, прынятых гэтым Бокам дзеля ажыцьцяўленьня на практыцы прынцыпаў, сфармуляваных у дадзенай рамкавай Канвэнцыі.

2. У далейшым кожны Бок будзе перадаваць Генэральнаму сакратару пэрыядычна й кожны раз, калі гэтага запатрабуе Камітэт міністраў, усялякую іншую інфармацыю наконт ажыцьцяўленьня на практыцы дадзенае рамкавае Канвэнцыі.

3. Генэральны сакратар будзе накіроўваць у Камітэт міністраў усю інфармацыю, перададзеную ў адпаведнасьці з палажэньнямі дадзенага артыкулу.

**Артыкул 26**

1. Пры ацэнцы адэкватнасьці захадаў, прынятых кожным Бокам дзеля ажыцьцяўленьня на практыцы прынцыпаў, сфармуляваных у дадзенай рамкавай Канвэнцыі, Камітэт міністраў будзе абапірацца на дапамогу кансультацыйнага камітэту, складнікі якога павінны мець прызнаную кампэтэнтнасьць у галіне абароны нацыянальных меншасьцяў.

2. Склад пазначанага кансультацыйнага камітэту, а таксама й яго працэдуры будуць вызначаны Камітэтам міністраў на працягу аднаго году пасьля ўваходжаньня ў моц дадзенае рамкавае Канвэнцыі.

## *Частка V*

**Артыкул 27**

Дадзеная рамкавая Канвэнцыя будзе адкрытай для падпісаньня дзяржавамі-складнікамі Рады Эўропы. Да тае самае даты свайго ўваходжаньня ў моц дадзеная рамкавая Канвэнцыя будзе таксама адкрытай для падпісаньня любой іншай дзяржаваю, запрошанай гэта рабіць Камітэтам міністраў. Яна можа быць ратыфікаванай, прынятай ці ўхваленай. Акты ратыфікацыі, прыняцьця ці ўхваленьня будуць здавацца на захаваньне Генэральнаму сакратару Рады Эўропы.

**Артыкул 28**

1. Дадзеная рамкавая Канвэнцыя ўвойдзе ў моц у першы дзень месяца, наступнага пасьля заканчэньня трохмесяцавага пэрыяду з даты, калі дванац-

цаць дзяржаваў-складнікаў Рады Эўропы выкажуць сваю згоду быць зьвязанымі дадзенай рамкавай Канвэнцыяй у адпаведнасьці з палажэньнямі артыкулу 27.

2. Для кожнае дзяржавы-складніка, якая ў далейшым выкажа сваю згоду быць зьвязанай дадзенай рамкавай Канвэнцыяй, апошняя ўвойдзе ў моц у першы дзень месяца, наступнага пасьля заканчэньня трохмесяцавага пэрыяду з даты перадачы акту ратыфікацыі, прыняцьця ці ўхваленьня.

**Артыкул 29**

1. Пасьля ўваходжаньня ў моц дадзенае рамкавае Канвэнцыі й пасьля кансультацыі Дамоўных бакоў Камітэт міністраў Рады Эўропы можа запрашаць далучыцца да дадзенае рамкавае Канвэнцыі на падставе пастановы большасьцю галасоў, прадугледжанай артыкулам 20.d. Статуту Рады Эўропы, усялякую дзяржаву-няскладніка Рады Эўропы, якая запрошаная падпісаць дадзеную рамкавую Канвэнцыю ў адпаведнасьці з палажэньнямі артыкулу 27, але гэтага яшчэ не зрабіла, ці любую іншую дзяржаву-няскладніка.

2. Для кожнае дзяржавы, якая далучаецца, дадзеная рамкавая Канвэнцыя ўвойдзе ў моц у першы дзень месяца, наступнага пасьля заканчэньня трохмесяцавага пэрыяду з даты перадачы Генэральнаму сакратару Рады Эўропы акту далучэньня.

**Артыкул 30**

1. Кожная дзяржава можа ў момант падпісаньня або ў момант перадачы акту сваёй ратыфікацыі, прыняцьця, ухваленьня ці далучэньня вызначыць адну ці некалькі тэрыторыяў, за міжнародныя стасункі якіх яна адказвае і да якіх будзе ўжывацца дадзеная рамкавая Канвэнцыя.

2. Кожная дзяржава можа ў любы момант у далейшым у дэкларацыі, адрасаванай Генэральнаму сакратару Рады Эўропы, пашырыць ужываненьне дадзенае рамкавае Канвэнцыі на любую іншую тэрыторыю, вызначаную ў Дэкларацыі. Дадзеная рамкавая Канвэнцыя ўвойдзе ў моц дачынна гэтае тэрыторыі ў першы пэрыяд з даты атрыманьня Генэральным сакратаром такой дэкларацыі.

3. Усялякая дэкларацыя, зробленая згодна з двума папярэднімі параграфамі, можа, што да любой тэрыторыі, вызначанай у гэтай дэкларацыі, быць адкліканай шляхам ноты да Генэральнага сакратара. Адкліканьне стане дзейным у першы дзень месяца, наступнага пасьля заканчэньня трохмесяцавага пэрыяду з даты атрыманьня Генэральным сакратаром гэтае дэкларацыі.

**Артыкул 31**

1. Кожны Бок можа ў любы момант дэнансаваць дадзеную рамкавую Канвэнцыю нотай да Генэральнага сакратара Рады Эўропы.

2. Дэнансацыя стане дзейснай у першы дзень месяца, наступнага пасьля заканчэньня шасьцімесяцавага пэрыяду з даты атрыманьня ноты Генэральным сакратаром.

**Артыкул 32**

Генэральны сакратар Рады Эўропы будзе даводзіць да ведама дзяржаваў-складнікаў Рады, усіх іншых дзяржаваў-сыгнітарыяў і кожнае дзяржавы, якая далучылася да дадзенае рамкавае Канвэнцыі, пра:

а) кожнае падпісаньне;

б) перадачу кожнага акту ратыфікацыі, прыняцьця, ухваленьня ці далучэньня;

в) кожную дату ўваходжаньня ў моц дадзенае рамкавае Канвэнцыі ў адпаведнасьці з артыкуламі 28, 29 і 30;

г) кожны іншы акт, ноту ці паведамленьне, якія маюць дачыненьне да дадзенае рамкавае Канвэнцыі ў сьведчаньне чаго ніжэйпадпісаныя й належным чынам упаўнаважаныя на гэта падпісалі дадзеную рамкавую Канвэнцыю.

Учынена ў Страсбурзе, 1-га лютага 1995 г. на ангельскай і французскай мовах, прычым абодва тэксты маюць аднолькавую моц, у адным асобніку, што будзе захоўвацца ў архіве Рады Эўропы. Генэральны сакратар Эўропы дашле дакладную засьведчаную копію кожнай дзяржаве-складніку Рады Эўропы, а таксама й кожнай дзяржаве, запрошанай падпісаць ці далучыцца да дадзенае рамкавае Канвэнцыі.

# *Вытлумачальная запіска*

## ВЫТОКІ

1. На працягу больш чым 40-гадовага пэрыяду Рада Эўропы неаднаразова й з розных бакоў разглядала становішча нацыянальных меншасьцяў. У самы першы год свайго існаваньня (1949) Парлямэнцкая асамблея ў дакладзе камісіі па юрыдычных ці адміністрацыйных пытаньнях прызнала важнасьць „праблемы больш шырокай абароны правоў нацыянальных меншасьцяў“. У 1961 г. Асамблея парэкамэндавала ўключыць у другі дадатковы пратакол артыкул, у якім нацыянальным меншасьцям гарантаваліся б асобныя правы, не ўзгаданыя ў эўрапейскай Канвэнцыі аб правах чалавека (ЭКПЧ/ECHR). Апошняя ўзгадвае толькі прыналежнасьць да нацыянальнае меншасьці ў зьвязку з палажэньнямі пра недыскрымінацыю, прадугледжанымі артыкулам 14. Праект артыкулу дачынна абароны нацыянальных меншасьцяў, прапанаваны ў Рэкамэндацыі 285 (1961), выглядаў наступным чынам:

„Асобы, якія належаць да нацыянальнае меншасьці, ня могуць быць пазбаўлены права, супольна з усімі іншымі складнікамі іхнае групы і без парушэньня грамадзкага парадку, весьці ўласнае культурнае жыцьцё, выкарыстоўваць родную мову, адчыняць свае школы й атрымліваць адукацыю па абранай імі мове ці вызнаваць і практыкаваць сваю ўласную рэлігію“.

2. Камітэт экспэртаў, якому было даручана вывучыць магчымасьць і пажаданасьць распрацоўкі такога пратаколу, прыпыніў сваю дзейнасьць у чаканьні прыняцьця канчатковага рашэньня ў справе моўнай палітыкі ў Бэльгіі і наконт мовы навучаньня (эўрапейскі Суд па правох чалавека. Рассудак ад 27 ліпеня 1968г. Сэрыя А, №6). У 1973 г. ён прыйшоў да высновы, што з чыста юрыдычнага гледзішча не было асаблівае патрэбы ў тым, каб абарона правоў меншасьцяў стала прадметам дадатковага пратаколу да ЭКПЧ. Экспэрты, аднак, лічылі, што не было вялікіх юрыдычных перашкодаў у прыняцьці падобнага пратаколу, калі б яго палічылі пажаданым зь іншых прычынаў.

3. У больш нядаўнім часе Парлямэнцкая асамблея парэкамэндавала Камітэту міністраў зрабіць шэраг палітычных і юрыдычных захадаў, у прыватнасьці, распрацаваць пратакол ці канвэнцыю па правох нацыянальных меншасьцяў. У кастрычніку 1991 г. Галоўнаму камітэту па правох чалавека (ГКПЧ/CDDH) была даручана задача разгледзець як з палітычнага, так і юрыдычнага гледзішча варункі, у якіх Рада Эўропы магла б распачаць дзейнасьць у абарону нацыянальных меншасьцяў, улічваючы пры гэтым працу, зробленую Нарадай па бясьпецы й супрацоўніцтве ў Эўропе (НБСЭ) і Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў, а таксама й напрацоўкі Рады Эўропы.

4. У траўні 1992 г. Камітэт міністраў даручыў ГКПЧ вывучыць магчымасьць фармуляваньня праўных нормаў што да абароны нацыянальных меншасьцяў. З гэтай мэтай ГКПЧ быў створаны камітэт экспэртаў (DH—MIN), якія паводле новага мандату, атрыманага ў сакавіку 1993 г., павінны былі прапанаваць спэцыфічныя юрыдычныя нормы ў разгляданай сфэры, беручы пад увагу прынцып узаемадапаўняльнасьці працы Рады Эўропы й НБСЭ. Падчас сваёй працы ГКПЧ і DH-MIN улічвалі разнастайныя тэксты, у прыватнасьці, праект эўрапейскай Канвэнцыі ў абарону нацыянальных меншасьцяў, распрацаванай Эўрапейскай камісіяй за дэмакратыю праз законнасьць (так званай „Вэнэцыянскай камісіі“), аўстрыйскую прапанову дадатковага пратаколу да ЭКПЧ, праект дадатковага пратаколу да ЭКПЧ, а таксама й іншыя прапановы. Гэтае вывучэньне дало месца дакладу ГКПЧ Камітэту міністараў ад 8 верасьня 1993 г., дакладу, што зьмяшчаў разнастайныя юрыдычныя нормы, якія можна было б прыняць у гэтай галіне, а таксама й юрыдычныя акты, праз якія можна было б канкрэтызаваць гэтыя нормы. У гэтай сувязі ГКПЧ зазначыў, што не было кансэнсусу наконт вытлумачэньня тэрміну „нацыянальныя меншасьці“.

5. Вырашальны крок быў зроблены 8-9кастрычніка 1995 г. у Вене, дзе адбылася сустрэча на найвышэйшым роўні кіраўнікоў дзяржаваў і ўрадаў дзяржаваў-складнікаў Рады Эўропы. Тут было

вырашана, што нацыянальныя меншасьці, якія ўзьніклі як вынік гістарычных сутарэньняў у Эўропе, павінны быць абароненымі й паважацца ў справе спрыяньня стабільнасьці й міру. У прыватнасьці, кіраўнікі дзяржаваў і ўрадаў вырашылі ўзяць юрыдычныя забавязаньні што да абароны нацыянальных меншасьцяў. Дадатак II да Венскай дэкларацыі даручаў Камітэту міністраў:

— у мінімальны тэрмін падрыхтаваць праект рамкавае Канвэнцыі, удакладняючы прынцыпы, якія Дамоўныя дзяржавы забавязваюцца паважаць дзеля забесьпячэньня абароны нацыянальных меншасьцяў. Гэты акт павінен таксама быць адкрыты для падпісаньня дзяржавамі-нясскладнікамі;

— распачаць працу па падрыхтоўцы праекту пратаколу, што дапаўняў бы эўрапейскую Канвэнцыю правоў чалавека ў сфэры культуры палажэньнямі, што гарантавалі б індывідуальныя правы, у прыватнасьці, асобам, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў.

6. 4-га лістапада 1993 г. Камітэт Міністраў стварыў камітэт *ad hoc* у абарону нацыянальных меншасьцяў (CAHMIN). Яго мандат абапіраўся на рашэньні, прынятыя ў Вене. Напрыканцы студзеня 1994 г. гэты камітэт, складзены з экспэртаў дзяржаваў-складнікаў Рады Эўропы, распачаў сваю працу, у якой брали ўдзел прадстаўнікі ГКПЧ. Рады культурнага супрацоўніцтва (CDCC), Галоўнага камітэту па сродках масавае інфармацыі (CDMM) і Эўрапейскае камісіі за дэмакратыю праз законнасьць. Найвышэйшы камісар па нацыянальных меншасьцях НБСЭ і Камісія эўрапейскіх супольнасьцяў таксама ўдзельнічалі ў працы ў якасьці назіральнікаў.

7. 15 красавіка 1994 г. CAHMIN накіраваў у Камітэт міністраў прамежкавы даклад, які потым быў накіраваны на разгляд у Парлямэнцкую асамблею (Дак.7109). У траўні 1994 г. падчас сваёй 94-й сэсіі Камітэт міністраў выказаў сваё задавальненьне працэсам, зьдзейсьненым у выкананьні мандату, вызначанага Венскай дэкляарацыяй.

8. Шэраг палажэньняў рамкавае Канвэнцыі, якія вымагалі палітычнага вырашэньня, а таксама й палажэньні дачынна кантролю за ўжываньнем на практыцы дадзенае рамкавае Канвэнцыі, былі распрацаваныя Камітэтам міністраў (517 bis паседжаньне прадстаўнікоў міністраў; 7 кастрычніка 1994 г.).

9. Падчас свайго паседжаньня 10-14 кастрычніка 1994 г. CAHMIN вырашыў накіраваць праект рамкавае Канвэнцыі ў Камітэт міністраў, які прыняў тэкст на сваёй 95-ай сэсіі, што адбылася 10 лістапада 1994 г. 1 лютага 1995 г. дадзеная рамкавая Канвэнцыя была адкрытая для падпісаньня дзяржавамі-складнікамі Рады Эўропы.

## *АГУЛЬНЫЯ ЗАЎВАГІ*

**Мэты рамкавае Канвэнцыі**

10. Дадзеная рамкавая Канвэнцыя — гэта першы юрыдычна забавязальны шматбаковы крок, прысьвечаны абароне нацыянальных меншасьцяў увогуле. Яна мае на мэце ўдакладніць юрыдычныя прынцыпы, якія дзяржавы забавязваюцца паважаць дзеля забесьпячэньня абароны нацыянальных меншасьцяў. Праз гэта Рада Эўропы дала разьвіцьцё пажаданьням, выказаным у Венскай дэкляарацыі (дадатак II), дзеля таго, каб ператварыць палітычныя забавязаньні, прынятыя Нарадай па бясьпецы й супрацоўніцтве ў Эўропе (НБСЭ), у як мага больш абдымныя юрыдычныя абавязкі.

**Падыходы й асноўныя паняцьці**

11. З прычыны існаваньня разнастайных сытуацыяў і шматлікасьці праблемаў, якія трэба разьвязаць, было вырашана прыняць такую рамкавую Канвэнцыю, якая ў асноўным зьмяшчала б праграмныя палажэньні, што вызначалі б пэўныя мэты, якія Бакі забавязваюцца перасьледаваць. Гэтыя палажэньні, якія ня могуць быць наўпростава выкарыстаныя, пакідаюць закранутым дзяржавам магчымасьць выбару сродкаў ажыцьцяўленьня на практыцы мэтаў, якія яны забавязаліся дасягнуць, дазваляючы кожнай зь дзяржаваў улічваць свае своеасаблівыя варункі.

12. Таксама трэба зазначыць, што дадзеная рамкавая Канвэнцыя не зьмяшчае аніякай дэфініцыі „нацыянальнае меншасьці“. Тут было вырашана ўзяць прагматычны падыход, заснаваны на канстатаваньні, што на сёньняшні час немагчыма прыйсьці да такой дэфініцыі, здольнай атрымаць супольную падтрымку ўсіх дзяржаваў-складнікаў Рады Эўропы.

13. Ажыцьцяўленьне на практыцы прынцыпаў, сфармуляваных у дадзенай рамкавай Канвэнцыі, будзе зьдзяйсьняцца

праз нацыянальныя заканадаўствы й адпаведную дзяржаўную палітыку. Гэта не прадугледжвае прызнаньня калектыўных правоў. Дадзеная рамкавая Канвэнцыя накіраваная на забесьпячэньне абароны асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў і якія могуць ажыцьцяўляць свае правы індывідуальна ці супольна зь іншымі (гл. артыкул 3, параграф 2). З гэтага гледзішча яна прытрымліваецца такога падыходу да тэкстаў, які прыняты іншымі міжнароднымі арганізацыямі.

**Структура рамкавае Канвэнцыі**

14. Апроч прэамбулы рамкавая Канвэнцыя складаецца зь пяцёх частак.

15. Палажэньні часткі I зьмяшчаюць агульныя фармулёўкі асобных фундамэнтальных прынцыпаў, якія могуць служыць для ўдакладненьня ўсіх іншых асноватворных палажэньняў рамкавае Канвэнцыі.

16. Частка II зьмяшчае шэраг спэцыфічных прынцыпаў.

17. Частка III зьмяшчае разнастайныя палажэньні што да іншых інтэрпрэтацыяў і ўжываньня рамкавай Канвэнцыі.

18. Частка IV зьмяшчае заключныя палажэньні, якія абапіраюцца на ўзор заключных палажэньняў для канвэнцыяў і пагадненьняў, заключаных у межах Рады Эўропы.

## *КАМЭНТАР ПАЛАЖЭНЬНЯЎ РАМКАВАЕ КАНВЭНЦЫІ*

### *Прэамбула*

20. У прэамбуле вытлумачваюцца нагоды, зь якіх была распрацаваная дадзеная рамкавая Канвэнцыя, і выкладаюцца асобныя асноўныя задачы ейных аўтараў. Першыя словы ўжо зазначаюць, што дадзеная рамкавая Канвэнцыя можа быць падпісанай і ратыфікаванай краінамі-нясскладнікамі Рады Эўропы (гл. артыкул 27 і 29).

21. Прэамбула спасылаецца на мэту статуту Рады Эўропы, а таксама й на адзін з сродкаў яе дасягненьня: ахова й далейшае пашырэньне правоў чалавека й асноўных свабодаў.

22. Таксама робіцца спасылка на Венскую дэкларацыю кіраўнікоў дзяржаваў і ўрадаў дзяржаваў-складнікаў Рады Эўропы, на дакумэнт, які заклаў асновы дадзенае рамкавае Канвэнцыі (гл. таксама параграф 5 вышэй). Фактычна тэкст прэамбулы ў значнай ступені натхняецца Дэкларацыяй і, у прыватнасьці Дадаткам II да яе. Тое ж самае можна сказаць пра выбар забавязаньняў, прадугледжаных часткамі I і II рамкавае Канвэнцыі.

23. У прэамбуле невычарпальным чынам прызнаюцца тры іншыя крыніцы, на якія абапіраецца зьмест рамкавае Канвэнцыі: Канвэнцыя ў абарону правоў чалавека й асноўных свабодаў (ЭКПЧ), а таксама й дакумэнты ААН і НБСЭ, якія зьмяшчаюць забавязаньні дачынна абароны нацыянальных меншасьцяў.

24. Прэамбула адлюстроўвае заклапочанасьць Рады Эўропы й яе дзяржаваўскладнікаў што да пагрозы існаваньню нацыянальных меншасьцяў і абапіраецца на артыкул 1 параграф 1 Дэкларацыі аб правох асобаў, якія належаць да нацыянальных ці этнічных, рэлігійных і лінгвістычных меншасьцяў, прынятай ААН (Рэзалюцыя 47/135, прынятая Генэральнай асамблеяй 18 сьнежня 1992 году).

25. Улічваючы, што дадзеная рамкавая Канвэнцыя ёсьць таксама адкрытай для дзяржаваў-няскладнікаў Рады Эўропы, а таксама з мэтай забесьпячэньня больш усеабдымнага падыходу, было вырашана ўключыць пэўныя прынцыпы, зь якіх вынікаюць правы й свабоды, што былі ўжо гарантаванымі ў ЭКПЧ або ў дадатковых пратаколах да яе (гл. таксама ў гэтай сувязі артыкул 23 дадзенае рамкавае Канвэнцыі).

26. Спасылка на канвэнцыі й дэкларацыі ААН нагадвае пра працу, зробленую на сусьветным роўні, напрыклад, у Міжнародным пакце грамадзянскіх і палітычных правоў (артыкул 27) і ў Дэкларацыі аб правох асобаў, якія належаць да нацыянальных ці этнічных, рэлігійных і лінгвістычных меншасьцяў. Гэтая спасылка, аднак, не пашыраецца на дэфініцыю нацыянальнае меншасьці, якая можа быць зьмешчанай у гэтых тэкстах.

27. Спасылка на забавязаньні, узятыя ў гэтай сфэры ў межах НБСЭ, адлюстроўвае жаданьне, выказанае ў дадатку Венскае дэкларацыі, каб Рада Эўропы прыклала намаганьні ў ператварэньні гэтых палітычных забавязаньняў у як мага больш абдымныя юрыдычныя абавязкі. У прыватнасьці, Капэнгагенскі дакумэнт вызначыў кірункі, карысныя пры распрацоўцы рамкавае Канвэнцыі.

28. Перадапошні параграф прэамбулы ўдакладняе асноўную мэту рамкавае

Канвэнцыі: забесьпячыць эфэктыўную абарону нацыянальных меншасьцяў і асобаў, якія да іх належаць. У ім таксама падкрэсьліваецца, што такая абарона павінна забясьпечвацца ў адпаведнасьці з прынцыпам законнасьці й пры павазе тэрытарыяльнай цэласьці да нацыянальнага сувэрэнітэту.

29. Мэта апошняга параграфу — паказаць, што палажэньні, зьмешчаныя ў дадзенай рамкавай Канвэнцыі, ня ёсьць наўпростава ўжывальнымі. Яна не закранае права й практыкі Бакоў у галіне ўключэньня міжнародных дамоваў у нутраную праўную сыстэму.

## ЧАСТКА I

### Артыкул 1

30. Асноўная мэта артыкулу — удакладніць, што абарона нацыянальных меншасьцяў ёсьць неад'емнай часткай абароны правоў чалавека і ня тычыцца нутраной справы дзяржаваў. Сьцьверджаньне, што гэтая абарона — „неад'емная частка міжнароднай абароны правоў чалавека“, ніякім чынам не надае органам, створаным ЭКПЧ, права вытлумачэньня дадзенае рамкавае Канвэнцыі.

31. Артыкул спасылаецца на абарону нацыянальных меншасьцяў як такіх і на абарону правоў і свабодаў асобаў, якія належаць да гэтых меншасьцяў. Такое адрозьненьне й неаднолькавасьць словаў выразна сьведчаць, што тут не разглядаецца магчымасьць прызнаньня за нацыянальнымі меншасьцямі калектыўных правоў (гл. таксама камэнтар да артыкулу 3). Бакі аднак прызнаюць, што абарона пэўнай нацыянальнай меншасьці можа быць забясьпечанай праз абарону правоў асобаў, якія належаць да гэтай меншасьці.

### Артыкул 2

32. У гэтым артыкуле фармулююцца прынцыпы, на аснове якіх будзе ўжывацца дадзеная рамкавая Канвэнцыя. Гэты артыкул апроч усяго іншага абапіраецца на Дэклярацыю ААН аб прынцыпах міжнароднага права што да сяброўскіх стасункаў і супрацоўніцтва паміж дзяржавамі згодна з Статутам ААН (Рэзалюцыя 2625 (XXV) Генэральнай асамблеі ад 24 кастрычніка 1970 году). Прынцыпы, зьмешчаныя ў гэтым палажэньні, маюць агульны характар, але яны ўсё ж маюць асаблівае значэньне для сфэры, якую ахоплівае дадзеная рамкавая Канвэнцыя.

### Артыкул 3

33. Гэты артыкул зьмяшчае два адрозныя, але зьвязаныя між сабою прынцыпы, якія выкладзеныя ў двух розных параграфах.

***Параграф 1***

34. Параграф 1 перадусім гарантуе кожнай асобе, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, права свабоды выбару быць разгляданай ці не ў якасьці такой. Гэтае палажэньне пакідае кожнай з гэтых асобаў вырашыць, жадае яна ці не скарыстоўваць з абароны, якая вынікае з прынцыпаў дадзенае рамкавае Канвэнцыі.

35. Гэты параграф не азначае, што індывід мае права адвольна выбіраць прыналежнасьць да нейкае нацыянальнае меншасьці. Суб'ектыўны выбар індывіда цалкам абумоўлены аб'ектыўнымі крытэрамі, істотнымі для саматоеснасьці асобы.

36. Звыш таго, параграф 1 прадугледжвае, што аніякае абмежаваньне не павінна быць вынікам ні свабоднага выбару, гарантаванага гэтым палажэньнем, ні ажыцьцяўленьня правоў, якія зь ім зьвязаныя. Гэтае палажэньне мае на мэце забясьпечыць, каб ажыцьцяўленьне такога свабоднага выбару ня стала прадметам ускосных пасяганьняў.

***Параграф 2***

37. У параграфе 2 прадугледжваецца, што правы й свабоды, што вынікаюць з прынцыпаў, сфармуляваных у дадзенай рамкавай Канвэнцыі, можна ажыцьцяўляць індывідуальна й супольна зь іншымі. Гэтым прызначаецца магчымасьць супольнага ажыцьцяўленьня гэтых правоў і свабодаў, але гэта адрозьніваецца ад паняцьця калектыўных правоў. Слова „іншых“ варта разумець у самым шырокім сэнсе, і яно павінна ахопліваць асобаў, якія належаць да тае ж нацыянальнае меншасьці, да іншае нацыянальнае меншасьці ці да большасьці.

## ЧАСТКА II

### Артыкул 4

Мэта гэтага артыкулу — забясьпечыць, каб да асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, тарнаваліся прынцыпы роўнасьці й недыскрымінацыі. Палажэньні гэтага артыкулу мусяць інтэрпрэтавацца ў кантэксьце дадзенае рамкавае Канвэнцыі.

***Параграфы 1 і 2***

39. У параграфе 1 выказваецца клясычны падыход да гэтых двух прынцыпаў.

У параграфе 2 падкрэсьліваецца, што забесьпячэньне поўнае й эфэктыўнае роўнасьці паміж асобамі, якія належаць да нацыянальнае меншасьці, і асобамі, якія належаць да нацыянальнае большасьці, можа вымусіць Бакі ўжыць адмысловыя захады, якія ўлічвалі б спэцыфічныя ўмовы закранутых асобаў. Гэтыя захады павінны быць адэкватнымі, гэта значыць, адпаведнымі прынцыпу прапарцыянальнасьці, дзеля таго, каб пазьбегчы як парушэньня правоў іншых, так і дыскрымінацыі супраць іншых. Апроч усяго іншага гэты прынцып патрабуе, каб такія захады не пераўзыходзілі ні ў часе, ні ў памерах тых межаў, якія неабходныя для дасягненьня мэты поўнай і эфэктыўнай роўнасьці.

40. Рамкавая Канвэнцыя не зьмяшчае асобнага палажэньня, прысьвечанага толькі прынцыпу роўных магчымасьцяў. Уключэньне такога палажэньня было палічана непатрэбным, бо гэты прынцып ужо вынікае з параграфу 2 гэтага артыкулу. Тое ж самае было палічана й наконт прынцыпу свабоды перасоўваньня, улічваючы, што прынцып недыскрымінацыі быў сфармуляваны ў параграфе 1.

***Параграф 3***

41. Параграф 3 мае на мэце ўдакладніць, што захады, узгаданыя ў параграфе 2, не павінны разглядацца як супярэчныя прынцыпам роўнасьці й недыскрымінацыі. Гэтае палажэньне накіраванае на тое, каб забясьпечыць асобам, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, эфэктыўную роўнасьць поруч з асобамі, якія належаць да большасьці.

**Артыкул 5**

42. Гэты артыкул галоўным чынам мае на мэце забясьпечыць, каб асобы, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, маглі захоўваць і разьвіваць сваю культуру, рыхтык як захоўваць сваю саматоеснасьць.

***Параграф 1***

43. Параграф 1 зьмяшчае абавязак забясьпечваць умовы, неабходныя для дасягненьня гэтае мэты. У ім пералічваюцца чатыры асноўныя элемэнты саматоеснасьці нацыянальнае меншасьці. Гэтае палажэньне не азначае, што простае існаваньне этнічных, культурных, лінгвістычных ці рэлігійных адрозьненьняў абавязкова ставарае нацыянальныя меншасьці (гл. у гэтай сувязі даклад аб сустрэчы экспэртаў НБСЭ, якая адбылася ў Жэнэве ў 1991 г., разьдзел II, параграф 4).

44. Спасылка на традыцыі не азначае ўхваленьня ці прызнаньня практыкі, якая супярэчыць нацыянальнаму праву ці міжнародным нормам. Традыцыйная практыка не павінна выходзіць за межы грамадзкага парадку.

***Параграф 2***

45. Параграф мае на мэце абараніць асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, ад усялякае асыміляцыі супраць іхнае волі. Ён не забараняе дабрахвотнай асыміляцыі.

46. Параграф 2 таксама не перашкаджае Баком рабіць захады ў межах іхнае агульнае палітыкі інтэграцыі. Гэтым у ім прызнаецца значэньне сацыяльнай злучнасьці й адлюстроўваецца выказанае ў прэамбуле жаданьне бачыць для кожнага грамадзтва ў культурнай разнастайнасьці крыніцу й чыньнік не падзелу, а ўзбагачэньня.

**Артыкул 6**

47. Гэты артыкул адлюстроўвае заклапочанасьць, выказаную ў Дадатку III да Венскае дэклярацыі (Дэклярацыя й плян дзеяньняў у барацьбе супраць расізму, ксэнафобіі, антысэмітызму й неталерантнасьці).

***Параграф 1***

48. У параграфе 1 акцэнтуецца ўвага на духу талерантнасьці й міжкультурнага дыялёгу й падкрэсьліваецца значэньне спрыяньня Бакоў узаемапавазе і ўзаемаразуменьню, а таксама супрацоўніцтву паміж усімі асобамі, якія жывуць на іхнай тэрыторыі. Сфэра адукацыі, культуры й сродкаў масавай інфармацыі адмыслова ўзгадваюцца тут, паколькі яны лічацца асабліва важнымі для ажыцьцяўленьня гэтых мэтаў.

49. Дзеля ўзмацненьня сацыяльнай злучнасьці гэты параграф апроч усяго іншага мае на мэце спрыяць талерантнасьці й міжкультурнаму дыялёгу праз скасаваньне бар'ераў між асобамі, якія належаць да розных этнічных, культурных, лінгвістычных і рэлігійных групаў, заахвочваючы пры гэтым стварэньне міжкультурных арганізацыяў і рухаў, якія імкнуцца спрыяць узаемапавазе і ўзаемаразуменьню й інтэграваць гэтых асобаў у грамадзтва, цалкам захоўваючы іхную саматоеснасьць.

***Параграф 2***

50. Гэтае палажэньне ў значнай ступені абапіраецца на параграф 40.2 Капэнгагенскага Дакумэнту НБСЭ. Гэты абавязак мае на мэце абараняць усіх асобаў, якія могуць быць ахвярамі пагрозаў ці актаў

дыскрымінацыі, варожасьці або гвалту, якой бы ні была крыніца гэтых пагрозаў ці актаў.

**Артыкул 7**

51. Мэта гэтага артыкулу — гарантаваць павагу права кожнае асобы, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, на асноўныя свабоды, узгаданыя ў гэтым артыкуле. Гэтыя свабоды маюць, безумоўна, унівэрсальны характар, інакш кажучы, яны тарнуюцца да ўсіх асобаў, незалежна ад таго, належаць яны ці не да нейкае нацыянальнае меншасьці (гл., напрыклад, адпаведныя палажэньні артыкулаў 9,10, і 11 ЭКПЧ), але яны асабліва важныя для абароны нацыянальных меншасьцяў. З прычынаў, узгаданых вышэй у камэнтары да прэамбулы, было вырашана ўлучыць асобныя забавязаньні, якія ўжо былі сфармуляваныя ЭКПЧ.

52. Гэтае палажэньне можа азначаць для Бакоў пэўныя пазытыўныя абавязкі абараняць узгаданыя свабоды супраць парушэньняў, якія зыходзяць не ад дзяржавы. Магчымасьць таго, што падобныя пазытыўныя абавязкі вынікаюць з ЭКПЧ, была прызнаная Эўрапейскім судам па правох чалавека.

53. Асобныя з свабодаў, вызначаных артыкулам 7, атрымалі далейшае разьвіцьцё ў артыкулах 8 і 9.

**Артыкул 8**

54. Гэты артыкул зьмяшчае больш дэталёвыя, чымся ў артыкуле 7, правілы ў абарону свабоды рэлігіі. Ён спалучае ў адным палажэньні шматлікія элемэнты з параграфаў 32.2, 32.3 і 32.6 Капэнгагенскага дакумэнту НБСЭ. Гэтая свабода, безумоўна, прызнаецца за ўсімі і, у адпаведнасьці з артыкулам 4, асобы, якія належаць да нацыянальнае меншасьці, павінны таксама яе скарыстоўваць. Улічваючы значнасьць гэтае свабоды ў сёньняшнім кантэксьце, было палічана надзвычай важным надаць ёй асаблівую ўвагу.

**Артыкул 9**

55. Гэты артыкул зьмяшчае больш дэталёвыя, чымся ў артыкуле 7, правілы ў абарону свабоды выказваньня.

***Параграф 1***

56. Першая фраза скалькаваная з другой фразы 10 параграфу 1 ЭКПЧ. Хоць гэтая фраза адмыслова робіць спасылку на свабоду атрымліваць і абменьвацца інфармацыяй і ідэямі на мове меншасьці, яна таксама азначае свабоду атрымліваць і абменьвацца інфармацыяй і ідэямі на мове большасьці ці на іншых мовах.

57. Другая фраза параграфу зьмяшчае забавязаньне сачыць тое, каб не было дыскрымінацыі ў доступе да сродкаў масавай інфармацыі. Выраз „у межах сваёй заканадаўчай сыстэмы“ быў уключаны з мэтаю павагі канстытуцыйных палажэньняў, якія могуць лімітаваць ступень, у якой нейкі Бок можа рэглямэнтаваць доступ да сродкаў масавай інфармацыі.

***Параграф 2***

58. Гэты параграф скалькаваны з трэцяй фразы артыкулу 10 параграфу 1 ЭКПЧ.

59. Рэжым ліцэнзаваньня дзейнасьці ў сфэры гукавога радыё, тэлебачаньня ці кіно павінен быць недыскрымінацыйным і засноўвацца на аб'ектыўных крытэрах. Уключэньне гэтых патрабаваньняў, якія адмыслова ня ўзгадваюцца ў трэцяй фразе артыкулу 10 параграфа 1 ЭКПЧ, было палічана неабходным для акту, закліканага абараняць асобаў, якія належаць да нацыянальнае меншасьці.

60. Словы „гукавое радыё“, якія таксама прысутнічаюць у параграфе 3 гэтага артыкулу, не фігуруюць у адпаведнай фразе артыкулу 10 параграфу 1 ЭКПЧ. Яны проста адлюстроўваюць ужываньне сучаснай тэрміналёгіі і ня маюць аніякага істотнага адрозьненьня параўнальна з артыкулам 10 ЭКПЧ.

***Параграф 3***

61. Першая фраза гэтага параграфу, які прысьвечаны стварэньню й выкарыстаньню друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, зьмяшчае ў асноўным нэгатыўнае забавязаньне, тым часам як другая фраза, выказаная больш гнуткім чынам, падкрэсьлівае пазытыўны абавязак у сфэры гукавога радыё й тэлебачаньня (напрыклад, вызначэньне частотаў). Гэтае адрозьненьне абумоўленае рэлятыўным недахопам даступных частотаў і неабходнасьцю рэглямэнтацыі ў галіне радыёперадаваньня. Права асобаў, якія належаць да нацыянальнае меншасьці, на пошук сродкаў для стварэньня сваіх сродкаў масавай інфармацыі не было адмыслова ўзгаданым, паколькі яно было палічана само па сабе відавочным.

***Параграф 4***

62. Гэты параграф падкрэсьлівае неабходнасьць адмысловых захадаў, адначасова накіраваных як на палягчэньне доступу да сродкаў масавай інфармацыі для асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, так і на забесьпячэньне талерантнасьці й культурнага плюралізму.

Выраз „адэкватныя захады“ быў ужыты з нагодаў, растлумачаных у камэнтары артыкулу 4, параграф 2 (гл.параграф 39), дзе ён таксама быў ужыты. Гэты параграф дапаўняе забавязаньні, прадугледжаныя ў апошняй фразе артыкулу 9, параграфу 1. Захады, разгляданыя ў гэтым параграфе, маглі б, напрыклад, складацца з выдзяленьня сродкаў для трансьляцыі праграмаў ці з стварэньня праграмаў, у якіх абмяркоўваліся б пытаньні меншасьцяў і/або забясьпечваўся дыялёг паміж групамі, або з заахвочваньня, пры ўмове павагі да прынцыпу выдавецкае незалежнасьці, выдаўцоў і ўладальнікаў радыёстанцыяў дазваляць доступ да сваіх сродкаў масавай інфармацыі для нацыянальных меншасьцяў.

## Артыкул 10

### *Параграф 1*

63. Прызнаньне за кожнаю асобаю, якая належыць да нацыянальнай меншасьці, права свабоднага й бесьперашкоднага выкарыстаньня мовы сваёй меншасьці мае надзвычай важнае значэньне. Насамрэч, выкарыстаньне мовы сваёй меншасьці — гэта для такіх асобаў адзін з асноўных сродкаў сьцьверджаньня й захаваньня сваёй саматоеснасьці. Яна таксама ёсьць для іх адным з сродкаў ажыцьцяўленьня права на свабоду выказваньня. „Публічна“ ў дадзеным кантэксьце азначае ў публічных мясцох, па-за межамі свайго дому, у прысутнасьці іншых асобаў, але гэта ані ў якім разе ня тычыць зносінаў з органамі дзяржаўнае ўлады, чаму прысьвечаны параграф 2 гэтага артыкулу.

### *Параграф 2*

64. Гэтае палажэньне ахоплівае ўсе формы зносінаў паміж індывідамі, якія належаць да нацыянальнае меншасьці, і органамі дзяржаўнае ўлады. Яно тычыцца толькі адміністрацыйных уладаў. Апошнія, аднак, павінны інтэрпрэтавацца ў шырокім сэнсе, уключаючы, напрыклад, „омбудсмэна“. Прызнаючы магчымыя фінансавыя, адміністрацыйныя, асабліва ў вайсковай галіне, і тэхнічныя цяжкасьці што да выкарыстаньня мовы меншасьці ў зносінах паміж асобамі, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, і адміністрацыйнымі ўладамі, гэтае палажэньне было выказанае вельмі мяккім чынам, пакідаючы баком шырокую свабоду выбару.

65. Як толькі будуць складвацца абедзьве ўмовы параграфу 2, Бакі павінны намагацца забясьпечыць, наколькі гэта магчыма, выкарыстаньне мовы меншасьці ў зносінах з адміністрацыйнымі ўладамі. Дзяржава павінна вызначыць існаваньне „рэальнай патрэбы“ на аснове аб'ектыўных крытэраў. Хоць Дамоўныя бакі павінны прыкласьці ўсе намаганьні для ажыцьцяўленьня гэтага прынцыпу, выраз „наколькі гэта магчыма“ азначае, што могуць брацца пад увагу разнастайныя чыньнікі, у прыватнасьці фінансавыя магчымасьці закранутага Боку.

66. Забавязаньне Бакоў што да выкарыстаньня мовы меншасьці аніякім чынам не закранае статусу афіцыйнае ці афіцыйных моваў закранутае краіны. Пагатоў, рамкавая Канвэнцыя наўмысна ўстрымліваецца ад вызначэньня „зонаў істотнага па колькасьці ці традыцыйнага пражываньня асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў“. Было палічана за лепшае абраць гнуткую фармулёўку, якая дазволіла б улічваць своеасаблівыя варункі кожнага Боку. Словы „традыцыйнага пражываньня“ спасылаюцца не на гістарычныя меншасьці, а толькі на тыя, якія па-ранейшаму жывуць у той жа самай геаграфічнай зоне (гл. таксама артыкул 11, параграф 3 і артыкул 14, параграф 2).

### *Параграф 3*

67. Гэты параграф грунтуецца на асобных палажэньнях артыкулаў 5 і 6 Эўрапейскае канвэнцыі аб правох чалавека. Ён не выходзіць за межы гарантыяў, прадугледжаных у гэтых артыкулах.

## Артыкул 11

### *Параграф 1*

68. Улічваючы практычныя дачыненьні дадзенага забавязаньня, гэтае палажэньне складаецца такім чынам, каб пакінуць Баком магчымасьць яго ўжываньня ў сьвятле своеасаблівасьці іхных варункаў. Напрыклад, Бакі могуць выкарыстоўваць абэцаду афіцыйнае мовы для перадачы на пісьме імя(імёнаў) асобы, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, у яго (іх) фанэтычнай форме. Асобы, якія ў мінулым былі прымушаныя адмовіцца ад іх першапачатковага імя (імёнаў), могуць настойваць на іх вяртаньні, бясспрэчна, пры ўмове, што мела месца парушэньне правоў і што гэта ня робіцца з мэтаю махлярства. Маецца на ўвазе, што ў гэтай сувязі юрыдычныя сыстэмы Бакоў будуць адпавядаць міжнародным прынцыпам дачынна абароны нацыянальных меншасьцяў.

*Параграф 2*

69. Забавязаньне гэтага параграфу тычыцца права індывіда пісаць „на мове сваёй меншасьці шыльды, надпісы й іншую інфармацыю прыватнага характару, якая выстаўляецца на ўсеагульны паказ“. Гэта, натуральна, не выключае таго, што асобы, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, павінны таксама выкарыстоўваць афіцыйную мову і/або мовы іншых меншасьцяў. Выраз „прыватнага характару“ адносіцца да ўсяго, што ня мае афіцыйнага характару.

*Параграф 3*

70. Гэты артыкул мае на мэце забясьпечыць магчымасьць напісаньня таксама й на мове меншасьці мясцовыя найменьні, назвы вуліцаў і іншыя тапаграфічныя пазначэньні, прызначаныя для агульнага ведама. Пры ажыцьцяўленьні на практыцы гэтага палажэньня дзяржавы маюць права належным чынам улічваць свае спэцыфічныя ўмовы й сваю заканадаўчую сыстэму, уключаючы, пры неабходнасьці, заключэньне пагадненьняў зь іншымі дзяржавамі. У галіне, якую ахоплівае гэтае палажэньне, прызнаецца, што Бакі ня маюць аніякіх забавязаньняў заключаць пагадненьні зь іншымі дзяржавамі. І наадварот, не выключаецца магчымасьць, што застаецца нязьменнай юрыдычная забавязальная прырода існых пагадненьняў. Гэтае палажэньне зусім не азначае афіцыйнага прызнаньня мясцовых найменьняў на мовах меншасьцяў.

## Артыкул 12

71. Гэтае забавязаньне накіраванае на пашырэньне ў сьвятле міжкультурных абменаў (гл. артыкул 6, параграф 1) ведаў культуры, гісторыі, мовы й рэлігіі як нацыянальнае большасьці, так і нацыянальных меншасьцяў. Мэта гэтага — стварыць клімат талерантнасьці й дыялёгу, як тое зазначана ў прэамбуле да дадзенае рамкавае Канвэнцыі і ў Дадатку II да Венскай дэклярацыі кіраўнікоў дзяржаваў і ўрадаў. Сьпіс, прыведзены ў другім параграфе, ня ёсьць вычарпальным, а словы „доступ да школьных падручнікаў“ таксама маюць на ўвазе друкаваньне школьных падручнікаў і іх набыцьцё ў іншых краінах. Забавязаньне забясьпечваць роўныя магчымасьці ў атрыманьні адукацыі на ўсіх роўнях для асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, адлюстроўвае заклапочанасьць, выказаную ў Венскай дэклярацыі.

## Артыкул 13

*Параграф 1*

72. Забавязаньне Бакоў прызнаць за асобамі, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, права на стварэньне й кіраваньне сваімі ўласнымі прыватнымі ўстановамі адукацыі й падрыхтоўкі кадраў фармулюецца пры ўмове адпаведнасьці гэтых установаў адукацыйнай сыстэме бакоў і, у прыватнасьці, правілаў у сфэры абавязковай адукацыі. Установы, узгаданыя ў гэтым параграфе, могуць падлягаць такому ж кантролю, як і ўсе іншыя ўстановы такога кшталту, асабліва што да якасьці навучаньня. Пры адпаведнасьці прынятым нормам навучаньня важна, каб усе выдадзеныя дыплёмы афіцыйна прызнаваліся. Адпаведнае нацыянальнае заканадаўства ў гэтай сфэры павінна грунтавацца на аб'ектыўных крытэрах і паважаць прынцып недыскрымінацыі.

*Параграф 2*

73. Ажыцьцяўленьне права, сфармуляванага ў параграфе 1, зусім не азначае якога-небудзь фінансавага абавязку для закранутага Боку, але яно таксама й не выключае магчымасьць такога ўнёску.

## Артыкул 14

*Параграф 1*

74. Забавязаньне Бакоў прызнаць за асобай, якая належыць да нацыянальнае меншасьці, права вывучаць мову сваёй меншасьці тычыцца аднаго з асноўных для гэтых асобаў сродкаў дзеля сьцьверджаньня й захаваньня іхнае саматоеснасьці. У гэтым ня можа быць аніякіх выняткаў. Бяз шкоды прынцыпам, сфармуляваным у параграфе 2, гэты параграф не вымагае пазытыўных дзеяньняў, у прыватнасьці фінансавага кшталту, з боку дзяржавы.

*Параграф 2*

75. Гэтае палажэньне тычыцца вывучэньня мовы меншасьці ці адукацыі на ёй. Прызначаючы магчымыя фінансавыя, адміністрацыйныя й тэхнічныя цяжкасьці вывучэньня мовы меншасьці ці адукацыі на ёй, гэтае палажэньне было складзена вельмі асьцярожна, пакідаючы Баком шырокую свабоду выбару. Абавязак чыніць намаганьні, каб забясьпечыць вывучэньне мовы меншасьці й адукацыю на ёй, залежыць ад шматлікіх чыньнікаў, у прыватнасьці, ад існаваньня дадатковага попыту з боку асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў. Выраз „наколькі гэта магчыма“ азначае, што вывучэньне мовы меншасьці ці адукацыя на ёй залежаць ад фінансавых магчы-

масьцяў закранутага Боку.

76. У тэксьце наўмысна не даецца аніякае дэфініцыі выразу „існаваньне дадаткового попыту“, што, дзякуючы такой асьцярожнай фармулёўцы, дазваляе Бакам улічваць спэцыфічныя ўмовы сваіх краінаў. Баком пакідаецца права выбару сродкаў і структураў забесьпячэньня разгляданай адукацыі ў межах іхнай адукацыйнай сыстэмы.

77. Узгаданыя ў гэтым параграфе альтэрнатывы — „магчымасьць вывучаць мову сваёй меншасьці ці атрымліваць адукацыю на гэтай мове“ — ня ёсьць узаемавыключальнымі; нават калі артыкул 14, параграф 2 не накладае на дзяржавы аніякага абавязку забясьпечваць вывучэньне мовы меншасьці й адукацыю на ёй, ён не перашкаджае ім рабіць гэтага. Адным з сродкаў ажыцьцяўленьня мэты дадзенага палажэньня магла б стаць дзьвюхмоўная адукацыя. Выказанае ў гэтым параграфе забавязаньне можа быць пашыраным і на дашкольную адукацыю.

***Параграф 3***

78. Магчымасьць вывучэньня мовы меншасьці ці атрыманьня адукацыі на гэтай мове павінна ажыцьцяўляцца бяз шкоды вывучэньню афіцыйнае мовы ці адукацыі на гэтай мове. Насамрэч, веданьне афіцыйнай мовы — гэта чыньнік сацыяльнае злучнасьці й інтэграванасьці.

79. Дзяржавы, у якіх існуе больш чымся адна афіцыйная мова, павінны самі разьвязаць своеасаблівыя праблемы, якія можа працягнуць ажыцьцяўленьне на практыцы гэтага палажэньня.

**Артыкул 15**

80. Гэты артыкул зьмяшчае забавязаньне Бакоў ствараць умовы, неабходныя для эфэктыўнага ўдзелу асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, у культурным, сацыяльным, эканамічным жыцьці, а таксама і ў справах дзяржаўнага кіраваньня, у прыватнасьці ў тых, якія тычацца гэтых асобаў. Ён перадусім накіраваны на забесьпячэньне сапраўднай роўнасьці паміж асобамі, якія складаюць большасьць. З мэтаю стварэньня ўмоваў, неабходных для эфэктыўнага ўдзелу асобаў, якія належаць да нацыянальнае меншасьці, Бакі могуць у межах іхных канстытуцыйных сыстэмаў рабіць найперш наступныя захады:

— кансультацыі з гэтымі асобамі праз належныя працэдуры і, у прыватнасьці, праз іхныя прадстаўнічыя інстытуцыі пры разглядзе заканадаўчых або адміністрацыйных захадаў, якія могуць наўпроства закранаць гэтых асобаў;

— далучэньне гэтых асобаў да выпрацоўкі, ажыцьцяўленьня й ацэнкі плянаў і праграмаў нацыянальнага і рэгіянальнага разьвіцьця, якія могуць наўпроства закранаць гэтых асобаў;

— ажыцьцяўленьне ў супрацоўніцтве з гэтымі асобамі дасьледаваньняў, накіраваных на ацэнку ўзьдзеяньня, якое могуць чыніць на гэтых асобаў праектаваныя пляны й праграмы разьвіцьця;

— эфэктыўны ўдзел асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, у працэсе прыняцьця рашэньняў і ў прадстаўнічых інстытуцыях як на нацыянальным, так і на мясцовым роўні;

— дэцэнтралізацыя або лякальныя формы кіраваньня.

**Артыкул 16**

81. Гэты артыкул мае на мэце забясьпечыць абарону супраць захадаў, якія зьмяняюць параўнальныя прапорцыі насельніцтва ў геаграфічных зонах, дзе жывуць асобы, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, і якія накіраваныя на абмежаваньне правоў і свабодаў, што вынікаюць з дадзенае рамкавае Канвэнцыі. У якасьці прыкладаў падобных захадаў можна прывесьці экспрапрыяцыю, высяленьне або зьмены межаў адміністрацыйных акругаў з мэтаю абмежаваньня скарыстаньня з гэтых правоў і свабодаў („gerrymandering“).

82. Артыкул забараняе толькі захады, якія накіраваныя на абмежаваньне правоў і свабодаў, што вынікаюць з дадзенае рамкавае Канвэнцыі. Было палічана немагчымым пашырыць гэтую забарону на захады, якія ў якасьці наступстваў будуць мець абмежаваньне гэтых правоў і свабодаў, паколькі часам падобныя захады могуць быць цалкам апраўданымі й законнымі (напрыклад, перасяленьне жыхароў вёскі з мэтаю пабудовы плаціны).

**Артыкул 17**

83. Гэты артыкул зьмяшчае два забавязаньні, якія ёсьць важнымі для аховы й разьвіцьця іхнае саматоеснасьці (гл. таксама артыкул 5, параграф 1). Першы параграф трактуе права свабодна ды мірна ўсталёўваць кантакты праз дзяржаўныя межы, тымчасам як другі параграф абараняе права ўдзельнічаць у дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў (гл. таксама ў гэтай сувязі палажэньні артыкулу 7 што да сходаў і задзіночаньняў).

84. Палажэньні гэтага артыкулу ў значнай ступені абапіраюцца на параграфы 32.4 і 32.6 Капэнгагенскага дакумэнту

НБСЭ. Было палічана непатрэбным уключаць у тэкст адмысловае палажэньне аб праве ўсталёўваць і падтрымліваць стасункі ўнутры тэрыторыі нейкае дзяржавы, паколькі было вырашана, што гэтае пытаньне было дастатковым чынам разгледжанае іншымі палажэньнямі дадзенае рамкавае Канвэнцыі, у прыватнасьці, артыкулам 7 дачынна свабоды сходаў і задзіночаньняў.

**Артыкул 18**

85. Гэты артыкул заахвочвае Бакі ўключаць, апроч існых міжнародных актаў і там, дзе гэта апраўдваецца спэцыфічнымі ўмовамі, двухбаковыя й шматбаковыя пагадненьні ў абарону нацыянальных меншасьцяў. Ён таксама стымулюе трансмежавае супрацоўніцтва. Як гэта падкрэсьліваецца ў Венскай дэкларацыі і ў Дадатку II да яе, пазначаныя пагадненьні й супрацоўніцтва маюць вялікае значэньне ў забесьпячэньні талерантнасьці, дабрабыту, стабільнасьці й спакою.

***Параграф 1***

86. Двухбаковыя й шматбаковыя пагадненьні, пра якія ідзе размова ў гэтым параграфе, могуць, напрыклад, заключацца ў сфэрах культуры, адукацыі й інфармацыі.

***Параграф 2***

87. У гэтым параграфе падкрэсьліваецца значэньне трансмежавага супрацоўніцтва. Абмен інфармацыяй і досьведам паміж дзяржавамі — гэта важны інструмэнт паглыбленьня ўзаемаразуменьня і ўзаемнага даверу. У прыватнасьці, трансмежавае супрацоўніцтва дае перавагу ў тым, што яно дазваляе рабіць адпаведныя крокі „на месцы“, адмыслова прыстасаваныя да жаданьняў і патрэбаў закранутых асобаў.

**Артыкул 19**

88. Гэты артыкул прадугледжвае магчымасьць абмежаваньняў, засьцярогаў ці выняткаў. Калі забавязаньні, зьмешчаныя ў дадзенай рамкавай Канвэнцыі, маюць свае адпаведнікі ў іншых міжнародных актах, у прыватнасьці, у ЭКПЧ, дык дазваляюцца толькі тыя абмежаваньні, засьцярогі ці выняткі, якія прадугледжаныя гэтымі актамі. Калі забавязаньні, зьмешчаныя ў дадзенай рамкавай Канвэнцыі, ня маюць сваіх адпаведнікаў у іншых міжнародных праўных актах, дык дазваляюцца толькі тыя абмежаваньні, засьцярогі ці выняткі, якія, фігуруючы ў іншых міжнародных прававых актах (такіх, як ЭКПЧ) наконт іншых забавязаньняў, ёсьць слушнымі.

## *ЧАСТКА III*

**Артыкул 20**

89. Асобы, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, забавязаныя паважаць Канстытуцыю й нацыянальнае заканадаўства. Відавочна, аднак, што падобная спасылка на нацыянальнае заканадаўства не дае Баком права ігнараваць палажэньні дадзенае рамкавае Канвэнцыі. Асобы, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, павінны таксама паважаць правы іншых. У гэтай сувязі можна спасылацца на прыклад сытуацыі, калі асобы, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, знаходзяцца ў меншасьці на агульнанацыянальным роўні, але складаюць большасьць у адным з рэгіёнаў дзяржавы.

**Артыкул 21**

90. Гэтае палажэньне падкрэсьлівае значэньне фундамэнтальных прынцыпаў міжнароднага права і ўдакладняе, што абарона асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў, павінна ажыцьцяўляцца ў адпаведнасьці з гэтымі прынцыпамі.

**Артыкул 22**

91. Гэтым палажэньнем — якое абапіраецца на артыкул 60 ЭКПЧ — фармулюецца добра вядомы прынцып. Яно мае на мэце забясьпечыць ужываньне тых тэкстаў нацыянальнага і міжнароднага права ў сфэры правоў чалавека, якія ёсьць найбольш спрыяльнымі для асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў.

**Артыкул 23**

92. У гэтым палажэньні закранаюцца стасункі паміж дадзенай рамкавай Канвэнцыяй і Канвэнцыяй у абарону правоў чалавека й асноўных свабодаў, на якую спасылаецца прэамбула. Дадзеная рамкавая Канвэнцыя аніяк ня можа зьмяніць гарантыі правоў і свабодаў, зьмешчаных у Канвэнцыі ў абарону правоў чалавека і асноўных свабодаў. І наадварот, правы й свабоды, якія вынікаюць з сфармуляваных прынцыпаў у дадзенай рамкавай Канвэнцыі й якія маюць свае адпаведнікі ў Канвэнцыі ў абарону правоў чалавека й асноўных свабодаў, павінны інтэрпрэтавацца ў адпаведнасьці з палажэньнямі апошняй.

## *ЧАСТКА IV*

**Артыкулы 24-26**

93. Дзеля забесьпячэньня далейшага кантролю за ўжываньнем дадзенае рамкавае Канвэнцыі Камітэту міністраў

даручана задача сачыць ажыцьцяўленьне на практыцы дадзенае рамкавае Канвэнцыі Дамоўнымі бакамі. Камітэт міністраў будзе вызначаць формы ўдзелу ў мэханізьме ажыцьцяўленьня на практыцы дадзенае рамкавае Канвэнцыі для дзяржаваў, якія ня ёсьць складнікамі Рады Эўропы.

94. Кожны Бок павінен перадаваць Генэральнаму сакратару, пэрыядычна й кожны раз, як гэта запатрабуе Камітэт міністраў, інфармацыю наконт ажыцьцяўленьня на практыцы дадзенае рамкавае Канвэнцыі. Генэральны сакратар будзе перадаваць гэтую інфармацыю ў Камітэт міністраў. Аднак першы даклад, мэта якога — даць поўную інфармацыю наконт заканадаўчых і іншых захадаў, якія зрабіў кожны Бок дзеля далейшага ажыцьцяўленьня на практыцы забавязаньняў, сфармуляваных у дадзенае рамкавае Канвэнцыі, павінен быць перададзеным на працягу пэрыяду ў адзін год пасьля ўваходжаньня ў моц дадзенае рамкавае Канвэнцыі для разгляданага Боку. Наступныя даклады будуць прызначаныя для дапаўненьня інфармацыі, зьмешчанай у першым дакладзе.

95. З мэтаю забесьпячэньня эфэктыўнасьці кантролю за ажыцьцяўленьнем на практыцы дадзенае рамкавае Канвэнцыі ў апошняй прадугледжваецца стварэньне кансультацыйнага камітэту. Місія гэтага Камітэту — дапамагаць Камітэту міністраў пры ацэнцы адпаведнасьці захадаў, зробленых кожным Бокам дла далейшага ажыцьцяўленьня на практыцы прынцыпаў, сфармуляваных у дадзенай рамкавай Канвэнцыі.

96. Камітэту міністраў належыць вызначыць на працягу пэрыяду ў адзін год пасьля ўваходжаньня ў моц дадзенае рамкавае Канвэнцыі, склад ды працэдуры кансультацыйнага камітэту, складнікі якога павінны мець прызнаную кампэтэнцыю ў галіне абароны нацыянальных меншасьцяў.

97. Кантроль за ажыцьцяўленьнем на практыцы дадзенае рамкавае Канвэнцыі будзе зьдзяйсьняцца, наколькі гэта магчыма, пры павазе прынцыпу транспарэнтнасьці. У гэтай сувязі было б пажаданым разгледзець магчымасьці публікаваньня дакладаў і іншых тэкстаў, якія вынікаюць з такога кантролю.

## *ЧАСТКА V*

98. Заключныя палажэньні, зьмешчаныя ў артыкулах 27-32, засноўваюцца на ўзоры заключных палажэньняў для канвэнцыяў і пагадненьняў, заключаных у межах Рады Эўропы. У дадзенай рамкавай Канвэнцыі няма артыкулу пра засьцярогі: апошнія дазволеныя толькі тады, калі яны прызнаюцца міжнародным правам. За выняткам артыкулаў 27 і 29, заключныя палажэньні не вымагаюць асобнага камэнтару.

**Артыкулы 27 і 29**

99. Дадзеная рамкавая Канвэнцыя адкрытая для падпісаньня дзяржавамі-складнікамі Рады Эўропы, а таксама, пры запрашэньні Камітэтам міністраў, і іншымі дзяржавамі. Пад „іншымі дзяржавамі“ маюцца на ўвазе дзяржавы, якія бяруць удзел у Нарадзе па бясьпецы й супрацоўніцтву ў Эўропе. Гэтыя палажэньні ўлічваюць Венскую дэкларацыю, паводле якой дадзеная рамкавая Канвэнцыя павінна таксама быць адкрытай для падпісаньня й дзяржавамі-няскладнікамі (гл. Дадатак II да Венскай дэкларацыі сустрэчы кіраўнікоў дзяржаваў і ўрадаў Рады Эўропы).

*З ангельскай мовы пераклаў Алесь ЛАГВІНЕЦ*

*Тадэвуш Анджэй* ***АЛЬШАНЬСКІ***

# *Новая Эўропа перад новым мурам*

Зыходзячы з сумысьля падкрэсьленай пастаноўкі пытаньня, яго аўтар уважае традыцыю Рэчы Паспалітай за пазытыўную, а яе так ці інакш зразуметую спадчыну — за актуальную. Аднак нельга не заўважыць, што ў гэтым пытаньні залучаны непаразуменьні — гэта, відавочна, апрыёрны погляд, які можа аказацца слушным, а можа і не. Паглядзім.

Таму, па-першае, колькі заўвагаў наконт уступу. „Пазытыўнасьць" або „нэгатыўнасьць" якой-колечы традыцыі залежыць не ад своеасаблівасьці гэтай традыцыі, а ад сьветагляду ацэньваючага. Дзеля гэтага кожнае гістарычнае дазнаньне ў кожным часе ёсьць ня толькі годным, але й вартым аналізу, таму што калі ня кожнаму пакаленьню, дык кожнай эпосе даводзіцца будаваць уласны вобраз мінуўшчыны, якую мы заўсёды спасьцерагаем праз прызму ўласнага часу і, хутчэй за ўсё, інакш абачыць яе ня можам. Зь іншага боку, аднак, такія аналізы не павінны быць „пільнымі" — гісторыяграфія і, асабліва, гісторыязофія ня любіць пасьпеху. Урэшце, пастаўленае пытаньне было сфармулявана як прадстаўніча-палітычнае — і такога падыходу да яго мы будзем датрымлівацца і надалей.

### *Рэч Паспалітая колькіх нацыяў?*

Па-другое і найважнейшае: ніколі не існавала нічога такога, як Рэч Паспалітая многіх нацыяў. Гэтая фармулёўка ёсьць праявай асноватворнага непаразуменьня і, адначасова, — крыніцай ілюзорнай надзеі, залучанай у разгляданым пытаньні. Існавала адно Рэч Паспалітая Дзьвюх Нацыяў (*nationes*): польскай і літоўскай, г.зн. каронкай шляхты і літоўскай, грамадзянаў двух гаспадарстваў, што складалі Рэч Паспалітую, незалежна ад іх нацыянальнасьці (gens). Першая была польскай або рускай (украінскай) нацыянальнасьці, другая — пераважна рускай (беларускай), апрача іх была яшчэ была пруская і інфлянцкая шляхта, пераважна нямецкай нацыянальнасьці. Паколькі ні мяшчане, ні сяляне да нацыі (*natio*) не належалі і не зьяўляліся грамадзянамі, іх нацыянальнасьць ня мела значэньня, бо яны не былі „прыроджанымі". Падобным парадкам ня меў значэньня факт, што шляхецкі стан утварала шмат нацыянальнасьцяў (мы назвалі тут толькі галоўныя), у чым, зрэшты, Рэч Паспалітая не была ў тым часе выняткам. Якраз таму якое-колечы вяртаньне да ідэі Рэчы Паспалітай Дзьвюх Нацыяў сёньня немагчымае, незалежна ад таго, як ацэньваць гэтую ідэю і яе рэалізацыю. Бо яе падставай была ідэя палітычнай і этнічнай нацыі (*natio*). Слыннае *gente Ruthenus, natione Polonus* не азначае, насуперак сёньняшнім тлумачэньням, *паляк рускага паходжаньня, але польскі грамадзянін рускай нацыянальнасьці*. Гэтая ідэя дзяржаўнай нацыі, абапёртай на прававой аснове, а не этнічнай, дагэтуль захавалася ў Заходняй Эўропе (Францыя, Гішпанія), але ў нашай частцы кантынэнту яна належыць да незваротнай мінуўшчыны: тут паняцьце нацыянальнай прыналежнасьці аддзялілася ад дзяржаўнай прыналежнасьці. Няшмат тут зьмяніла — як вядома — і ўзьнікненьне этнічна „чыстых" дзяржаваў. У выніку і сужыцьцё этнічных нацыяў ды арганізуючых яго дзяржаваў мусіць абапірацца на іншых прынцыпах, чымся сужыцьцё дзяржаўных нацыяў. Таму відавочна, што тое, да чаго мы найбольш прывязаны ў традыцыі даўнай Польшчы, найбольш неактуальна падчас пераломy XX і XXI стагодзьдзяў. Існуюць, тым ня менш, іншыя элемэнты спадчыны даўнай Польшчы, вартыя сёньня ўвагі, да чаго мы неўзабаве зьвернемся.

### *Межы Эўропы*

Калі гавораць аб Эўрапейскіх Супольнасьцях (бо аб „Супольнасьці“ гаварыць усё яшчэ не выпадае) і „далучэньні“ да яе краін Цэнтральнай Эўропы, то падаецца, што нават у выпадку Польшчы гэтае „далучэньне“ абапёртае хутчэй на мітах і „багабойлівых зычэньнях“, чымся на цьвярозай ацэнцы наяўнай сытуацыі. Важнейшае, аднак, тое, што мы вельмі рэдка задумваемся над тым, што працэс задзіночаньня Эўропы разам з тэхнічна-эканамічнымі аспэктамі мае ідэйны і геапалітычны аспэкт, які абапіраецца на акрэсьленай канцэпцыі Эўропы. А ня ведаючы гэтага, мы нярэдка разглядаем Эўрапейскія Супольнасьці як штосьць адметнае ад таго, чым яны ў сапраўднасьці ёсьць.

Ідэйным фундамэнтам Эўрапейскіх Супольнасьцяў ёсьць ідэя „Сьвятой Рымскай імпэрыі“ ў спрошчанай і зрацыяналізаванай, асьветніцка-пазытывістычнай вэрсіі. Да асноватворных перакананьняў, што яго ўтвараюць, належыць культ мінуўшчыны, а таксама касмапалітызм, які над вартасьцямі „племені“ ўзьнімае „агульначалавечы“, надзвычай пры гэтым элітарны ідэал (я здаю сабе справу з таго, што фармулюю тут грубыя спрашчэньні, але толькі так можна сьцісла й ясна выкласьці заблытаныя справы). Імпульс дзьвюх войнаў умацаваў на Захадзе гэты ідэал, узбагаціўшы яго пацыфізмам, асновай адукацыі на дзесяцігодзьдзі сталася перакананьне, што прычынай усяго ліха ёсьць „нацыяналізм“ (у заходнім, аб'ектывуючым значэньні, як любая прыхільнасьць да нацыі, ці то этнічнай, ці дзяржаўнай), а крытэрам культурнага разьвіцьця — адкрытае, талерантнае стаўленьне да „іншых“.

Я ня мерыся тут крытыкаваць тыя ці іншыя элемэнты гэтай ідэалёгіі, бальшыня якіх у памяркоўнай форме здаецца слушнай, а ў крайнай — памылковай. Я хачу зьвярнуць увагу на тое, што мы маем дачыненьні з уласна ідэалёгіяй, добра сфармуляванай, хаця й слаба сфармалізаванай. Зь ідэалёгіяй, выніковасьць якой як выхавальніцы нацыяў аказалася невялікай: падзеі апошніх месяцаў яшчэ раз пацьвярджаюць гэта.

Што да геаграфічна-палітычных падставаў Супольнасьцяў, дык не выпадкова, што іх асяродак творыць Францыя, Нямеччына й Італія, краіны, якія напрыканцы першага тысячагодзьдзя стварылі першую „Задзіночанную Эўропу“ — імпэрыю Карля Вялікага. Таму Эўрапейскія Супольнасьці ёсьць спробай задзіночаньня не Эўропы, а таго, што ў Парыжы, Рыме, Лёндане або Боне ўважаецца за Эўропу: ад Атлянтыкі да Одры, Вены й Трыеста...Ну можа яшчэ да Бугу, можа да Дуброўніка. Не далей.

Далей знаходзіцца *barbaricum*, натуральная сфэра ўплываў Расіі, гаспадарства ўжо пазаэўрапейскага. Так разглядае справу Захад і нават найвялікшая прапагандысцкая кампанія гэтага ня зьменіць — тут дзеюць стэрэатыпы, якім шмат стагодзьдзяў. Эўропа — гэта ў сутнасьці не геаграфічнае паняцьце, але геапалітычнае, а ейныя ўсходнія межы былі й бадай застаюцца прадметам спрэчак. З геаграфічнага пункту гледжаньня можна — хоць не без дыскусіі — пагадзіцца, што гэта Ўрал, аднак з геапалітычнага і нават этнічнага пункту гледжаньня гэта яўны нонсэнс, дарма што гэтую тэзу паўтаралі такія знакамітыя палітыкі, як дэ Голь. Эўропа канчаецца ці дзесь у міжрэччы Дняпра і Волгі (паблізу межаў Украіны й Беларусі), ці сягае да Ахоцкага мора. У гэтым другім выпадку, аднак, паняцьце Эўропы траціць усякі ўцямны сэнс.

### *Вольныя з вольнымі*

Што згэтуль для нас вынікае, і як гэта закранае тэму даўнай Рэчы Паспалітай? А тое, што калі — насуперак усім дэклямацыям — Эўрапейскія Супольнасьці не адважацца дапяць да Дняпра, то пэўная форма рэгіянальнай арганізацыі краін Усходняй Эўропы (бо тэрмін „Цэнтральная Эўропа“ абапёрты на залічэньні да Эўропы якраз Расіі), і перадусім міжморскіх краін уздоўж восі Шчэцін-Марыупаль і Талін-Адэса, ня толькі патрэбная, але й неабходная. Бо ўжо неўзабаве мы будзем знаходзіцца паміж двума сусьветнымі гаспадарствамі: задзіночанай Эўропай і адроджанай Расіяй. У адваротным выпадку Польшча станецца памежнай ускраінай Эўропы, а нашы ўсходнія суседзі — сатэлітамі Расіі.

Такі зьвяз, грунтам для якога можа быць адно ўзаемадзеяньне Польшчы і Ўкраіны, безь якога нічога сэнсоўнага тут ня можа ўдацца, быў бы вяртаньнем да геапалітычнай (але — толькі геапалітычнай!) ідэі і ролі шляхотнай Рэчы Паспалітай. Ідэі, бо яна ахапіла б пераважна тую тэрыторыю, што ўваходзіла ў склад манархіі Ягайлавічаў, ролі — бо ўзьнік бы новы дзейнік сілы й раўнавагі ў нашай частцы сьвету, якой не стае з таго часу,

калі Расія апанавала Ўкраіну і Інфлянты. Толькі гэта актуальнае з спадчыны Рэчы Паспалітай (незалежна ад дыскусіі аб актуальнасьці тых ці іншых структурных разважаньняў): ідэя супольнай палітычнай арганізацыі дзяржаваў, разьмешчаных паміж Расіяй, Турэччынай і Аўстрыяй (сёньня — Расіяй і Нямеччынай), ідэя арганізацыі палітычнага прасьцягу ня шляхам заваёваў, але дзякуючы пактам і пагадненьням „вольных з вольнымі, роўных з роўнымі, шляхотных са шляхотнымі“, бо варта не забывацца на існаваньне ў палітыцы маральных вартасьцяў. Толькі так — і адно так.

Гаворка, безумоўна, не ідзе пра зьвяз, фэдэрацыю або нават канфэдэрацыю — гэта тыя тэрміны, на якія нашы ўсходнія суседзі яшчэ дзесяцігодзьдзямі будуць рэагаваць з алергіяй. Новая лучнасьць дзяржаваў, разьмешчаных паміж Балтыкай, Карпатамі і Чорным морам можа быць адно дабрахвотным хаўрусам, зь ясна акрэсьленымі межамі забавязаньняў, а таксама трывалым гаспадарчым паразуменьнем, што схіляла б да выбудовы ў аглядным — і не занадта кароткім — часе паўнакроўнага зьвязу, а пасьля — і супольнага эканамічнага абсягу паводле ўзораў, пададзеных Рымскім трактатам (але не Маастрыхтам, які выклікаў узрушэньне нават у тых нацыяў, якія ня маюць прыклёпаў да перасьцярогаў наконт сваёй сувэрэннасьці).

Але найгоршае, што можа адбыцца ва Ўсходняй Эўропе, гэта хуткае прыняцьцё Польшчы ў Эўрапейскія Супольнасьці, і нават больш — прыняцьцё ў іх толькі Польшчы. Гэта было б фатальна для Польшчы. Бо такі акт стварыў бы на нашай усходняй мяжы новы мур ды раз і назаўсёды перакрэсьліў бы шанцы „ўвойсьця ў Эўропу“ Ўкраіны й Беларусі. Пакінутыя самім сабе, яны хутка будуць падпарадкаваныя, калі ня проста паглынутыя Расіяй, якая ўнутрана адродзіцца значна хутчэй за іх, дзякуючы як сваім рэсурсам сыравіны, так і безразважліваму захапленьню Расіяй колаў, што твораць грамадзкую думку Захаду. А тады наша краіна ізноў можа стаць полем бітвы.

Ня будзем ашукваць сябе — мір ня дадзены нам раз і назаўсёды. Перастанем ілгаць сабе — заходняму сьвету не патрэбныя ні мы, ні латышы, ні нават чэхі й вугорцы. Заходні сьвет мае досыць клопату з самім сабой, і нас у найлепшым выпадку можа ўжываць як інструмэнт для вырашэньня ўласных праблемаў. І ўжо гэта робіць. Нашы праблемы мы павінны вырашаць самі, ня маючы на ўвазе нашы ўласныя, а ня іншыя інтарэсы. І хоць мы ня можам быць упэўненыя, ці прадухіліць узьнікненьне ўсходнеэўрапейскага блёку пагражаючыя нам небясьпекі — адмова ад яго не пазбавіць нас ад іх.

Так, насамрэч, пасьля Рэчы Паспалітай Дзьвюх Нацыяў засталося толькі адно: ідэя, што дзякуючы сабе, а ня дзякуючы апірышчу на ўсходзе або захадзе, на поўначы або поўдні мы можам быць і заставацца вольнымі. І заставацца сабой.

*З польскай мовы пераклаў Валерка БУЛГАКАЎ*
*Czas Kultury nr.1 (43), 1993, ss 63-65.*

# Грамада „Малдова“

23 траўня 1992 г. на ўстаноўчай канфэрэнцыі ў горадзе Менску была створана Грамада „Малдова“ ў Рэспубліцы Беларусь.

Грамада „Малдова“ ёсьць грамадзка-культурнай, няўрадавай, незалежнай, самакіроўнай арганізацыяй, мэта якой — рэалізацыя праграмаў, зьвязаных з вывучэньнем і прапагандай мовы, звычаяў і традыцыяў, гісторыі, культураў малдаўскага й беларускага народаў у інтарэсах разьвіцьця агульначалавечых каштоўнасьцяў, узбагачэньня духоўнага жыцьця народу.

Грамада мае статус рэспубліканскай арганізацыі, якая дзейнічае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Месцазнаходжаньне Рады Грамады „Малдова“ — 220091, г. Менск, гарадок „Дразды“, д. 32.

Асноўнымі мэтамі Грамады ёсьць:

— вывучэньне й прапаганда мовы, звычаяў, традыцыяў, гісторыі самабытных культураў малдаўскага й беларускага народаў і актывізацыя працы па ўзаемаўзбагачэньні гэтых культураў;

— рэалізацыя й абарона грамадзянскіх, эканамічных, сацыяльных і культурных правоў і вольнасьцяў грамадзянаў Рэспублікі Беларусь малдаўскай нацыянальнасьці;

— усталяваньне й разьвіцьцё культурных, эканамічных, навуковых сувязяў між Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Малдова.

Асноўныя задачы Грамады:

— адраджэньне нацыянальных культураў, народнай творчасьці, рамёстваў, фальклёру, прапаганда нацыянальных традыцыяў;

— вывучэньне мовы, літаратуры, музыкі, жывапісу малдаванаў і беларусаў;

— дапамога грамадзянам Рэспублікі Беларусь малдаўскай нацыянальнасьці ў вывучэньні мовы, гісторыі, літаратуры, традыцыяў, звычаяў беларусаў;

— наладжваньне культурных, навуковых, эканамічных сувязяў паміж грамадзкімі арганізацыямі Малдовы й Беларусі.

Штогод таварыствам адзначаюцца сьвяты незалежнасьці Беларусі (27 ліпеня), незалежнасьці Рэспублікі Малдова (27 жніўня), Дзень мовы, які адзначаецца з 1989 году як сьвята адраджэньня малдаўскае мовы (31 жніўня). 1-га сакавіка адзначаецца новы год па месяцовым календары — „Марцішор“.

За час існаваньня грамады яе прадстаўнікі ўдзельнічалі ў міжнароднай канфэрэнцыі пад назвай „Нацыі. Межы. Лёсы“, што праходзіла з 26 лютага па 1сакавіка 1993 г. у Віцебску. У канферэнцыі, апрача грамадзянаў Беларусі, бралі ўдзел прадстаўнікі краінаў СНД, Балтыі, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Румыніі, Нямеччыны, Канады, ЗША.

Сябры Грамады „Малдова“ бралі ўдзел таксама ў менскай канфэрэнцыі „Талерантнасьць і міжнацыянальныя адносіны ў грамадзтве“, арганізаванай Фондам імя Льва Сапегі ў 1994 годзе.

І-шы Сусьветны кангрэс малдаванаў, які меў назву „Наш дом — Малдова“ і праходзіў 4-5 лютага 1994 году ў Кішынёве, стаўся сапраўднай падзеяй для малдаўскага народу. На гэтым форуме прэзыдэнт М.Снегур на ўвесь сьвет абвясьціў, што Рэспубліка Малдова ёсьць незалежнай дзяржавай, прызнанай сусьветнай супольнасьцю, і ні пра якое ўзьяднаньне з Румыніяй гаворкі быць ня можа. У кангрэсе, апрача прадстаўнікоў грамадзка-культурных аб’яднаньняў нацыянальных меншасьцяў Рэспублікі Малдова, узялі ўдзел дэлегацыі ад малдаўскіх грамадаў з краінаў СНД. Кангрэс адкрыў вядомы пісьменьнік Іон Друцэ.

На жаль, крызысны стан, што ахапіў усе сфэры жыцьця, не дазваляе выращыць статутныя і плянавыя задачы Грамады. Адна з галоўных цяжкасьцяў — адсутнасьць офісу, фінансавых сродкаў. Да гэтага часу Грамада яшчэ не арганізавала нядзельныя курсы для вывучэньня малдаўскай мовы.

У сувязі зь некампактным расьсяленьнем малдаванаў на тэрыторыі Беларусі, не існуе малдаўскіх калектываў мастацкае самадзейнасьці. Таму у заключных імпрэзах фэстывалю нацыянальных культураў, што пройдзе напрыканцы траўня ў Горадні, самадзейныя малдаўскія калектывы зь Беларусі ўдзельнічаць ня змогуць, але запрошаны калектыў мастацкай самадзейнасьці з Крыўлянскага раёну Малдовы.

Апрача падтрыманьня сувязяў з нацыянальна-культурнымі аб’яднаньнямі Беларусі, Грамада супрацоўнічае зь бела-

рускай дыяспарай у Малдове, якая цяпер мае тры таварыствы. Варта адзначыць, што нягледзячы на існаваньне трох беларускіх таварystваў, кожнае зь іх мае сваё ўласнае памяшканьне.

Беспасярэдне нацыянальнымі меншасьцямі й малдаўскай дыяспарай займаецца Дэпартамэнт Рэспублікі Малдова па справах нацыянальных меншасьцяў, зь якім таксама наладжана супрацоўніцтва. Падтрымліваюцца сувязі з культурна-навуковым аб'яднаньнем малдаўскіх выхадцаў з Прыднястроўя, якое гуртуе каля 5000 чалавек — „Трансьністрыя“ (малдаўская назва Левабярэжжа).

Кантактны тэлефон: 250-57-06.

Старшыня Грамады — **Георгій Пятровіч ПУШКАШ**, тэл. 238-19-24 (хатні).

Намесьнік старшыні Грамады — **Мікалай Андрэевіч ФЁДАРАЎ**, тэл. 234-85-78 (службовы), 237-85-10 (хатні).

■

# *Менскае гарадзкое таварыства расійскай культуры „Русь“*



МГТРК „РУСЬ“ было ўтворана на ўстаноўчай канфэрэнцыі 30 верасьня 1992 г. з мэтаю вывучэньня й прапаганды расійскай культуры, умацаваньня братэрства расійскага й беларускага народаў. Кіраўнік таварыства — **УЛАСАЎ Генадзь Іванавіч.**

Асноўнай задачай сваёй дзейнасьці таварыства лічыць задавальненьне нацыянальных, духоўных і культурных патрэбаў расійскага насельніцтва г.Менска, а таксама прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, зацікаўленых у разьвіцьці расійскае культуры ў Рэспубліцы Беларусь, абарону іхных інтарэсаў. Таварыства ладзіць масавыя мерапрыемствы, зьвязаныя з гістарычнымі падзеямі, юбілейнымі датамі жыцьця і творчасьці выдатных дзеячоў расійскае гісторыі, навукі й культуры, ладзіць сустрэчы зь пісьменьнікамі, майстрамі мастацтваў, навукоўцамі, прадстаўнікамі царквы і г.д. Апроч таго, „Русь“ займаецца вывучэньнем гісторыі Расіі, яе філязофскае й гістарычнае спадчыны, традыцыяў народнага жыцьця й спрыяе іх распаўсюджаньню. Таварыства ставіць задачы вывучэньня, аднаўленьня, аховы й абароны помнікаў культуры й гісторыі, стварэньня этнаграфічных, літаратурных і іншых музэяў, арганізацыі бібліятэк, гурткоў і клюбаў па вывучэньні расійскае культуры, нацыянальных навучальных установаў.

Адной з прычынаў, што прывялі да стварэньня арганізацыі, паводле словаў кіраўніка таварыства, была дзяржаўная палітыка „беларусізацыі“. Напачатку свайго стварэньня таварыству даводзілася з прычыны адсутнасьці памяшканьня праводзіць свае паседжаньні раз на месяц у будынку бібліятэкі імя Пушкіна. Пасьля зьяўленьня Цэнтру нацыянальных культураў таварыства ладзіць свае паседжаньні кожны чацьвер у памяшканьні Дома вэтэранаў па вуліцы Янкі Купалы. На гэтых паседжаньнях разглядаюцца тэмы, зьвязаныя з гісторыяй, культурай Расіі й Беларусі, адбываюцца прэзэнтацыі мастацкіх твораў. Сапраўднай падзеяй для таварыства сталася сьвяткаваньне 100-годзьдзя з дня нараджэньня Сяргея Ясеніна, якое адбылася 3 кастрычніка і сабрала каля 550 чалавек. За час свайго існаваньня разам зь Дзяржаўным музеем Рэспублікі Беларусь МГТРК „Русь“ ладзіла выставы расійскіх мастакоў зь Беларусі, спрабавала арганізаваць мясцовых расійскіх пісьменьнікаў

і працягвае супрацоўнічаць зь некаторымі зь іх. Адбывалася віншаваньне вэтэранаў Другой сусьветнай вайны — сяброў таварыства.

Таварыства падтрымлівае сувязі з суайчыньнікамі ў Расійскай Фэдэрацыі. Беспасярэдне расійцамі за мяжой займаецца Міністэрства па справах нацыянальнасьцяў і рэгіянальнай палітыкі Расійскай Фэдэрацыі. На свае паседжаньні прадстаўнікоў „Русі“ запрашае Дзяржаўная дума Расіі. МГТРК уваходзіць у Кангрэс расійскіх грамадаў (Конгресс русских общин).

Таварыства праводзіла навуковыя канфэрэнцыі на тэмы: „Кірыла і Мэтод, настаўнікі славянскія“, „Вялебны Сэрафім Сароўскі“, „Сьвяты і Дабраверны князь Аляксандар Неўскі“. Таксама прадстаўнікі таварыства бралі ўдзел у Скарынаўскіх гістарычных чытаньнях, арганізаваных Акадэміяй Навук, Беларускай праваслаўнай царквой, Міністэрствам культуры Беларусі, Нацыянальным навукова-асьветным цэнтрам імя Ф.Скарыны. Рэгулярна ў апошні чацьвер кожнага месяца ладзяцца гістарычныя чытаньні таварыства.

Таварыства апякуецца будаўніцтвам праваслаўнага Пакроўскага храму ў вёсцы Крупцы.

Паводле словаў кіраўніка таварыства, апроч праблемы з памяшканьнем, ня вырашанае фінансавае пытаньне: мясцовыя прадстаўнікі расійскае меншасьці ніяк не падтрымліваюць „Русь“, а расійскія арганізацыі, зь якімі навязала кантакты таварыства, таксама ня маюць на гэта сродкаў. Таварыства фактычна працуе на голым энтузіязьме.

Кантактны тэлефон: 264-26-54,

**УЛАСАЎ Генадзь Іванавіч**

■

# *Эвангелічная рэфармацкая царква ў Беларусі*

Эвангелічныя кальвіністкія грамады зьявіліся ў Беларусі ў XVI стагодзьдзі ў рэчышчы эўрапейскае Рэфармацыі. Першая рэфармацыйная грамада заснавалася ў 1553 годзе ў Берасьці-Літоўскім пад пратэкцыяй князя Мікалая Радзівіла VI. А ў 1556 годзе, паводле гістарычных зьвестак, ужо існавала менская рэфармацыйная кангрэгацыя (будынак знаходзіўся па вуліцы Вялікая Зборавая, цяпер — Інтэрнацыянальная). Інтэнсыўны рост кальвініцкіх грамадаў у XVI стагодзьдзі стымуляваў нечуванае раней у Беларусі пашырэньне эвангелічнае асьветы праз дзейнасьць новых школаў і рэфармацыйных кнігавыдавецтваў у Берасьці, Нясьвіжы, Лоску, Заслаўі, Слуцку, Вільні, Любчы ды іншых местах.

Найбуйнейшыя кнігавыдаўцы і тэолягі: князі Радзівілы (пратэстанты), Сымон Будны, Мацей Кавячынскі, Ян Карцан, Пётра Бластус-Кміта, Даніэль Лянчыцкі, Васіль Цяпінскі, Ян Глябовіч, Салямон Сультжэр, Мэльхіёр Пяткевіч, Якуб Марковіч, Андрэй Волан, Ян Краінскі, Хрыстафор Дарагастайскі. Найбуйнейшыя рэалізаваныя праекты: у 1562 годзе выйшаў у сьвет рэфармацыйны „Катэхізыс“ Д-ра Мацея Кавячынскага, Сымона Буднага, Лаўрына Крышкоўскага на беларускай мове. У 1563 годзе ў Нясьвіжы для дарослых і дзяцей выдадзены „Катэхізыс“ і канцыянал Д-ра Мацея Кавячынскага. У тым самым годзе ў Берасьці выдадзена поўная літургічная Біблія пад апякунствам князя Мікалая Радзівіла VI.

У XVII стагодзьдзі супраць рэфармаваных грамадаў у Беларусі быў разьвязаны тэрор каталіцкай контррэфармацыі, якая скарыстала цяжкі палітычны стан Вялікага княства Літоўскага. Эвангелічныя кальвініцкія зборы, аднак, працягвалі сваю дзейнасьць і навучаньне, хаця колькасьць кангрэгацыяў значна паменшылася.

Акупацыя камуністамі Беларусі ў 1920 годзе паводле Рыскай дамовы прывяла да ліквідацыі рэфармацыйных збораў у Менску, Койданаве, Слуцку, Капылі. Прафэсура і пастары Слуцкай рэфармацкай гімназіі вымушаны былі эміграваць, а будынкі рэфармацкіх гістарычных цэркваў у Койданаве і Слуцку былі разбура-



**Рэфармацкі збор у Заслаўі**
(цяпер Спасаўская царква).
Помнік архітэктуры XVI—XVII стст.

ныя дынамітам. Цяпер у Беларусі захаваліся адзінкавыя будынкі гістарычных рэфармацыйных збораў. Ніводзін зь іх ня вернуты, а, напрыклад, унікальны рэнэсансавы будынак збора ў Кухцічах да гэтага часу не рэстаўруецца і асуджаны на разбурэньне. Несумяшчальнасьць рэфармацыйных дэмакратычных каштоўнасьцяў з камуністычнай практыкай выявілася ў тым, што беларускіх хрысьціянаў-рэфарматаў камуністы выраклі на дэпартацыі і фізычнае зьнішчэньне. Паводле свайго сацыяльнага становішча сябры рэфармацыйных збораў належалі галоўным чынам да адукаванага асяродзьдзя, што таксама ўяўлялася савецкай уладай як нешта непрыймальнае.

Пасьля 1991 году зьявілася магчымасьць для ўзнаўленьня гэтае хрысьціянскае традыцыі. У 1992 годзе была адроджаная і юрыдычна прызнаная менская рэфармацкая грамада.

Эвангелічная рэфармацыйная царква ў Беларусі дзейнічае так, як і іншыя эвангелічныя зборы ва ўсім сьвеце, што рэфармаваныя ў сваім вучэньні і трымаюцца ягоных прынцыпаў у царкоўным жыцьці (гэта Рэфармацыйная, Прэсьбітэрыянская, Кангрэгацыйная і Аб'яднаная цэрквы). Дактрынальнымі стандартамі

Вільня, 28 ліпеня 1590 г.
ЯН ГЛЯБОВІЧ
Тэстамэнт
(фрагмент завяшчаньня,
адносна правоў на Заслаўскі Рэфармацкі Збор)
"... калі б хто з нашчадкаў маіх,
забыўшыся страху Божага
і гэтай веры праўдзівай раз спазнанай,
у якой з дапамогай Бога
празь мяне выхаваныя былі,
захацеў бы гэты Збор Эвангелічны Заслаўскі
альбо Дуброўскі
да веры і вызнаньня папежскага,
новахрышчэнскага або якога інакшага навярнуць,
адступіўшы да якой сэкты або царквы аблуднай,
інакшай ад нашай канфэсіі Эвангелічнай Рэфармацкай,
для каторай я гэты Збор фундаваў,
тады гэты патомак траціць валоданьне
і права пераемнасьці на гэты Збор
і фундацыю яго.
А гэты Збор і ўся фундацыя ад мяне наданая,
мае быць perpetuum (навечна)
да Збору Эвангелічнага Віленскага далучаная.
Або калі хто з маіх сыноў або патомкаў маіх
пры гэтай веры застаецца,
тады мае права атрымаць у спадчыну
гэты Збор і фундацыю на яго.
Ён заўжды і вечна з дапамогай і абаронай Божай
мае абавязак абараняць вызнаньне
і Збор Эвангелічны
з канфэсіямі рэфармацкімі, гельвецкімі згодна,
а не інакш.
А для дзетак навучаньня нямала фундую,
для міністраў і бакаляўраў,
каб з таго дабра карысталіся
для выхаваньня добрасумленнасьці
і прыстойнасьці".
ЯН ГЛЯБОВІЧ,
кашталян менскі,
падскарбі земскі,
пісар вялікалітоўскі,
ваявода.

беларускіх рэфарматаў зьяўляюцца: Апостальскае крэда, Гайдэльбэргскі катэхізм, Другая Гельвэцкая канфэсія, Вэстмінстэрскае веравызнаньне, Дорцкі канон. Таксама супольным для рэфармаваных збораў ёсьць выкарыстаньне роднай мовы ў набажэнствах і ў канцылярыі. У Менску мы ўжываем, апроч беларускай, таксама ангельскую, нямецкую, францускую, расійскую, чэскую і польскую мовы. Збор карыстаецца беларускім поўным тэкстам Бібліі ў перакладзе Янкі Станкевіча і Яўхіма Гітліна (выданьне 1973 году), а таксама іншымі беларускімі вэрсіямі Старога і Новага Запаветаў. У

адрозьненьне ад каталіцкага касьцёлу або праваслаўнае царквы, нутраная будова рэфармаваных збораў мае дэмакратычны характар згодна з Эвангельлем. Кожная кангрэгацыя ёсьць аўтаномнай і незалежнай. Гэтыя самастойныя грамады могуць на тэрыторыі сваіх нацыянальных дзяржаваў аб'ядноўвацца ў сыноды з утварэньнем рады, якая выконвае функцыі каардынацыі і ўзаемадапамогі. На міжнародным узроўні найбольшая частка збораў уваходзіць у Сусьветны альянс рэфармаваных збораў, які з XIX стагодзьдзя месьціцца ў Жэнэве.

У сувязі з тым, што грамада ў Менску адроджаная нядаўна, эвангелічная дзейнасьць адбываецца галоўным чынам у сталіцы Беларусі і навакольных мясцох традыцыйнага існаваньня рэфармаваных збораў. Для нармалёвае працы ёсьць патрэба ў падрыхтоўцы кваліфікаваных пастараў, настаўнікаў Слова Божага, ад якіх патрабуецца высокая тэалягічная адукацыя і гуманітарная культура. Цяпер некалькі прадстаўнікоў зь Беларусі набываюць такую тэалягічную адукацыю ва ўнівэрсытэтах Чэхіі і Нідэрляндаў. Збор падтрымлівае традыцыйныя сувязі з хрысьціянамі-рэфарматамі Швайцарыі, Нідэрляндаў, Летувы, Украіны, Расіі, Паўднёвай Карэі, Японіі, Злучаных Штатаў Амэрыкі, Канады, Францыі і некаторых іншых краінаў.

Беларускі эвангелічны рэфармацкі збор (гэта афіцыйны назоў) складаецца ў асноўным з маладых людзей, але ёсьць вернікі і сталага ўзросту. На штонядзельныя набажэнствы запрашаюцца ўсе на адрас: Менск, праспэкт газэты „Праўда“, 11 (будынак Міжнароднага адукацыйнага цэнтру) 1-шы паверх. Пачатак багаслужэньня а 12-й гадзіне.

Кантактны тэлефон: 32-16-72,

пастар **Лявон ЛІПЕНЬ**

■

# *Фэдэрацыйны зьвяз эўрапейскіх нацыянальных групаў (ФЗЭНГ)*

Эўрапейскія нацыянальныя групы супрацоўнічалі ў пэрыяд паміж Першай і Другой сусьветнымі войнамі (1925-1938) у рамках штогадовых „Кангрэсаў нацыянальнасьцяў“, галоўнай рэзыдэнцыяй якіх была Жэнэва. У Вене выходзіў іх друкаваны орган — часопіс „Нацыя й дзяржава“. Гэтае супрацоўніцтва эўрапейскіх нацыянальных групаў скончылася ў 1938 г.

У 1949 г. у Вэрсалі пад Парыжам была заснаваная новая галоўная арганізацыя эўрапейскіх меншасьцяў і нацыянальных групаў: Фэдэрацыйны Зьвяз Эўрапейскіх Нацыянальных Групаў (ФЗЭНГ). Згодна з статутам, Зьвяз служыць інтарэсам эўрапейскіх нацыянальных групаў і мае на мэце „захаваньне нацыянальнай самабытнасьці, мовы, культуры й жыцьцёвых правоў эўрапейскіх нацыянальных групаў, а таксама выступае за распрацоўку міжнародна прызнанага права нацыянальных групаў“.

Зьвяз падтрымлівае дзейнасьць ААН і Рады Эўропы ў забесьпячэньні правоў чалавека і асноўных вольнасьцяў на аснове фэдэрацыйнай пабудовы Эўропы, якая гарантавала асобным нацыянальным групам і меншасьцям самакіраваньне і захаваньне самабытнасьці.

Тэрмін „нацыянальная група“ статут ФЗНГ вызначае наступным чынам: „Нацыянальная група — гэта нацыянальная супольнасьць, якая характарызуецца адрознымі адзнакамі — такімі, як уласная мова, гісторыя, культура й традыцыі. Яна не стварае на сваёй радзіме ўласнае дзяржавы альбо жыве за межамі дзяржавы сваёй нацыянальнасьці“.

Дзейнасьць ФЗЭНГ ахоплівае наступныя сфэры:

— Звароты, скаргі й просьбы ў адрас урадаў, парлямэнтаў і органаў улады ў выпадку, калі тая ці іншая нацыянальная група просіць у ФЗЭНГ дапамогі. Такія дакумэнты звычайна складаюцца прэзы-

дыюмам і прымаюцца на сходзе дэлегатаў.

— Інфармацыйная дзейнасьць: ФЗЭНГ выдае свой бюлетэнь пад назвай ***FUTL-Aktuell***, які выходзіць 6 разоў на год. У ім абмяркоўваюцца актуальныя праблемы нацыянальных групаў і друкуецца пабежная інфармацыя.

— З 1961 г. выдавецтва Браўмюлер у Вене разам з ФЗЭНГ выдае часопіс ***Europa ethnica***, у якім, у прыватнасьці, друкуюцца афіцыйныя паведамленьні ФЗЭНГ.

— Вялікім посьпехам у палітычных колах карыстаецца Даведнік эўрапейскіх нацыянальных групаў *(Handbuch der europäischen Volksgruppen)*, выдадзены ў 1969.

— Кангрэсы ФЗЭНГ, што арганізуюцца звычайна штогод, кожны другі год праходзяць пад назваю „Кангрэс нацыянальнасьцяў" і ладзяцца супольна зь Міжнародным інстытутам па правох нацыянальнасьцяў і рэгіяналізму (INTEREG) і моладзю эўрапейскіх нацыянальных групаў (JEV).

— Азнаямляльныя падарожжы ў эўрапейскія рэгіёны, населеныя меншасьцямі.

ФЗЭНГ працуе на двух узроўнях. З аднаго боку, ён імкнецца вырашыць асобныя актуальныя праблемы нацыянальных групаў, якія ўваходзяць у яго склад, з другога — запэўніць эўрапейскія парлямэнты, урады і міждзяржаўныя органы ў тым, што будучае Эўропы неразумна плянаваць і рэалізоўваць без уліку інтарэсаў нацыянальных групаў.

Тут неабходна падкрэсьліць, што ФЗЭНГ выступае выключна за правы групаў не праводзіць і не падтрымліваць палітыкі ірэдэнтызму і не выказваецца наконт агульнапалітычных і сьветапоглядных пытаньняў. Пастуляты ФЗЭНГ упершыню былі выкладзеныя ў гэтак званых „Галоўных прынцыпах правоў нацыянальных групаў", сфармуляваных і адзінадушна прынятых у 1967 г. на кангрэсе ў Абэнра/Абэрнадзе (Abenra/Abernade).

„Галоўныя прынцыпы" атрымалі свой працяг у новай рэдакцыі, распрацаванай у 1985 г. у Жэнэве супольна з AIDLCM (Міжнародная асацыяцыя ў абарону моваў і культураў, якія знаходзяцца пад пагрозай) і з INTEREG (Інстытут па правох нацыянальнасьцяў і рэгіяналізму).

Каб мець магчымасьць больш эфэктыўна ажыцьцяўляць свае намеры, ФЗЭНГ дамагаецца, каб ягоныя адносіны з Эўрапейскім парлямэнтам рэгуляваліся на ўзроўні кантактнага камітэту.

З 1989 ФЗЭНГ мае „кансультацыйны статус" у Радзе Эўропы ў Стразбурзе. Сталым прадстаўніком ФЗЭНГ ёсьць віцэ-прэзыдэнт П'ер Ле Моан (Pierre Le Moine).

ФЗЭНГ працуе ў цяжкіх умовах — як у палітычным, так і ў фінансавым пляне. Аднак больш чым 40-гадовае супрацоўніцтва яго сяброў, што сутыкаюцца, як правіла, з падобнымі цяжкасьцямі і праблемамі, сьведчыць, што неабходнасьць супрацоўніцтва эўрапейскіх нацыянальных групаў па-ранейшаму актуальная, а заўсёдная гатовасьць сяброў ФЗЭНГ матар'яльна й пэрсанальна падтрымліваць існаваньне Зьвязу красамоўна гаворыць пра ягоную значнасьць.

Усе сябры прэзыдыюму, за выключэньнем Генэральнага сакратара, працуюць у Зьвязе на грамадзкіх пачатках.

Статут патрабуе, каб пры падборы віцэпрэзыдэнтаў улічваліся рэгіянальныя структуры й розныя моўныя групы. Скарбнік Зьвязу таксама абіраецца з шэрагаў сяброўскіх арганізацыяў.

Каб паўней гарантаваць актыўны ўдзел усіх сяброў у працы Зьвязу, у статуце прадугледжана, што прэзыдэнт можа займаць гэтую пасаду максымум 4 гады, г.зн., можа быць перавыбраны толькі адзін раз.

Уважаючы сябе за наступніка эўрапейскіх кангрэсаў нацыянальнасьцяў (1925-1938 гг.), ФЗЭНГ у 1985 г. (пасьля амаль 50-гадовага перапынку) сумесна з AIDLCM і INTEREG адрадзіў такі кангрэс. На кангрэсе ягоныя арганізатары (AIDLCM-INTEREG-FUEV) прапанавалі сумесна распрацаваныя галоўныя прынцыпы эўрапейскага права нацыянальных групаў.

У 1992 г. кангрэс у Котбусе прыняў „Канвэнцыю аб асноўных правах эўрапейскіх нацыянальных групаў", навуковую распрацоўку якіх зьдзейсьніла Эўрапейская акадэмія ў Боцэне (Паўднёвы Тыроль). На гэтым самым кангрэсе быў прыняты новы статут ФЗЭНГ.

З 1992 г. ФЗЭНГ прызнаны арганізацыяй, якая служыць грамадзка карысным мэтам і зарэгістраваная ў судзе першай інстанцыі ў Флэнзбурзе.

■

# Інфармацыя

## аб дзейнасьці Каардынацыйнай рады па справах нацыянальных меншасьцяў пры Кабінэце міністраў Рэспублікі Беларусь з 18.01.95 па 6.12.95.

Пытаньні, разгледжаныя на паседжаньнях Рады:

Аб задавальненьні адукацыйных патрэбаў нацыянальных меншасьцяў;

аб задавальненьні патрэбаў нацыянальных меншасьцяў у галіне культуры;

аб практыцы работы мясцовых органаў улады з нацыянальна-культурнымі аб'яднаньнямі нацыянальных меншасьцяў у Менску, Гарадзенскай вобласьці;

аб распрацоўцы дзяржаўнае Канцэпцыі нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў у Рэспубліцы Беларусь;

аб правядзеньні навукова-практычнае канфэрэнцыі па праблемах нацыянальных меншасьцяў;

аб правядзеньні І-га фэстывалю нацыянальных культураў;

аб мэтанакіраваным фінансаваньні праграмаў нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў на агульнадзяржаўным і мясцовым узроўнях;

аб вывучэньні практыкі задавальненьня патрэбаў нацыянальных меншасьцяў у іншых, асабліва ў сумежных дзяржавах;

аб працы Цэнтру нацыянальных культураў;

аб выдзяленьні памяшканьня для нацыянальна-культурных аб'яднаньняў нацыянальных меншасьцяў.



# Второй съезд мусульман Беларуси

В соответствии со своим Уставом, Мусульманское религиозное объединение в Республике Беларусь провело 19 января 1996 г. свой Второй съезд мусульман. Съезд проходил в г.Минске, в Центре национальных культур (Дом ветеранов). На съезд прибыли делегаты из 17 мусульманских общин, зарегистрированных в органах власти. Всего же на данный момент действуют 22 общины.

Согласно переписи 1989 г., в Беларуси проживают ориентировочно 30-35 тысяч мусульман, из них 12,5 тысяч татар, 5 тыс. азербайджанцев, 3,5 тыс. узбеков, 2,5 тыс. казахов, по 1-2 тыс. таджиков, туркменов, кыргызов, афганцев, и примерно столько же студентов из исламских стран обучаются в вузах Беларуси.

На съезде был обсуждён отчётный доклад председателя Управления (муфтия) Мусульманского религиозного объединения в Республике Беларусь Александровича И.М., дана оценка прошедшему двухлетнему периоду деятельности Управления (муфтията), намечены пути дальнейшей деятельности. Весьма остро были поставлены вопросы единства и сплочения мусульман, поиска путей для лучшего обучения детей и взрослых, восстановления мечетей и молебных домов, установления и развития контактов с исламскими странами и организациями. Делегаты съезда в своих выступлениях с тревогой отмечали экономические и орга-

низационные трудности на пути возрождения нации и религии, говорили о необходимости поиска экономической поддержки мусульманам Беларуси на этом начальном этапе от единоверцев в исламских странах.

Съездом избрано руководство Мусульманского религиозного объединения в Республике Беларусь (муфтият) в составе 5 человек: председатель — (муфтий) Александрович И.М., члены муфтията — Воронович И.М., Канапацкий И.Б., Криницкий А.А., Расулев Э.С. Избрана и ревизионная комиссия из трёх человек под председательством Рафаловича С.М. Срок полномочий этих органов, согласно Уставу, два года, до января 1998 г.

Съезд принял Постановление, а также Обращение к Президенту, Правительству и Верховному Совету Беларуси с просьбой о помощи мусульманам Беларуси.

**И.АЛЕКСАНДРОВИЧ**

■

# Устаноўчы сход АНМ

26 студзеня 1996 году ў Менску адбыўся ўстаноўчы сход Міжнароднай Акадэміі вывучэньня нацыянальных меншасьцяў (АНМ). Гэта міжнародная незалежная грамадзкая арганізацыя, якая аб'ядноўвае на міждысцыплінарнай аснове найбольш аўтарытэтных навукоўцаў і практыкаў Беларусі ды іншых краінаў, якія працуюць у галіне вывучэньня праблемаў нацыянальных меншасьцяў.

Асноўнымі мэтамі дзейнасьці ёсьць спрыяньне вывучэньню праблемаў нацыянальных меншасьцяў у розных аспэктах і выкарыстаньне атрыманых вынікаў у мэтах гарманізацыі міжнацыянальных зносінаў, кансалідацыя беларускіх ды замежных навукоўцаў і спэцыялістаў, якія вывучаюць праблемы нацыянальных меншасьцяў, з мэтай павышэньня эфэктыўнасьці іхных дасьледаваньняў.

Сярод задачаў АНМ трэба выдзяліць удзел у распрацоўцы канцэпцыі й стратэгіі нацыянальна-культурнага разьвіцьця, у стварэньні інавацыйных формаў адукацыі для нацыянальных меншасьцяў. Апроч таго, Акадэмія садзейнічае ў абароне правоў на інтэлектуальную ўласнасьць, а таксама аказвае сацыяльную дапамогу.

■

# Круглы стол: нацыянальныя меншасьці і грамадзянская супольнасьць

21 лютага адбыўся круглы стол па тэме „Нацыянальныя меншасьці Рэспублікі Беларусь ва ўмовах фармаваньня грамадзянскай супольнасьці", у якой узялі ўдзел прадстаўнікі дзяржструктураў, аб'яднаньняў нацыянальных меншасьцяў і журналісты беларускае прэсы.

Ад імя дзяржаўных структураў, што займаюцца праблемамі нацыянальных меншасьцяў, выступіў адказны сакратар Каардынацыйнае рады па справах нацыянальных меншасьцяў пры Кабінэце міністраў Рэспублікі Беларусь А.Н. Білык. У сваёй прамове ён даў агульную характарыстыку палітыкі дзяржавы ў гэтым пытаньні. Прагучала інфармацыя аб заканадаўчай базе — першай неабходнай умове цывільнага вырашэньня такіх пытаньняў — што створана на гэты час. У прыватнасьці, ён зазначыў, што Беларусь была другой з краінаў СНД (пасьля Украіны), дзе прынялі Закон аб нацыянальных

меншасьцях. Што да дзейнасьці выканаўчай улады, было зазначана, што нягледзячы на існаваньне Цэнтру нацыянальных культураў пры міністэрстве культуры, дзейнасьці грамадзкае Каардынацыйнае рады пры Кабінэце міністраў, да гэтага часу няма дзяржаўнае структуры, накшталт міністэрства ці дэпартамэнта, якая б займалася праблемамі нацыянальных меншасьцяў, як гэта зроблена ў іншых краінах, напрыклад, Летуве ці Малдове. Надалей сп.Білык спыніўся на ролі Каардынацыйнае рады па справах нацыянальных меншасьцяў пры Кабінэце Міністраў Рэспублікі Беларусь, створанай у мінулым годзе, адказным сакратаром якой ён ёсьць. Раду ўзначальвае віцэпрэм'ер беларускага ўраду Русакевіч і складаецца яна з кіраўнікоў нацыянальна-культурных аб'яднаньняў , прадстаўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, дзейнасьць якіх тым або іншым чынам зьвязана з праблемамі нацыянальных меншасьцяў. Рада — гэта грамадзкі орган, і яе рашэньні не абавязковыя для выкананьня, але тое, што яе ўзначальвае віцэпрэм'ер, надае ёй дадатковую вагу.

Прадстаўнік студыі „Тэлесябрына“ беларускага тэлебачаньня прапанаваў прысутным падрыхтаваную яго рэдакцыяй Канвэнцыю па забесьпячэньні мастацкапубліцыстычнай дзейнасьці нацыянальна-культурных аб'яднаньняў.

На сустрэчы прысутнічалі кіраўнікі трох нацыянальна-культурных аб'яднаньняў — татарскага, расійскага і нямецкага. У іхных выступах былі акрэсьленыя як цяжкасьці, паўсталыя перад таварыствамі, так і праблемы, зьвязаныя з агульнадзяржаўнай сытуацыяй. Часам выказваліся нават супрацьлеглыя пункты гледжання (асабліва што тычылася палітычных момантаў), але ў галоўным выступоўцы былі аднадушныя — Цэнтру нацыянальных культураў патрэбны асобны будынак, дзе здолелі б разьмясьціцца ўсе нацыянальна-культурныя аб'яднаньні. Уласаў Г.І., старшыня таварыства расійскай культуры „Русь“, выказаў незадавальненьне адсутнасьцю рэальнай фінансавай падтрымкі з боку ўчынных людзей — прадстаўнікоў расійскае меншасьці ў Беларусі. Кіраўнік татарскага таварыства „Аль-Кітаб“ Шабановіч Б.І., зазначыўшы, што асноўную ролю ў захаваньні татарскае меншасьці ў нашай краіне адыграў іслам, прывёў дадзеныя наконт сучаснага стану ў гэтай галіне: з пабудаваных у Беларусі 100 мячэцяў цяпер захавалася толькі адна (у п.Іўе). У выступе старшыні беларускага таварыства немцаў „Адраджэньне“ Майснэра А.Д. прагучала інфармацыя аб намеры стварыць Цэнтар нямецкай культуры пад Менскам.

Напрыканцы арганізатары зазначылі, што зьбіраюцца рабіць такія сустрэчы рэгулярнымі, на што і будзем спадзявацца.

■

# *Візыт прадстаўніцы Цыганскага праваахоўнага цэнтру*

10-11 сакавіка ў Беларусь зь першым азнаямляльным візытам прыяжджала Чыла Дэр, прадстаўніца Цыганскага праваахоўнага цэнтру ў Будапэшце (Roma Leagal Resourse Centre). RLRC — маладая арганізацыя, створаная ў 1995 г., якая займаецца пытаньнямі юрыдычнае абароны цыганоў у Эўропе. Неабходнасьць стварэньня такога цэнтру была выклікана рэальнымі праблемамі цыганоў Баўгарыі, Венгрыі, Румыніі ды іншых краінаў, дзе існуюць дыскрымінацыя цыганоў і нецярпімае стаўленьне да іх. Напачатку Цыганскі праваахоўны цэнтр паўстаў у Баўгарыі, і ягоная дзейнасьць была пасьпяховай. Зь цягам часу назапашаны досьвед працы было вырашана распаўсюдзіць на ўсю Эўропу.

Чыла Дэр была прынятая ў Беларускім Фондзе Сораса, які арганізаваў яе паездку, наведала Цэнтр нацыянальных культураў, сустрэлася з адказным сакратаром Каардынацыйнае рады па справах нацыянальных меншасьцяў пры Кабінэце міністраў, трапіла на канцэрт цыганскага тэатру песьні.

Госьця з Будапэшту наведала таксама паселішчы цыганоў у Менску: сустрэча зь імі была адной з мэтаў ейнага візыту. Як сказала сама Чыла Дэр, ёй было прыемна даведацца, што ў Беларусі праблемы абароны цыганоў не існуе.

■

# *Першы гэбрайскі фэстываль*

17 сакавіка ў будынку Дзяржаўнае філярмоніі адбыўся першы гэбрайскі фэстываль у Беларусі. Ён праходзіў у рамках Фэстывалю нацыянальных культураў, які завершыцца напрыканцы траўня ў Горадні. На ім прысутнічалі, апроч гэбрайскае дыяспары, прадстаўнікі дыпляматычнага корпусу, Кабінэту міністраў, зацікаўленых арганізацыяў. Фэстываль складаўся зь дзьвюх частак: выстава гэбрайскіх мастакоў, арганізаваная галерэяй „Брама“, і ўласна канцэртная праграма. На ўрачыстым адкрыцьці фэстывалю выступіў прэзыдэнт Аб'яднаньня гэбрайскіх арганізацыяў і грамадаў, заслужаны архітэктар Беларусі Леанід Левін. З прывітальным словам да прысутных зьвярнуўся адказны сакратар Каардынацыйнае рады па справах нацыянальных меншасьцяў пры Кабінэце міністраў Рэспублікі Беларусь А.Н. Білык.



**Выступае вакальна-харэаграфічны ансамбль „Пацеркі" Ізраільскага інфармацыйна-культурнага цэнтру**

У праграме ўзялі ўдзел самадзейныя калектывы зь Менску, Бабруйску, Магілёва, Віцебску. Асабліва вылучаўся прафэсіяналізмам Тэатар песьні СШ №102 г. Менску. Былі адзначаныя таксама выступленьні выхаванцаў нядзельнай гэбрайскай школы пры СШ №23 г.Менску, ансамбля „Пацеркі" Ізраільскага культурна-інфармацыйнага цэнтру.

■

# Анонсы

## * Канфэрэнцыя па праблемах нацыянальных меншасьцяў

Кабінэт міністраў Рэспублікі Беларусь, Каардынацыйная рада па справах нацыянальных меншасьцяў, Працоўная група па распрацоўцы Канцэпцыі нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў, міністэрства адукацыі й навукі, міністэрства культуры, Рэспубліканскі цэнтар нацыянальных культураў у адпаведнасьці з рашэньнем Кабінэту міністраў Рэспублікі Беларусь з 22.05.96—24.05.96 г. у Віцебску ладзяць 1-ую Нацыянальную навукова-практычную канфэрэнцыю „Нацыянальныя меншасьці Беларусі: шляхам супрацоўніцтва й згоды“.

На канфэрэнцыю выносіцца абмеркаваньне наступных пытаньняў:

1. Канцэпцыя разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў Беларусі: меркаваньні й прапановы.
2. Пытаньні дзяржаўна-праўнага рэгуляваньня жыцьцядзейнасьці нацыянальных меншасьцяў Беларусі ў сьвятле міжнароднага досьведу.
3. Гісторыя й сучасны стан узаемадачыненьняў нацыянальных меншасьцяў Беларусі з тытульным этнасам.
4. Праблемы ўзаемадачыненьняў нацыянальных меншасьцяў Беларусі з „мацерыковымі“ краінамі.
5. Праблемы нацыянальна-культурнага разьвіцьця беларускай меншасьці ў краінах блізкага і далёкага замежжа.

Тэлефоны для даведак:
(8-0162) 226-25-14 (у Берасьці),
(8-0172) 222-66-47 (у Менску).

## * Фэстываль нацыянальных культураў

Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Цэнтрам нацыянальных культураў з 24.05.96 па 26.05.96 праводзіцца заключная частка І-га Рэспубліканскага фэстывалю нацыянальных культураў у Горадні.

Фэстываль мае на мэце садзейнічаць:

— гарманізацыі міжнацыянальных адносінаў сродкамі культуры;

— стварэньню спрыяльных умоваў для індывідуальнай і калектыўнай творчай мастацкай дзейнасьці асобам розных нацыянальнасьцяў;

— удасканаленьню формаў і мэтадаў узаемадзеяньня органаў і ўстановаў культуры з нацыянальнымі культурна-асьвет-



ГРОДНА 96

ными аб'яднаньнямі;

— прапагандзе й папулярызацыі найлепшых узораў паэтычнага, музычнага, танцавальнага, выяўленчага, дэкарацыйна-стасаванага мастацтва нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

Рэальна фэстываль пачаўся яшчэ ў 1995 годзе, калі праводзіліся фэстывалі на ўзроўні нацыянальна-культурных аб'яднаньняў. У заключных мерапрыемствах возьмуць удзел тыя творчыя калектывы, што выдатна выступілі на сваім нацыянальным фэстывалі, таксама сюды будуць запрошаныя госьці з суседніх краінаў. Паводле папярэдняга пляну мерапрыемства будзе праходзіць наступным чынам:

У першы дзень пройдзе ўрачыстае адкрыцьцё, на якім будуць рэпрэзэнтавацца творчыя магчымасьці 13-ці аб'яднаньняў-удзельнікаў, а ўвечары ў двары каралеўскага замку пройдзе вечар знаёмстваў пад назвай „Міжнацыянальны падворак". У гэты ж дзень у горадзе пройдуць выступленьні беларускіх прафэсійных калектываў, у рэпэртуар якіх уваходзяць песьні і танцы розных народаў.

У другі дзень, апроч працягу прэзэнтацыяў праграмаў нацыянальна-культурных аб'яднаньняў, у цэнтры горада кожнае аб'яднаньне атрымае свой дворык, дзе будуць прадстаўленыя рамёствы, кухня, нацыянальныя традыцыі. Увечары адбудзецца канцэрт замежных гасьцей фэстывалю.

Трэці дзень — заключны. У памяшканьні Абласнога драматычнага тэатру адбудзецца падвядзеньне вынікаў фэстывалю і галя-канцэрт, на якім выступяць найлепшыя калектывы.

У рамках фэстывалю пройдзе мастацкая выстаўка, складзеная з твораў прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў. Таксама арганізатарамі заплянавана, што падчас фэстывалю ў рэстаранах горада будуць падавацца нацыянальныя стравы.

■

# Абітурієнтові-96

Білоруська асоціація українців "Ватра" доводить до відома українського населення республіки, що Міністерство освіти і науки, втілюючи в життя Закон про національні меншини в Беларусі та враховуючи клопотання асоціації українців, дозволяє відкрити з 1996/97 навчального року в Брестському держуніверситеті вивчення української мови та літератури, як другого фаху, в рамках здвоєного фаху "Беларуская мова і літаратура, украінская мова і літаратура".

Підготовка фахівців вищезгаданого напрямку буде здійснюватися згідно затверджених в усталеному порядку навчальних планів, і в межах контрольних цифр, доведених університетові наказом міністра освіти. Значна кількість місць буде надана для вихідців з сільських місцевостей. Не виключено, що для представників української діаспори доцільно буде впровадити співбесіду при вступі на знання української мови хоча б на побутовому рівні.

Принагідно варто звернути увагу на те, що молодим українцям, які хочуть здобути вищу освіту з даного фаху, доведеться вже сьогодні надати більш вагомого значення і вивченню мови білоруської, мови корінної нації, серед якої ми живемо.

Стосовно майбутнього, при поліпшенні економічного стану республіки, а також якщо в цьому буде дійсна соціальна потреба, наша асоціація вживе заходів для того, щоб відкрити фах, де на першому місці стоятиме вивчення української мови та літератури, а на другому — англійської чи, наприклад, німецької.

Щодо інших відомостей, зв'язаних з цим фахом, то їх можна отримати в приймальній комісії Брестського держуніверситету.

В разі виникнення будь-яких ускладнень, непорозумінь, тощо просимо негайно звертатися до нашої асоціації на адресу: 220064, Менск, вул. Ландара, 68-16. тэл. 278 22 96. БАУ "Ватра".

***Головна Рада асоціації***
***Президент Богдан Михайлюк***

■

# „Эўрофорум“ Цэнтар Эўрапейскіх Досьледаў і Культурных Ініцыятываў

— недзяржаўная і некамэрцыйная (non profit) установа, афіцыйна зарэгістраваная ў чэрвені 1994 году, аб'ядноўвае звыш трыццаці экспэртаў і перакладчыкаў, спэцыялістаў у галіне філязофіі, культуралёгіі, літаратуры, а таксама сацыялёгіі, эканомікі, эўрапейскіх досьледаў і міжнародных адносінаў.

**Стратэгічная мэта:** інтэграцыя Беларусі ў эўрапейскі інтэлектуальны, культурны і інфармацыйны кантэкст.

***З статуту “Эўрофоруму”:***

“Галоўнай мэтай дзейнасьці ... ёсьць насычэньне беларускай культурна-інфармацыйнай прасторы Эўрапейскаю інфармацыяй, садзейнічаньне працэсам інтэлектуальнага і культурнага абмену...”

Аснову прадмета дзейнасьці складаюць:

— распрацоўка і рэалізацыя навукова-дасьледніцкіх і інфармацыйна-культурных праграмаў і праектаў у галіне інфармацыі і культуры

— выдавецкая дзейнасьць

— стварэньне і распаўсюджаньне інфармацыйнай базы па інфармацыйна-культурных аспэктах эўрапейскай інтэграцыі

— адукацыйная дзейнасьць.

**Бягучая дзейнасьць:**

***праграма “Другая Эўропа”:***

Сярэдне-Ўсходнеэўрапейскае культурнае супрацоўніцтва

праводзіцца:

цыкль сэмінараў “Філязофія, культуралёгія, літаратура Сярэдне-Ўсходняе Эўропы”

***квартальнік “Фрагмэнты”*** філязофіі, культуралёгіі, літаратуры (першы нумар — восень 1996)

***праграма “Сучаснае мысьленьне”***

за 1993-1994 гг. надрукаваныя пераклады зь Мішэля Фуко, Жака Дэрыды, Жана-Франсуа Льётрана, Жыля Дэлёза, Карля Яспэрса. Рыхтуецца да публікацыі: Рычард Році, Гліфард Гіц, Эдмунд Гусэрль і інш.

***Выдавецкая дзейнасьць:*** выдадзена кніга Энтані Сміта “Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі”. Рыхтуюцца пераклады Марціна Гайдэгера, Мішэля Фуко, Міларада Павіча, Хорхе-Люіса Борхеса, Станіслава Ігнацы Віткевіча. Мілана Кундэры і інш.

***Праграма “Нацыянальныя меншасьці й міжэтнічны/міжкультурны дыялёг у Беларусі”:***

у 1994 годзе была ўтворана Група Дасьледаваньняў і Абароны правоў нацыянальных меншасьцяў Беларусі

з восені 1995 году выдаецца інфармацыйна-культурны бюлетэнь **“Форум”**

***Праграма “Архіў сучаснай гісторыі”*** сумесна з фундацыяй “KARTA” (Польшча) і “МЭМАРЫЯЛ” (Украіна, Расія) складаецца з “Архіў дэмакратычнай апазыцыі” “Вывучэньне рэпрэсіўнай сыстэмы”

Дырэктар “Эўрофоруму” **Ігар Бабкоў**

Кіраўнік Групы Дасьледаваньняў і Абароны правоў нацыянальных меншасьцяў, галоўны рэдактар інфармацыйна-культурнага бюлетэню **“Форум” — Павал Церашковіч**

Кіраўнік праграмы “Другая Эўропа” — **Алег Дзярновіч**

выдавецкі аддзел — **Віялета Кавалёва**

міжнародныя кантакты — **Алесь Істомін.**



**Мячэць у Некрашунцах каля Ліды.** Здымак 1938 г.